ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 3—4
ЛЮТЫ 1934 г.

ЗМЕСТ:



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефоны: 21044, па камутатару - 12.





Перадавы

# Па-баявому змагацца за выкананне рашэнняў XVII з'езда

XVII з'езд ВКП(б) увойдзе ў гісторыю партыі, у гісторыю сусветнага рэвалюцыйнага рабочага руху як з'езд бальшэвікоў-пераможцаў. Гэты з'езд быў з'ездам поўнага бальшэвіцкага адзінства, нябачанай згуртаванасці бальшэвіцкіх радоў вакол гістарычна праверанага кіраўніцтва партыі, загартаванага ў барацьбе са шматлікімі ворагамі, вакол геніяльнага пераемніка Леніна т. Сталіна, здолеўшага адстаяць і ўзбагаціць вялікае вучэнне Маркса—Леніна, адстаяць і ажыццявіць вялікія заветы Ільіча.

XVII з'езд увойдзе ў гісторыю нашай партыі, у гісторыю сусветнай рэвалюцыі як з'езд вялікіх вынікаў і яшчэ большых перспектыў і задач.

Асноўны класавы вынік, як указваў т. Сталін у сваім дакладзе на з'ездзе, заключаецца ў тым, што з 5 грамадска-эканамічных укладаў, якія былі ў нашай краіне ў момант увядзення нэпа, 3 уклады, а імення: патрыярхальная гаспадарка, прыватна-гаспадарчы капіталізм і дзяржаўны капіталізм ужо не існуюць. Дробна-таварная гаспадарка адсунута на другарадную пазіцыю, а социялістычны ўклад з'яўляецца пануючым ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Социялізм перамог у нашай краіне—на адной шостай частцы зямного шара. На справе даказана абсалютная правільнасць і жыццёвасць тэорыі Леніна—Сталіна аб магчымасці пабудовы социялізма ў адной краіне.

Вынікі першай пяцігодкі вывелі Совецкі саюз у рады перадавых індустрыяльных краін, зрабілі непрыступнай цытадэллю і несакрушальным аплотам сусветнай пролетарскай рэвалюцыі, стварылі ўсе неабходныя прадпасылкі для пераможнага завяршэння будаўніцтва социялізма.

Даклад т. Сталіна і рашэнні XVII з'езда партыі аб другой пяцігодцы разгортваюць перад намі грандыёзную праграму социялістычнага будаўніцтва. «Даклад т. Сталіна—праграма для бальшэвікоў. Усё перадавое, што ёсць у нашай краіне, цяпер вывучае і прадумвае змест гэтага дакладу, які сам па сабе ўжо з'яўляецца важнейшым маторам нашага развіцця» («Правда»).

Такія лічбы, як штогодні прырост прамысловай прадукцыі на 15,5 проц., як рост у 1937 г. гадавой прамысловай прадукцыі супроць 1932 г. на 214 проц.; рост капітальных укладанняў у народную гаспадарку з 50,5 млрд. р. у першай пяцігодцы да 133,4 млрд. руб. у другой пяцігодцы; рост спажывання ў 2—3 разы вышэй супроць 1932 г. і т. д.—красамоўна гавораць аб перспектывах далейшага, сапраўды гіганцкага росту нашай краіны ў другой пяцігодцы.

Другая пяцігодка будзе пяцігодкай поўнай ліквідацыі ўсіх рэштак капіталістычных элементаў і класаў наогул, завяршэннем тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін нашай народнай гаспадаркі, поўным завяршэннем калектывізацыі ў сельскай гаспадарцы, велізарнейшым развіццём прадукцыйных сіл ва ўсіх галінах нашай эканомікі. У выніку другой пяцігодкі соцыялістычны спосаб гаспадаркі стане адзіным як у горадзе, так і ў вёсцы.

У 1937—апошнім годзе другой пяцігодкі, ужо каля 80 проц. усёй прамысловай прадукцыі будуць даваць новыя і рэканструяваныя прадпрыемствы, створаныя ў першай і другой пяцігодцы. Адна гэта лічба гаворыць аб тым, якое грамаднае рашаючае значэнне набывае задача асваення новай тэхнікі і новых вытворчасцей, як вяліка гістарычнае значэнне лозунга т. Сталіна—пафас новага будаўніцтва дапоўніць **пафасам асваення** новых заводаў, новай тэхнікі.

Рашаючае значэнне ў гэтых адносінах мае рост прадукцыйнасці працы і палепшанне якасці прадукцыі. З'езд устанавіў рост прадукцыйнасці працы на 63 проц. (супроць 41 проц. у першую пяцігодку), зніжэнне сабекошту на 26 проц., адначасова з задачай палепшання якасці і асартымента прадукцыі па ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Асабліва вялікія задачы XVII з'езд партыі паставіў перад намі ў галіне сельскай гаспадаркі. У другой пяцігодцы ў агромнай меры ўзрастае роля машына-трактарных станцый. У другой пяцігодцы будзе завершана механізацыя сельскай гаспадаркі. Рост тэхнічнай ўзброенасці дасць магчымасць к канцу другой пяцігодкі ўзараць трактарамі яравога кліна і зябліва 80 проц., правесці сяўбу на 55 проц., уборку зернавых—на 60 проц. Малацьба будзе механізавана на 85 проц.

Далейшай механізацыяй сельскай гаспадаркі і радам агра-тэхнічных мерапрыемстваў, паўсямесным увядзеннем правільнага севазвароту, ахопам пасеўных плошчаў зяблівым ворывам на 50 проц., пасевам чыстасортным насеннем на 75 проц., мы павінны дабіцца павышэння ўраджайнасці зернавых да 10 цэнтн. з га, супроць сярэдняй ураджайнасці 1928—1932 гг. у 7,5, цукровага бурака—да 200 цэнт. з га, лёну 3,7 супроць 2,2.

Другая пяцігодка вырашае ў асноўным праблему жывёлагадоўлі, якая найбольш хваравіта перанесла рэарганізацыйны перыяд у сельскай гаспадарцы. Прадукцыя жывёлагадоўлі ў другой пяцігодцы вырастае ў 4,25 разы. Уздым жывёлагадоўлі ў другой пяцігодцы пойдзе як па лініі росту пагалоўя стада ў соўгасах і калгасных таварных фермах, так і па лініі ўздыму індывідуальнай жывёлагадоўлі калгаснікаў.

Побач з гэтым другая пяцігодка намячае значнае павышэнне якасных паказчыкаў жывёлагадоўлі і развіццё кармавой базы. Узняць жывёлагадоўлю—гэта задача ўсёй партыі. «Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая» **(Сталін).**

Ажыццяўленне праграмы другой пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі будзе азначаць «буйны крок наперад у справе зжывання векавой процілегласці чалавечага грамадства—процілегласці паміж горадам і вёскай». «Па сваёй грамадскай форме сельская гаспадарка робіцца аднатыпнай з прамысловасцю, сельска-гаспадарчая праца ператвараецца ў markedзнавіднасць працы індустрыяльнай... значна зблі-

жаюцца тэмпы росту вытворчасці прамысловай і сельскай гаспадаркі, зближаюцца ўзроўні матар'яльнага дабрабыту і культуры працоўных горада і вёскі» (рэзалюцыя XVII з'езда).

* * *

Работа транспарта і тавараабароту атрымалі суровую ацэнку на з'ездзе.

«Транспарт,—сказаў т. Сталін,—з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спаткнуцца, ды, бадай, пачынае спатыкацца ўся наша эканоміка і перш за ўсё тавараабарот».

Асноўны недахоп у рабоце транспарта—адсутнасць яшчэ неабходнай дысцыпліны, расхлябанасць, разгільдзяйства. Транспарт яшчэ не перабудаваўся па-новаму, не зжыты канцэлярска-бюракратычныя метады ў яго рабоце. Тэрытарыяльныя арганізацыі мала ўважлівы к рабоце чыгункі.

Палітаддзелы, як заявіў т. Варашылаў на з'ездзе, таксама не знашлі яшчэ патрэбных метадаў і форм работы, а таму і іх благатворнага ўплыву яшчэ не адчуваецца.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб Данецкай дарозе мае дачыненне да ўсіх дарог і паказвае, наколькі на транспарце вяліка яшчэ дробна-буржуазная распушчанасць, расхлябанасць, недысцыплінаванасць, мяжуючая з дзяржаўным злачынствам. Сістэма безадказнасці ўкаранілася на транспарце зверху данізу. Рэгуліровачны загад яшчэ не стаў законам для нашых чыгуначных вузлоў.

Адсюль вывад—усім партыйным арганізацыям падыйсці значна бліжэй да пытанняў транспарта, дапамагчы яму хутчэй зжываць свае недахопы, каб ён мог поўнасцю выканаць свой план 1934 года.

Выключна велізарнае значэнне з'езд удзяліў пытанням тавараабароту.

Хоць і вырас тавараабарот па дзяржаўнаму гандлю і кааперацыі з 19 млрд. у 1930 г. да 49 млрд. у 1933 г., аднак не адпавядае яшчэ тэмпам росту ўсёй народнай гаспадаркі.

Сучаснае становішча тавараабароту не можа задаволіць узросшых патрэбнасцей спажыўцоў. «Таму,—гаворыць т. Сталін на з'ездзе,—задача заключаецца ў тым, каб разгарнуць далей савецкі гандаль, уцягнуць у гэтую справу мясцовую прамысловасць, узмацніць калгасна-сялянскі гандаль і дабіцца новых рашаючых поспехаў у галіне ўздыму савецкага гандлю».

Гэтага яшчэ многія ў нас не ўсвядомілі. Ход тавараабароту па БССР за першыя два месяцы (студзень, люты) 1934 г. выклікае вялікую трывогу за агульнае выкананне гадавога гаспадарчага плана. Мы маем затаварванне звыш як на 17 млн. руб. Па адной сістэме БКС затаварана звыш 7 млн. р. А ў радзе раёнаў адчуваецца недахоп тавараў. І справа не толькі ў недахопе вагонаў, а ў дрэннай рабоце кааперацыі і гандлюючых арганізацый, якія не перабудавалі сваёй работы ў духу рашэнняў XVII партз'езда. Яшчэ і зараз мае месца няведанне ўмоў рынка, попыту спажыўцоў. Большая частка затаварвання падае на галантарэю, зімовае гатовае адзенне, якое, да рэчы, кааператары нядаўна загатовілі (Віцебск).

План тавараабароту па Белгандлю выканан на 71 проц., а па Гомельскаму аддзяленню—толькі на 45 проц.

Дагэтуль нашай кааперацыяй не зжыта сістэма механічнага размеркавання тавараў. У Слуцку, Будакашалёўскім раёне дагэтуль не

адкрыты новыя магазіны «з-за адсутнасці» памяшканняў. Не відаць яшчэ, каб гандлюючыя арганізацыі хоць-бы ў адной галіне выканалі ўказанне т. Сталіна аб «безупынным цыркуляванні тавараў ад месц вытворчасці да спажыўца».

Толькі разгортваннем шырокай сеці гандлёвых баз, магазінаў, крам, канчатковай ліквідацыяй механічнага размеркавання тавараў мы зможам дабіцца рашучага палепшання гандлю і кааперацыі і зніжэння цэн на рынку.

* * *

XVII з'езд партыі даў разгорнутую канкрэтную праграму барацьбы за завяршэнне пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, ён таксама даў ключ да паспяховага выканання гэтай праграмы, указаўшы канкрэтныя шляхі перабудовы форм і метадаў большэвіцкага кіраўніцтва.

Тав. Сталін увесь час вучыць нас, што «пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дано правільнае вырашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі».

Зараз, калі правільнасць палітычнай лініі партыі пацверджана вопытам раду гадоў, калі сіла і аўтарытэт усіх партыйных і совецкіх арганізацый узняты на небывалую вышыню, стала рашаючай і выключнай роля гэтых арганізацый і іх кіраўнікі. «Адказнасць за нашы прарывы і недахопы ў рабоце кладзецца ад гэтага часу на 9/10 не на «аб'ектыўныя» умовы, а на нас саміх, і толькі на нас» **(Сталін).**

Даклад т. Кагановіча на XVII з'ездзе даў разгорнутую праграму перабудовы арганізацыйных форм партыйнай, гаспадарчай, совецкай работы ў адпаведнасці з новай эпохай у развіцці нашай рэволюцыі, новай ступенню развіцця прадукцыйных сіл краіны, у адпаведнасці з неабходнасцю яшчэ больш узмацніць абароназдольнасць краіны. «Да свядомасці кожнага большэвіка павінна дайсці,—гаварыў т. Кагановіч на з'ездзе партыі,—што арганізацыйнае пытанне ставіцца не як выпраўленне маленькіх недахопаў механізма. Арганізацыйнае пытанне пастаўлена Цэнтральным Камітэтам партыі па ініцыятыве т. Сталіна так сама шырока, як шырока разгорнута барацьба за генеральную лінію нашай партыі».

І трэба сказаць, што да гэтага часу не ўсе нашы арганізацыі ўяснілі ўсю палітычную важнасць перабудовы ўсёй работы ў адпаведнасці з новымі задачамі, пастаўленымі перад намі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва. У многіх арганізацыях не толькі раённых, але і гарадскіх—Гомель, Менск, Віцебск, Бабруйск, Слуцк і т. д.—перабудова праведзена ўчарне. Раённыя і гарадскія камітэты рэарганізаваны, замест існуючых аддзелаў гаркомаў і райкомаў вылучаны адказныя інструктары, але стыль, характар работы застаўся ранейшы. У парткомах яшчэ шмат засядаюць. Нават на такім буйным прадпрыемстве, як машынабудаўнічы завод імя Варашылава, створаныя замест цэхавых ячэек парторгі збіраюць усякага роду сходы і паседжанні, не адчуваецца яшчэ сапраўднай аператыўнасці ў рабоце. На адным з прадпрыемстваў Менска—панчошнай фабрыцы, дзе былі створаны парторгі замест цэхавых ячэек, парторг кожны дзень збірае нараду трыкутнікаў і з імі абгаварвае план сваёй работы.

Праўда, сям-там ужо намеціўся пералом у бок аператыўнай работы. Паасобныя інструктары і ў Гомелі, і ў Менску, і ў Віцебску пачынаюць уваходзіць у дэталі работы, канкрэтна, аператыўна, на хаду дапамагаюць знішчаць недахопы. Нядрэнна пачала працаваць

парторгі на дрэваапрацоўчым камбінаце ў Бабруйску, на менскай швейнай фабрыцы «Кастрычнік» і інш. Але ўсё-ж захапляцца першымі вынікамі не трэба. Шмат дзе засталася яшчэ старая коснасць, руціна, непаваротлівасць у рабоце раённых і нізавых партарганізацый.

Перабудова партработы патрабуе перш за ўсё сапраўды большэвіцкага, сталінскага стылю. Справа ідзе аб тым, каб у рабоце ўсіх нашых арганізацый, кожнага члена партыі, комсамольца і беспартыйнага работніка ў якім-бы апараце ці прадпрыемстве ён ні працаваў, забяспечыць такія якасці, як прадбачлівасць, аператыўнасць і жывая сувязь з кіруемымі арганізацыямі і людзьмі, дзелавітасць, не баяцца браць адказнасць за свае аперацыйныя рашэнні і дзеянні; правяраць сябе і другіх у адносінах выканання рашэнняў вышэйшых арганізацый і сваіх уласных рашэнняў; дакладна і сістэматычна вывучаць свае кадры; захоўваць найстражэйшую партыйную і дзяржаўную дысцыпліну.

У чым небяспека ў правядзенні перабудовы? Небяспека заключаецца ў тым,—гаварыў т. Гікало на менскім гарадскім партыйным актыве,—каб не падмяніць карэнную перабудову нашай работы расстаноўкай людзей па апаратных клетачках і на гэтым супакоіцца. Задача ў тым, каб перабудавацца на хаду, так, каб гэта зусім не адбілася на тэмпах і якасці бягучай аператыўнай работы, перабудавацца да канца, ламаючы і сакрушаючы апартуністаў, бюракратаў, чэсных балбатуноў, і іншых элементаў, уважліва падбіраючы новыя большэвіцкія кадры, ставячы іх на важнейшыя аператыўныя ўчасткі.

* * *

Для паспяховага выканання рашэнняў XVII з'езда партыі яны павінны быць даведзены да шырокіх партыйных мас і ўсіх працоўных. Тав Сталін у сваім дакладзе паставіў 6 важнейшых задач у галіне ідэйна-палітычнай работы:

«1. Узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню.

2. Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі.

3. Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі.

4. Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма.

5. Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма.

6. Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

Гэтыя ўказанні правадыра партыі абавязваюць усе партыйныя арганізацыі, як ніколі, заняцца пытаннямі ідэйнай узброенасці партыйцаў. Гэтага, на жаль, не ўсвядомілі многія нашы раённыя арганізацыі. Так, у Чырвонапольскім раёне, Чэрвеньскім, Лагойскім, Дзержынскім і інш. прапрацоўка рашэнняў XVII з'езда партыі пушчана на самацёк, а вярней—яшчэ да яе не прыступілі. Варта адзначыць і тую акалічнасць, што больш паловы цэнтральных праўленняў профсаюзаў БССР таксама не прыступіла да прапрацоўкі рашэнняў XV з'езда партыі. Бабруйскі РК КП(б)Б рашыў перадаць усю справу марксісцка-ленінскай вучобы дому комасветы, сам-жа адстараніўся ад кіраўніцтва гэтай работай.

ЦК КП(б)Б асудзіў работу гэтых арганізацый, прапанаваў усім гаркомам і райкомам партыі звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на прапрацоўку рашэнняў XVII партз'езда.

Ускрыць перад усімі членамі партыі, перад усімі працоўнымі ўсю глыбіню кожнай думкі геніяльнага даклада т. Сталіна, дапамагчы кожнаму члену партыі і кожнаму рабочаму і калгасніку, кожнаму працоўнаму ўсвоіць, зразумець сутнасць рашэнняў гістарычнага XVII партыйнага з'езда, каб ператварыць іх у непасрэдны інструмент практычнай работы,—вось сур'ёзнейшыя задачы кожнай партыйнай арганізацыі. Яны не будуць выканаНы, калі ў першую чаргу самі комуністы не ўзброяць сябе па-сапраўднаму тым велізарным ідэйным багаццем, якім насычаны даклады, рашэнні, матар'ялы з'езда.

Гэту бясспрэчную ісціну вельмі добра зразумелі партыйныя масы нашых перадавых прадпрыемстваў. Вывучаючы даклад т. Сталіна, комуністы самі высоўваюць новыя, жывыя, цікавыя формы работы, кожны творчы пачатак у гэтых адносінах падхапляецца на-ляту. Гібкая форма залікаў, узнікшая ўпершыню на ленінградскім заводзе «Электрасіла», з поспехам прымяняецца на шматлікіх прадпрыемствах Менска, Барысава, Гомеля і Віцебска. Старыя і маладыя члены партыі з незвычайнай актыўнасцю і вялікай адказнасцю рыхтуюцца да гэтых палітычных экзаменаў. На буйнейшых прадпрыемствах Барысава пагалоўна ўсе члены партыі былі ахоплены гэтым экзаменам. З выключнай актыўнасцю прашлі залікі на скурзаводзе «Большэвік», друкарні імя Сталіна. Гэтыя факты відавочна паказваюць, што побач з буйнейшымі недахопамі ў пастаноўцы вывучэння рашэнняў з'езда, многія нізавыя арганізацыі і комуністы паказваюць бліскучыя ўзоры давядзення даклада т. Сталіна і рашэнняў XVII з'езда да самай глыбіні. У многіх нашых гарадах практыкуюць вывучэнне даклада т. Сталіна і рашэнняў XVII з'езда ў рабочай і калгаснай сям'і. Геніяльныя мыслі геніяльнага тэарэтыка і правадыра, глыбока прадуманыя і прачутыя радавымі рабочымі комуністамі, проста і ясна выкладаюцца імі і ўсведамляюцца на жывых прыкладах кожнага прадпрыемства, кожнага калгаса.

Гэта выдатная ініцыятыва адкрывае шырокі прастор для таго, каб зрабіць прапаганду рашэнняў з'езда сапраўды масавай.

Партыйная вучоба ўзбагачаецца масай новых форм, новага вопыту, і кожная наша партыйная арганізацыя абавязана памножыць і поўнацэнна выкарыстаць гэты вопыт.

Ідэйнасць у рабоце і свядомая дысцыпліна—вось у чым была, ёсць і будзе сіла большэвізма на ўсіх этапах яго барацьбы. Гэтая сіла вяла большэвікоў да перамогі ў Кастрычніку, на фронтах грамадзянскай вайны, забяспечыла сусветна-гістарычныя вынікі першай пяцігодкі. Цвёрдая ўпэўненасць у праваце сваёй справы, не толькі вера, але цвёрдае веданне, што справа комунізма непераможна, што мы дзейнічаем на падставе раскрытых Марксам-Леніным навуковых законаў развіцця чалавечага грамадства, што будучае за намі і толькі за намі—неабходныя якасці большэвіка-рэволюцыянера. Іменна гэтыя рысы рабілі і робяць члена партыі перадавым барацьбітом за соцыялізм, важаком пролетарскіх і калгасных мас.

«Большэвік не можа абмяжоўвацца звычайнай верай у соцыялізм, падобна таму як веруе рэлігійны чалавек у царства нябеснае. Не, большэвік—гэта член такой партыі, праграма, палітыка і тактыка якой будуецца на строга навуковых асновах марксізма-ленінізма. Большэвік гэта той, хто разумее немінучасць краха капіталізма, немінучасць дыктатуры пролетарыята, забяспечваючы перамогу соцыя-

лізма. Таму кожны член партыі павінен аўладаць асновамі марксізма-ленінізма» **(Кагановіч).**

Прапаганда ленінізма, высунутая т. Сталіным, як задача першачарговай важнасці, патрабуе канкрэтнага, аператыўнага кіраўніцтва з боку нашых партыйных камітэтаў. Практычна гэта азначае, што раённыя камітэты, іх бюро павінны хутка рэагаваць на ўсякія прарывы, скажэнні і слабасці ў пастаноўцы партыйнай прапаганды. За прапрацоўку рашэнняў XVII з'езда партыі, за правільную арганізацыю і якасць марксісцка-ленінскай прапаганды горрайкомы і іх бюро павінны несці поўную адказнасць і паставіць гэтую першачарговую партыйную справу аператыўна.

* * *

Адна з галоўных задач, якая стаіць перад намі ў галіне ажыццяўлення рашэнняў XVII з'езда партыі—гэта паспяховае правядзенне веснавой сяўбы. Каб вырашыць задачу, якую паставіў перад намі т. Сталін—зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі—мы павінны дабіцца высокіх, устойлівых ураджаяў. Ужо першы год другой пяцігодкі даў рэкордны калгасны ўраджай, у другім годзе мы павінны дабіцца яшчэ большага.

Тым часам, падрыхтоўка да веснавой сяўбы на радзе ўчасткаў ідзе ў нас яўна нездавальняюча. Рамонт трактароў на 15-III выканан па БССР на 81 проц., а к гэтаму тэрміну, згодна рашэнню XV з'езда КП(б)Б, увесь трактарны парк павінен быць адрамантаваны. Асабліва адстаюць у рамонце трактароў соўгасы сістэмы Ўпоўнаркамсоўгасаў. На 15-III па Ўпоўнаркамсоўгасаў адрамантавана ўсяго 67 проц. трактарнага парка.

Не зусім добра ў нас з насеннем. Праўда, у асноўным па рэспубліцы засыпка насення закончана, план выканан больш як на 100 проц., але за гэтымі сярэднімі рэспубліканскімі лічбамі крыюцца вялікія прарывы па асобных раёнах, і асабліва ў паасобных калгасах. Засыпка і ачыстка насення праходзіла і праходзіць у многіх раёнах самацёкам. Рад раённых арганізацый і палітаддзелаў МТС не займаліся як след праверкай якасці насення. У рэзультаце дэкаднік праверкі якасці ўсхожасці насення паказаў, што ў многіх калгасах засыпана насенне сырое, заражанае кляшчом, доўганосікам, пры засыпцы парушаліся самыя элементарныя патрабаванні.

У Жлобінскім раёне на 15 сакавіка ачышчана ўсяго 65 проц. агульнай колькасці насення, у Суражскім пры праверцы выяснілася, што калгаснікі засыпалі толькі 84 проц. насення, аднаасобнікі 64, у Мсціслаўскім 70 проц. Такі-ж прыблізна малюнак у Лепельскім, Асвейскім і іншых раёнах.

Вельмі нядобра і з вывазкай гною. Толькі два раёны Менскі і Оршанскі—к 15 сакавіка поўнасцю вывезлі гной на калгасныя палі. Ёсць яшчэ раёны, дзе гною вывезена менш 30 проц. Гэта ставіць пад яўную пагрозу выкананне важнейшай задачы партыі і ўрада аб павышэнні ўраджайнасці.

Да гэтага трэба дадаць і дрэнны стан цягавай сілы. У Касцюковіцкім, Жлобінскім, Суражскім, Нараўлянскім раёнах да апошняга часу варварскі абыходзяцца з канём, забываючы, што конь побач з трактарам будзе вырашаць поспех веснавой сяўбы.

Вялікая трывога за паспяховы ход падрыхтоўкі к севу аднаасобніка, удзельная вага якога яшчэ вельмі значна ў нас. У гэтую весну аднаасобнікі павінны засеяць 980 тыс га. Тым часам нават у такіх буйных арганізацыях як Гомельская, Магілеўская, Слуцкая і інш. аднаасобнік выпаў з поля зроку райкомаў і РВК. Такое становішча больш чым нецярпіма. Апартуністычная недаацэнка аднаасобніка—заўтрашняга калгасніка, скіданне яго з рахунку ў час вясенняй пасеўнай кампаніі можа звесці на нішто ўсю нашу барацьбу за выкананне плана веснавой сяўбы ў кароткія, раннія тэрміны.

Нельга выпускаць з-пад увагі, што класавы вораг і яго агентура ўсяляк стараецца выкарыстаць нашы затрудненні. Ён знішчае насенны фонд у калгасах, выводзіць са строю конскае пагалоўе, зрывае рамонт трактароў і сельгасінвентара, затрымлівае канчатковы разлік калгасаў з калгаснікамі, стварае штучныя харчовыя затрудненні ў паасобных калгасах. І не ўсюды нашы мясцовыя партыйныя арганізацыі своечасова ўскрываюць і выкрываюць махінацыі класавага ворага і яго агентуры. Партыйна-масавая работа ў калгасах і асабліва сярод аднаасобнікаў, яшчэ слаба разгорнута.

Асабліва трэба падкрэсліць, што соўгасы ўсё яшчэ адстаюць у падрыхтоўцы да сяўбы. Тав. Сталін на XVII партыйным з'ездзе сказаў, што «калі супаставіць агромныя ўкладанні дзяржавы ў справу соўгасаў з цяперашнім фактычным рэзультатам работы соўгасаў, то атрымаецца грамадная неадпаведнасць к нявыгадзе соўгасаў».

1934 год павінен быць годам рашучай ліквідацыі ганебнага адставання нашых соўгасаў, чаго на-жаль, не ўсвядомілі яшчэ многія кіраўнікі соўгастрэстаў і дырэктары соўгасаў. У якасці ілюстрацыі непаваротлівасці нашых соўгастрэстаў варта ўказаць на менскі Свінаводтрэст. Са 150 трактароў сістэмы Свінаводтрэста, прызначаных у рамонт, на 15 сакавіка адрамантавана ўсяго толькі 96, або 62,7 проц. Прычым з 62 трактароў сярэдняга рамонту адрамантавана толькі 27. Таксама дрэнна ідзе ачыстка насення і вываз гною на поле.

БССР калектывізавана толькі на 52 проц. Прапрацоўка даклада т. Сталіна і рашэнняў XVII парт'зезда далі новы прылiў аднаасобнікаў у калгасы. У паасобных раёнах, як напрыклад у Веткаўскім, за гэты час уступіла ў калгасы каля 200 гаспадарак. Але ўсё-ж у асноўным уцягненне працоўных аднаасобнікаў у калгасы пастаўлена ў нас з рук вон дрэнна: пушчана на самацёк. Раённыя і нізавыя партыйныя арганізацыі абавязаны рашуча палепшыць работу па ўцягненню аднаасобнікаў у калгасы і падрыхтоўцы аднаасобных гаспадарак да сяўбы.

Чоткая арганізацыя справы, сістэматычная, а не эпізадычная праверка выканання, аперацыйнае, баявое кіраўніцтва—вось што вырашае поспех веснавой сяўбы, як і ўсякай іншай работы. Метады папяровага кіраўніцтва (Жлобінскі, Суражскі, Нараўлянскі і іншыя райкомы) пара ўжо назаўсёды здаць у архіў.

Шырэй разгарнуць спаборніцтва паміж раёнамі, калгасамі, калгаснікамі, брыгадзірамі, работнікамі соўгасаў за паспяховае правядзенне сяўбы. Галоўная ўвага павінна быць звернута на арганізацыю і якасць работы. Правільная арганізацыя працы ў калгасе і соўгасе, рашучае павышэнне прадукцыйнасці калгасных брыгад, сельгасмашын—усё гэта, як падкрэсліў XV з'езд КП(б)Б, першачарговыя задачы ў падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы.

Веснавая сяўба—экзамен, баявая праверка ўмення ўсіх партарганізацый БССР канкрэтна, аператыўна кіраваць масамі, выконваць баявыя дырэктывы партыі.

Павысіць якасць, падняць арганізацыйнае і палітычнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычных задач патрабуе XVII партз'езд ад кожнай арганізацыі, ад кожнага комуніста. «Партыя будзе правяраць рэзультаты арганізацыйнай перабудовы не колькасцю праведзеных пасяджанняў, не колькасцю прынятых рэзалюцый, а выкананнем рашэнняў партыі і ўрада, палепшаннем штодзённай практычнай работы, павышэннем яе якасці, умацаваннем адказнасці, узмацненнем праверкі выканання, павышэннем дзелавой кваліфікацыі і ідэйнай узброенасці членаў партыі» (з рэзалюцыі XVII партз'езда).

І гэтая партыйная перабудова, гэтая работа па-новаму, канчатковая ліквідацыя пасяджэнчай мітусні і пісаніны, славеснай дэкларацыйнасці і забяспечванне канкрэтнага, аператыўнага кіраўніцтва ўсімі ўчасткамі работы павінна перш за ўсё сказацца на падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы.

Сваёй работай мы павінны апраўдаць ганаровае званне ўдарнай брыгады пролетарыяў усіх краін, як гаварыў т. Сталін на XVII з'ездзе партыі. **«Гэта абавязвае нас к таму, каб працаваць лепш і змагацца лепш за канчатковую перамогу соцыялізма ў нашай краіне, за перамогу соцыялізма ва ўсіх краінах».**

Працаваць лепш і змагацца лепш—гэтыя простыя і вялікія сталінскія словы павінны стаць баявым дэвізам, мабілізаваць усю КП(б)Б на выкананне вялікіх задач другога года другой пяцігодкі.

---

# Справаздача ЦК КП(б)Б на XV з'ездзе партыі

## Даклад тав. Н. Ф. Гікало

10 дзён аддзяляюць нас ад надыходзячага гістарычнага XVII з'езда партыі. З небывалым энтузіязмам, з аграмадным працоўным уздымам сустракае гэты з'езд кожны член партыі, кожны комсамолец, кожны рабочы і калгаснік, кожны працоўны нашай краіны.

З'езды нашай партыі з'яўляюцца этапамі барацьбы за социялізм. XVII з'езд партыі з'явіцца з'ездам, адкрываючым новы этап разгорнутай барацьбы і работы над ажыццяўленнем другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Дзесяць год прайшло з дня смерці найвялікшага генія чалавецтва В. І. Леніна. Дзесяць год параўнальна невялікі для гісторыі адрэзак часу. Але ў нас іншыя даты. Мы павінны былі,—як гаварыў тав. Сталін,—максімум за 10 год дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

І сапраўды за невялікі адрэзак часу, г. зн. за 4 гады першай пяцігодкі, краіна Советаў, кіруемая нашай большэвіцкай партыяй, дасягнула нечуваных у гісторыі перамог. Зараз не толькі тэарэтычна, але і практычнай работай, рэальнымі фактамі, мы даказалі правільнасць ленінскага вучэння аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне.

> «У выніку пяцігодкі перад тварам соцень мільёнаў працоўных усяго свету ўпершыню ў гісторыі чалавецтва на справе даказана магчымасць пабудовы соцыялізма ў адной краіне».

Мы падводзім зараз вынікі гэтаму гераічнаму перыяду. І трэба проста сказаць, кожны адчувае той аграмадны ўздым, які ахапіў усіх працоўных нашай вялікай краіны Советаў. Кожны бачыць, што нясе з сабой працоўным перамога ленінскай лініі. А перамагла ленінская партыя таму, што яна знаходзілася ў сталінскіх руках.

К XVII з'езду наша партыя ідзе з безумоўнай гордасцю, велізарнейшай упэўненасцю, таржэствам перамогі соцыялізма, найвялікшым энтузіязмам ад таго, што мы выконваем заветы Леніна пад кіраўніцтвам лепшага з лепшых ленінцаў—правадыра партыі тав. Сталіна.

Неўзабаве пасля ўзяцця ўлады, Владзімір Ільіч Ленін пісаў:

> «Першы раз у сусветнай гісторыі соцыялістычная партыя паспела закончыць у галоўных рысах справу заваявання ўлады і падаўлення эксплаататараў, паспела падыйсці **шчыльна** да задачы **кіраўніцтва.** Трэба, каб мы аказаліся дастойнымі выканаўцамі гэтай труднейшай (і ўдзячнейшай) задачы соцыялістычнага перавароту. Трэба **падумаць,** што для паспяховага кіраўніцтва неабходна, **апрача** ўмення пераканаць, апрача ўмення перамагчы ў грамадзянскай вайне,—уменне практычна **аргані-**

> **заваць.** Гэта самая трудная задача, бо справа ідзе аб арганізацыі па-новаму самых глыбокіх эканамічных асноў жыцця дзесяткаў і дзесяткаў мільёнаў людзей. І гэта самая ўдзячная задача, бо толькі **пасля** яе **вырашэння** (у галоўных і асноўных рысах) можна будзе сказаць, што Расія **стала** не толькі совецкай, але і соцыялістычнай рэспублікай»[1]).

У гэтай выдатнай заяве Вл. Іл. Ленін паставіў перад партыяй задачу не супакойвацца на тым, што мы ўзялі ўладу ў свае рукі, але каб арганізавалі гэту ўладу, каб практычна арганізавалі справу соцыялістычнага будаўніцтва.

І сёння, напярэдадні XVII з'езда партыі, мы можам смела заявіць: партыя наша пераможна несла і нясе сцяг Леніна. Пад гэтым сцягам мы арганізавалі і арганізуем масы на выкананне найвялікшых задач па пабудове бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Тав. Сталін на XVI з'ездзе партыі з выключнай сілай падкрэсліў, што самы факт існавання Совецкага саюза і той соцыялістычнай будоўлі, якая ў ім адбываецца, з'яўляецца фактам такой магутнасці, такой сілы, якая падымае на рэволюцыйныя дзеянні і выступленні не толькі рабочы клас, але і ўсіх працоўных свету. Узнімаецца рэволюцыйная хваля не толькі на Захадзе, але і на Ўсходзе сярод прыгнечаных каланіяльных і поўкаланіяльных краін.

Выкананне плана першай пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы фундамента соцыялістычнай эканомікі, выклікала энтузіязм не толькі ў радах рабочага класа, але і ў радах лепшай часткі буржуазнай інтэлігенцыі, якая вымушана прызнаць аграмаднейшыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва і яго найвялікшае значэнне.

Пазалетась у СССР пабываў буйны англійскі пісьменнік—адзін з буйнейшых прадстаўнікоў ліберальнай буржуазіі Англіі Бернард Шоу. Ён ужо два разы быў у СССР. Гэты чалавек сваімі ўласнымі вачыма бачыў тое, што ў нас робіцца, якая ідзе ў нас гіганцкая будоўля, як змяняецца твар нашай краіны. І вось што па гэтаму поваду піша Бернард Шоу:

> «... Мы ведаем цяпер з гісторыі, што існавала вельмі многа цывілізацый, і што яны, дасягнуўшы таго пункту развіцця, да якога дайшоў цяпер заходні капіталізм, гінулі і выраджаліся. Не раз прадстаўнікі чалавечай расы прабавалі абыйсці гэты камень праткнавення, але цярпелі няўдачу. Ленін стварыў новы метад і абыйшоў гэты камень праткнавення. Калі другія паследуюць метадам Леніна, то перад намі адкрываецца новая эра, нам не будуць пагражаць крушэнне і пагібель. Для нас пачнецца новая гісторыя, гісторыя, аб якой мы цяпер не можам нават саставіць сабе якога-небудзь прадстаўлення. **Калі будучае з Леніным, то мы ўсе можам гэтаму радавацца, калі-ж свет пойдзе старой сцежкай, то мне прыдзецца з сумам пакінуць гэту зямлю»** (падкрэслена дакладчыкам). (З прамовы Бернарда Шоу, сказанай у час прабывання ў Маскве ў 1931 г.).

Вы бачыце, таварышы, што дальнабачны прадстаўнік ліберальнай буржуазіі яшчэ ў 1931 годзе, калі мы яшчэ не скончылі першай пяцігодкі, калі ў нас не было тых грандыёзных поспехаў, якія мы маем у выніку ажыццяўлення першай пяцігодкі, пабываўшы ў нашай кра-

[1]) **Ленин,** Сочин., т. XXII, стр. 442.

іне, прышоў к вываду, што калі справа Леніна загіне—загіне і цывілізацыя ва ўсім свеце і прагрэс чалавецтва адкоціцца на дзесяткі год назад.

Тав. Сталін на XVI з'ездзе партыі, аналізуючы становішча двух сістэм—соцыялістычнай і капіталістычнай,—указаў, што мінулы перыяд

«...можна было-б назваць перыядам **пераломным**. Ён быў пераломным не толькі ў нас, для СССР, але і для капіталістычных краін усяго свету. Але паміж гэтымі двума пераломамі існуе карэнная розніца. У той час, як гэты пералом азначаў для СССР паварот у бок новага, больш сур'ёзнага **ўздыму**, для капіталістычных краін пералом азначаў паварот да эканамічнага **ўпадку**» [1]).

Перыяд, які прайшоў ад XVI з'езда партыі, характарызуецца далейшым распадам капіталізма, фашызацыяй раду краін, далейшым ростам рэволюцыянізавання пролетарскіх мас, усё большым ростам палітычнага ўплыву комуністычных партый.

Узмацнілася шалёная падрыхтоўка капіталістычных краін да новай сусветнай вайны.

«Эканоміка капіталістычнага свету развальваецца. Усё тужэй зацягваецца пятля збяднення, руйнавання, голаду». Капіталістычны свет знаходзіцца ля парога новага туру вайны і рэволюцый. Аб гэтым сігналізуе шалёная падрыхтоўка да вайны на Далёкім Усходзе. Аб гэтым сігналізуе шалёная гонка морскіх, сухаземных і паветраных узбраенняў.

На фоне ўсё больш узмацняючагася крызіса ў капіталістычных краінах, усё больш ярка відны поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Пад кіраўніцтвам правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна самаааддана змагаюцца пролетарыі Совецкай краіны за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства, запальваючы і натхняючы прыгнечаных і эксплаатуемых усіх краін на барацьбу з капіталізмам, з фашызмам.

* * *

Я не стану тут падрабязна прыводзіць лічбовыя даныя аб ходзе выканання першага пяцігадовага плана. Вынікі першай пяцігодкі з геніяльнай празорлівасцю былі падведзены тав. Сталіным на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б). Вы ведаеце, што к канцу чацвертага года пяцігодкі нам удалося выканаць праграму агульнай прамысловай вытворчасці, разлічанай на пяць год,—на 93,7 проц.

Мы паднялі агульны аб'ём прамысловай прадукцыі больш, чым утрая параўнальна з даваенным узроўнем і больш, чым удвая параўнальна з 1928 г.

Па цяжкай прамысловасці мы выканалі пяцігадовы план на 100,6 проц. Аб'ём прамысловай прадукцыі Саюза к канцу 1933 г. давялі параўнальна з даваенным узроўнем да 334 проц. За гэты-ж час у ПАЗШ аб'ём прамысловай прадукцыі ўпаў да 84 проц. параўнальна з даваенным узроўнем, у Англіі—да 85 проц., Германіі—62 проц. і т. д.

У рэзультаце барацьбы за першую пяцігодку і ў рэзультаце яе ажыццяўлення мы вырашылі цэлы рад буйнейшых задач, якія ў канчатковым выніку леглі ў аснову другой пяцігодкі. Нашу краіну

[1]) **Сталин.** Вопросы ленинизма, изд. 9-е, стр. 487.

з яе адсталай, часамі сярэдневяковай тэхнікай, перавялі на рэйкі новай сучаснай тэхнікі.

Тав. Сталін гаварыў, што:

«Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны аграрнай і немачнай, з залежнай ад капрызаў капіталістычных краін—у краіну індустрыяльную і магутную, зусім самастойную і незалежную ад капрызаў сусветнага капіталізма.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб, ператвараючы СССР у краіну індустрыяльную, выцесніць да канца капіталістычныя элементы, расшырыць фронт соцыялістычных форм гаспадаркі і стварыць эканамічную базу для знішчэння класаў у СССР, для пабудовы соцыялістычнага грамадства.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб стварыць у нашай краіне такую індустрыю, якая-б была здольна пераўзброіць і рэарганізаваць не толькі прамысловасць у цэлым, але і транспарт, але і сельскую гаспадарку на базе соцыялізма.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб перавесці дробную і раздробленую сельскую гаспадарку на рэйкі буйнай калектыўнай гаспадаркі, забяспечыць тым самым эканамічную базу соцыялізма ў вёсцы і ліквідаваць такім чынам магчымасць аднаўлення капіталізма ў СССР.

Нарэшце, задача пяцігадовага плана заключалася ў тым, каб стварыць у краіне ўсе неабходныя тэхнічныя і эканамічныя прадпасылкі для максімальнага падняцця абараназдольнасці краіны, якая дае магчымасць арганізаваць рашучы адпор усім і ўсякім спробам ваеннай інтэрвенцыі звонку, усім і ўсякім спробам ваеннага нападу звонку» [1]).

Гэтыя асноўныя выключнай важнасці і гістарычнага значэння задачы мы выканалі. Мы пабудавалі ў нашай краіне фундамент соцыялістычнай экономікі. У выніку першай пяцігодкі мы дабіліся велізарных поспехаў у галіне прамысловасці. Мы маем зараз рад галін прамысловасці, аб стварэнні якіх ніколі не марыла старая Расія. Мы здолелі стварыць у перыяд першай пяцігодкі такія важнейшыя галіны, як аўтатрактарная прамысловасць, хімічная, складанае варштатабудаўніцтва, авіяцыйную прамысловасць, вытворчасць складанейшых сельскагаспадарчых машын. Па вытворчасці электрычнай энергіі мы вышлі на адно з першых месц у свеце.

Гэтыя велізарныя дасягненні ў галіне індустрыялізацыі краіны дазволілі ўзняць вышэй абараназдольнасць СССР, што з'яўляецца зусім неабходным ва ўмовах раду антысовецкіх авантур і падрыхтоўкі інтэрвенцыі некаторымі капіталістычнымі краінамі.

Абараназдольнасць краіны пастаўлена на такую ступень, якая дазваляе нам сёння сказаць, што лозунг тав. Сталіна—«Ні адной пядзі чужой зямлі не хочам, але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому»—стаў абсалютнай рэальнасцю. У выніку выканання плана першай пяцігодкі мы маем непераможную Чырвоную армію, снабжоную і ўзброеную навейшай тэхнікай.

За перыяд ад XVI да XVII з'езда партыі зроблен поўны пераварот у сельскай гаспадарцы СССР. К XVI з'езду партыі соцыялістычны сектар у сельскай гаспадарцы ахапляў толькі 25 проц., цяпер,

[1]) Сталін. Пытанні ленінізма. (дапаўненне да 9-га выдання), стар. 10.

к XVII з'езду партыі, наша краіна ў асноўным стала калгаснай і соўгаснай. У гэтым годзе калгаснае сялянства, ажыццяўляючы лозунг правадыра партыі т. Сталіна—ператварыць усе калгасы ў бальшэвіцкія, а калгаснікаў у заможных—пад кіраўніцтвам партыі дабіліся велізарнейшых поспехаў у справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Буйшейшым фактарам уздыму сельскай гаспадаркі з'яўляецца збор ураджаю зернавых культур, дасягнуўшы ў 1933 г. 898 млн. цэнтнераў, што складае павелічэнне ў параўнанні з мінулым годам на 1 мільярд 200 млн. пудоў.

Як вам вядома, у гэтым годзе па ўсяму Совецкаму саюзу і ў нас, у БССР, датэрмінова выкананы хлебазагатоўкі.

Гэтыя поспехі дасягнуты ўпартай барацьбой і выкрыццём новай тактыкі класавага ворага, перайшоўшага к метаду барацьбы «ціхай сапай», прыкрываючыся часамі партыйным білетам.

Гэтыя поспехі дасягнуты дзякуючы таму, што намі кіруе ленінскі ЦК на чале з геніяльнейшым правадыром і настаўнікам рабочага класа ўсяго свету тав. **Сталіным (апладысменты).**

Не гледзячы на жорсткае супраціўленне класавых ворагаў і атакі на партыю іх агентуры—апартуністаў усіх масцей, палітыка партыі, палітыка яе ЦК перамагла.

Перамагла, па-першае, таму, што гэта палітыка адпавядае класавым інтарэсам мільёнаў рабочых і сялян, і, па-другое, таму, што бальшэвіцкая партыя, яе ЦК не толькі абвясцілі палітычныя лозунгі, але здолелі па-бальшэвіцку практычна арганізаваць масы для правядзення ў жыццё гэтых лозунгаў, здолелі арганізаваць і перабудаваць усе органы і апараты пролетарскай дыктатуры прыстасоўна да новых задач рэканструкцыйнага перыяду.

## Вынікі першай пяцігодкі і задачы другой пяцігодкі па БССР.

БССР, як і ўвесь Совецкі саюз, прыходзіць да XV з'езда КП(б)Б і XVII з'езда ВКП(б) з вялікімі гаспадарча-палітычнымі перамогамі. **Гаспадарка Беларусі, уся яе эканоміка, соцыялістычная культура па тэмпах свайго развіцця ішлі вышэй, чым тэмпы развіцця ў цэлым у Совецкім саюзе.**

Ліквідацыя фактычнай гаспадарчай і эканамічнай няроўнасці, якая асталася нам у спадчыну ад царскай імперыі, атрымала сваё яркае выражэнне ў магутным тэмпе індустрыялізацыі БССР.

Сапраўды, калі валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі ў 1913 годзе складала 0,87 проц. у адносінах да ўсёй прамысловасці царскай імперыі, а ў 1928 г.—1,12 проц., да ўсёй прамысловасці Совецкага союза, то ўжо ў 1932 г. яна складала 2,5 проц. да прамысловасці ўсяго Саюза. Пры гэтым трэба мець на ўвазе гіганцкі рост прамысловасці за апошнія гады ў СССР.

У рэзультаце ажыццяўлення планаў першай пяцігодкі вырасла прамысловасць БССР, у сувязі з гэтым значна паднялася ўдзельная вага прамысловасці БССР у прамысловасці ўсяго Совецкага саюза. Беларусь з краіны адсталай ператварылася ў краіну індустрыяльна-аграрную.

У 1927-28 гг. мы мелі ў Беларусі такія суадносіны паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай: 41,3 проц. падала на прадукцыю прамысловасці і 58,7 проц. на прадукцыю сельскай гаспадаркі. У 1932 г. валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі ў агульнай

гаспадарцы БССР складае 67 проц., сельскагаспадарчая прадукцыя—33 проц.

Поспехі і перамогі, атрыманыя намі ў выніку выканання першага пяцігадовага плана Беларусі, аказваюць грамадны рэволюцыянізуючы ўплыў на працоўных суседніх капіталістычных дзяржаў, асабліва Польшчы і акупаванай ёю Зах. Беларусі, дзе за гэтыя гады эканамічны крызіс яшчэ больш паглыбіўся.

Вынікі першай пяцігодкі ў БССР апракінулі, разбілі ўшчэнт тэорыі контррэволюцыйных беларускіх нацдэмаў як за рубяжом, так і ўнутры БССР, якія сцвярджалі, што беларуская нацыянальнасць не развіваецца, што Беларусь прыгнятаецца Масквой, што развіццё Беларусі магчыма толькі на капіталістычных асновах. Вынікі першай пяцігодкі нагалаву разбілі гэтыя контррэволюцыйныя цверджанні беларускіх нацдэмаў, гэтых агентаў імперыялістычных інтэрвентаў.

Ды хіба можна ў якой-небудзь ступені параўноўваць той магутны ўздым у развіцці прамысловасці і пролетарскай культуры, тое, што маем у БССР, з тым, што назіраецца па той бок совецкіх граніц— у Польшчы і Заходняй Беларусі.

Даволі ўказаць, што за апошнія гады валавая прадукцыя прамысловасці БССР узрасла ў 9 з лішкам раз параўнальна з даваенным часам. Рабочы клас колькасна вырас з 20 000 у 1913 г. да 114 000 у 1932 г.

За гады першай пяцігодкі ў БССР пабудавана і пушчана звыш 4 дзесяткаў новых прадпрыемстваў, у тым ліку Магілеўская шоўкавая фабрыка, «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ», Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Гомельскі механічны шклозавод і інш.

Асноўныя фонды прамысловасці БССР за гады першай пяцігодкі ўзраслі з 86,5 млн. руб. да 344,4 млн. рублёў. Рост—на 398,3 проц.

**Капіталаўкладанні** ў аграмаджаны сектар народнай гаспадаркі БССР па пяцігадоваму плану намячаліся ў 904,3 млн. руб., фактычна за гады першай пяцігодкі капіталаўкладанні складаюць 1 027,4 млн. р. (без чыгуначнай гаспадаркі). Такім чынам, пяцігадовы план капіталаўкладанняў у народную гаспадарку БССР за чатыры гады і 3 месяцы выканан на 113,6 проц.

**Валавая прадукцыя** соцыялістычнай прамысловасці БССР павялічылася з 241 млн. руб. у 1927-28 гг. да 979,5 млн. руб. у 1932 г.— рост на 406 проц.

Вельмі паказальны нацыянальны склад рабочых буйнай прамысловасці БССР. Наступная табліца паказвае ўсё ўзрастаючую ўдзельную вагу беларусаў у складзе рабочых нашай буйнай прамысловасці.

| | 1929 г. (у тыс. чал.) | 1932 год | |
|---|---|---|---|
| | | Абсал. (у тыс. чал.) | Удзельная вага ў проц. адн. да вынікаў |
| Усяго | 42,8 | 93,0 | 100 |
| У тым ліку: | | | |
| беларусы . . . . | 21,8 | 57,8 | 62,2 |
| яўрэі . . . . . . | 14,4 | 23,5 | 25,3 |
| палякі . . . . . | 2,3 | 3,1 | 3,3 |
| рускія . . . . . | 3,4 | 4,6 | 4,9 |
| іншыя . . . . . | 0,9 | 4,0 | 4,3 |

Як відаць з гэтай табліцы, звыш 60 проц. рабочых на нашых буйных прадпрыемствах складаюць беларусы.

За гады пяцігодкі ўдзельная вага гарадскога насельніцтва БССР узрасла менш, чым на 2 проц.—з 15,6 проц. у 1926 г. да 17,2 проц. у 1932 г. У той-жа час удзельная вага пролетарскага насельніцтва за гэтыя гады ўзрасла з 11,3 у 1926 г. да 20 проц. у 1932 г.—рост амаль у два разы. Гэта ўжоаграмадная соцыяльная перасоўка насельніцтва за такі невялікі адрэзак часу.

Магутнасць электрастанцый БССР узрасла з 14,4 тыс. кіловат у 1927 г. да 70 тыс. кіловат у 1933 г. Выпрацоўка электраэнергіі складала 37,3 млн. кіловат-гадзін у 1927 г., у 1933 г. яна складае 220 млн. кіловат-гадзін.

У галіне культуры нашы дасягненні таксама выключна вялікі.

Вось некалькі лічбаў. У Совецкай Беларусі налічваецца 6962 школы, дзе навучаецца 937 тыс. вучняў—супроць 4257 школ у 1914 г. Да Кастрычніцкай рэволюцыі ў Беларусі не было ні адной беларускай школы. Зараз у БССР ёсць 6263 беларускія школы з ахопам 854 тыс. вучашчыхся, яўрэйскіх школ 221, польскіх—252, рускіх—99, іншых—127.

Колькасць ВНУ і ВТНУ ў адной толькі БССР у два разы больш у параўнанні з тым, колькі іх было ва ўсёй царскай Расіі. Мы стварылі дзесяткі навуковых устаноў. Мы стварылі навуковыя цэнтры—Беларускую Акадэмію Навук, шматлікія навукова-даследчыя інстытуты, дзе растуць, мацнеюць і выкоўваюцца новыя пролетарскія кадры маладых вучоных з беларусаў, яўрэяў, палякаў і іншых народнасцей, насяляючых БССР. Зараз у Беларусі ёсць 1600 навуковых работнікаў, з іх каля 40 проц.—комуністы і комсамольцы.

Карэнным чынам змяніўся твар нашых гарадоў. Усякі, хто працаваў у Беларусі хоць 5 год таму назад, не пазнае старога Менска, Гомеля, Віцебска, або Магілева. Гэта ўжо буйныя прамысловыя культурныя цэнтры, дзе жывуць дзесяткі тысяч рабочых.

Першая пяцігодка падвяла вельмі сур'ёзную тэхнічную базу пад нашу сельскую гаспадарку. Каля 3000 трактароў працуе на калгасных палях. У нас арганізаваны 63 МТС, 52 проц. бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак аб'ядналіся ў калгасы.

* * *

З поўным правам мы можам сказаць, што Беларусь уступіла ў эпоху росквіту, таржэства нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры. Зусім іншы малюнак мы наглядаем у Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад ярмом польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Колькасць занятых рабочых у Заходняй Беларусі скарацілася з 26 тыс. у 1929 г. да 16 тыс. у 1932 г.

Калі прыняць агульны стан прамысловасці Заходняй Беларусі 1928 г. за 100, то ў 1932 г. яна складае толькі 38 проц. Такім чынам, за чатыры гады прамысловасць Заходняй Беларусі, і без таго слаба развітая, скарацілася больш, чым на 60 проц.

Заработная плата рабочых Заходняй Беларусі за апошнія чатыры гады скарацілася больш, чым на 60 проц. Заработак сельска-гаспадарчых рабочых у Заходняй Беларусі па афіцыяльных даных польскага буржуазнага друку складаў у 1932 г. толькі 35 проц. у адносінах да 1928 г.

Такаво коратка гаспадарчае становішча Заходняй Беларусі.







У сучасны момант у Зах. Беларусі налічваецца звыш 50 тысяч беспрацоўных, у той час як у Совецкай Беларусі поўнасцю ліквідавана беспрацоўе.

У сувязі з гіганцкімі тэмпамі індустрыялізацыі растуць з года ў год нацыянальныя кадры пролетарыята.

У 1920 г. у Зах. Беларусі было 412 пачатковых беларускіх школ і 7 беларускіх гімназій. У 1925 г. пачатковых школ асталося 25 і 4 гімназіі. У 1933 г. у Зах. Беларусі ўжо няма ні адной беларускай пачатковай школы, няма ні адной беларускай гімназіі.

І вось гэту сістэму капіталістычнага прыгнечання працоўных, сістэму невуцтва і дзікасці беларускія нацдэмы імкнуцца перанесці ў нашу Совецкую Беларусь.

Кожны рабочы, кожны калгаснік, кожны працоўны на прыкладзе социялістычнага росту Совецкай Беларусі і ўсё ўзмацняючагася эканамічнага разарэння і прыгнечання працоўных у Зах. Беларусі і Польшчы пераконваюцца ў перавазе совецкай соцыялістычнай сістэмы над капіталістычнай.

## Другая пяцігодка

За гады першай пяцігодкі карэнным чынам змяніўся эканамічны твар Совецкай Беларусі, але першая пяцігодка з'яўляецца сапраўды першай пяцігодкай,—пачаткам вялікіх работ. У адносінах развіцця прадукцыйных сіл БССР нам прадстаіць вялікая работа.

«Вынікі пяцігодкі паказалі, што зусім магчыма пабудаваць у адной краіне соцыялістычнае грамадства, бо эканамічны фундамент такога грамадства ўжо пабудован у СССР» **(Сталін).**

Другая пяцігодка—гэта і ёсць баявая праграма пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

Апублікаваныя тэзісы ЦК ВКП(б) к XVII з'езду партыі па дакладах тт. Молатава, Куйбышава і Кагановіча з'яўляюцца канкрэтнай праграмай пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

У 1937 г., у апошні год другой пяцігодкі, мы павінны павялічыць прамысловую прадукцыю ў нашай краіне ў 2,4 разы ў параўнанні з 1932 годам, або ў **9 раз у параўнанні з даваенным узроўнем.** Выпусціць прамысловай прадукцыі на 103 млрд. руб. у цэнах 1926-27 гг.—такаво заданне на апошні год другой пяцігодкі. Развіццё вытворчасці прадметаў шырокага спажывання павінна пайсці больш быстрымі тэмпамі і скласці ў сярэднім прырост у год каля 22 проц. супроць сярэднегадовага тэмпу росту сродкаў вытворчасці—16 проц. Вытворчасць прадметаў шырокага спажывання павінна быць патроена.

Задача завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі Совецкага саюза з новай сілай выстаўляе на першы план пытанні асваення новых вытворчасцей і новай тэхнікі. Калі ў першую пяцігодку мы дабіліся росту прадукцыйнасці працы на 41 проц., то ў другую пяцігодку мы павінны ўзняць прадукцыйнасць працы на 63 проц. Гэта заданне азначае, што **«прадукцыйнасць працы становіцца рашаючым фактарам выканання намечанай праграмы павелічэння прадукцыі ў другім пяцігоддзі».** 14 млрд. руб.—вось тая сума накаплення, якую павінна даць зніжэнне сабекошту ў апошнім годзе другой пяцігодкі. Велізарная ўвага павінна быць аддана рашучаму палепшанню якасці і асартымента прадукцыі.

Задача, пастаўленая т. Сталіным у гутарцы з калгаснікамі Одэскай області, і тое, што тав. Сталін гаварыў у гутарцы з карэспандэнтам

амерыканскай буржуазнай прэсы адносна павелічэння ў 2—3 разы выпуску тавараў шырокага спажывання і палепшання таваразвароту, атрымлівае сваё зусім рэальнае выражэнне ў другім пяцігадовым плане.

Так, напрыклад, выпуск баваўняна-папяровых тканін павялічваецца з 2 мільярдаў 700 млн. метраў у 1933 г. да 6 млрд. 300 млн. у 1937 г. Рост—у 2,5 разы. Праграма выпуску абутку павялічваецца таксама ў 2,5 разы. У 1937 годзе павінна быць выпушчана па СССР 205 млн. пар абутку, у той час як за ўсю першую пяцігодку было выпушчана 271 млн. пар.

Праблема павелічэння вытворчасці тавараў шырокага спажывання амаль у 3 разы ў другой пяцігодцы ставіць перад прамысловасцю Беларусі асабліва вялікія і адказныя задачы. Наша лёгкая прамысловасць у асноўным працуе на шырокі спажывецкі рынак, і мы павінны так паставіць справу, каб ужо ў 1934 г. прамысловасць Беларусі цалкам і поўнасцю выканала свае вытворчыя планы як па колькасных, так і па якасных паказчыках.

## Аб сельскай гаспадарцы

Па лініі сельскай гаспадаркі другая пяцігодка намячае рост прадукцыі больш чым у два разы ў параўнанні з першай пяцігодкай. Прадукцыя сельскай гаспадаркі павінна ўзрасці з 13 млрд. руб. у канцы першай пяцігодкі да 26 млрд. рублёў к канцу другой пяцігодкі.

Аграмадныя поспехі ўжо дасягнуты партыяй у барацьбе за ўраджай, што было адзначана ў дакладзе тав. Молатава на сесіі ЦВК СССР, а іменна мы перавысілі валавы збор зернавых культур у 1933 г. на 1 200 млн. пудоў супроць мінулага года. Гэты факт з'яўляецца наглядным пацверджаннем рэальнасці намечаных тэзісамі задач па далейшаму павышэнню ўраджайнасці; у прыватнасці для нашай рэспублікі прадстаўляе асаблівае значэнне задача—дасягнуць ураджаю ільнавалакна ў 3,7 цэнт. з га.

Поўнае завяршэнне калектывізацыі, ажыццяўленне тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, завяршэнне ў асноўным яе механізацыі, павелічэнне ліку МТС з 2.446 у першай пяцігодцы да 6.000 у 1937 годзе, з ахватам імі ўсіх калгасаў, шырокае ўкараненне агратэхнікі—такавы задачы ў галіне сельскай гаспадаркі.

Тэмпы калектывізацыі ў БССР адстаюць ад агульных тэмпаў калектывізацыі ў Савецкім саюзе. Нам трэба прарабіць вялікую работу, каб ліквідаваць гэта адставанне. Задача поўнага завяршэння калектывізацыі ў другой пяцігодцы на аснове нястомнай, штодзеннай большэвіцкай работы па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў,—цалкам і поўнасцю адносіцца і да Беларусі. Мы павінны так арганізаваць сваю работу, так паставіць канкрэтнае кіраўніцтва, шырэй разгарнуць партыйна-масавую работу, на справе змагацца за ператварэнне ўсіх калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможных, каб задача, пастаўленая перад намі ў другой пяцігодцы па поўнаму завяршэнню калектывізацыі сельскай гаспадаркі, была цалкам ажыццёўлена.

## Аб капіталаўкладаннях у другой пяцігодцы

Тэзісы прадугледжваюць рост капіталаўкладанняў ў народную гаспадарку Савецкага саюза ў два з лішнім разы больш у параўнанні з першай пяцігодкай. Агульны аб'ём капітальных работ па народнай

гаспадарцы на другое пяцігоддзе намечан у 133,4 млрд. руб., супроць 50,5 млрд. руб. за першую пяцігодку. Гэта гаворыць аб тых грандыёзнейшых работах, якія прадстаіць нам правесці ў другой пяцігодцы. Значныя капіталаўкладанні намячаюцца ў прамысловасць, а іменна: 69,5 млрд. руб. супроць 25 млрд. у першай пяцігодцы. Прычым на выраб сродкаў вытворчасці намечаны капітальныя затраты ў 53,4 млрд. руб. і 16,1 млрд. на развіццё прамысловасці, вырабляючай прадметы спажывання.

Прадстаіць найвялікшая тэхнічная рэканструкцыя ўсёй народнай гаспадаркі, транспарта, далейшае павышэнне матар'яльнага добрабыту і культурнага ўзроўню шырокіх працоўных мас. **Другая пяцігодка будзе «пяцігодка карэннага ўздыму жыццёвага ўзроўню рабочых і сялянскіх мас».** Лік рабочых і служачых к канцу другой пяцігодкі павысіцца на 30 проц. Рэальная заработная плата вырасце ў 2,1 разы. Павысіцца ўзровень спажывання працоўных у 2,5—3 разы.

Пытанням матар'яльнага і культурнага абслугоўвання рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных другая пяцігодка ўдзяляе выключную ўвагу. І гэта зусім зразумела. Калі мы паставілі сваёй галоўнай палітычнай задачай у другім пяцігоддзі пабудаваць бясклясавае соцыялістычнае грамадства, то пабудова гэтага грамадства выклікае прамую неабходнасць рашучага палепшання становішча рабочага класа, калгаснікаў і ўсіх працоўных. І тут улічваецца не толькі задача павелічэння норм спажывання, зніжэння рознічных цэн, але і непасрэднага павелічэння дзяржаўных расходаў для культурна-бытавога абслугоўвання рабочых.

Капітальныя ўкладанні ў комунальнае, жыллёвае і культурнае будаўніцтва ў другой пяцігодцы складуць каля 32 млрд. руб., або каля чверці ўсіх капітальных укладанняў у народную гаспадарку СССР. Гэта азначае, што мы павінны ў асноўным ва ўсіх буйнейшых гарадах паставіць справу культурнага абслугоўвання рабочых так, каб на працягу другой пяцігодкі былі-б поўнасцю вырашаны пытанні жыллёвага, школьнага, клубнага будаўніцтва.

Ажыццяўленне другой пяцігодкі несумненна яшчэ больш умацуе эканамічныя і палітычныя пазіцыі пролетарскай дыктатуры.

Вырашэнне вялікіх задач другой пяцігодкі азначае канчатковую ліквідацыю капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавыя рознасці і эксплаатацыю, і пераманне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ліквідацыю прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, поўную ліквідацыю астаткаў многаўкладнасці эканомікі Совецкага саюза і ўстанаўленне соцыялістычнага спосабу вытворчасці, як адзінага спосабу вытворчасці з ператварэннем усяго працоўнага насельніцтва краіны ў актыўных, свядомых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства, поўную тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі Саюза, быстры ўздым добрабыту працоўных мас.

Ясна, што выкананне гэтых вялікіх задач не можа не выклікаць абвастрэння класавай барацьбы, не можа не выклікаць новых спроб з боку кулацтва падарваць калгасы, не можа не выклікаць спроб **шкодніцтва, сабатажу** ў нашых прамысловых прадпрыемствах з боку антысовецкіх сіл. Таму ўзмацненне большэвіцкай пільнасці, умацаванне органаў дыктатуры пролетарыята прадаўжае заставацца нашай баявой задачай, нашым першым абавязкам.

Выкананне вялікіх задач другой пяцігодкі патрабуе карэннай перабудовы партыйнай, совецкай, профсаюзнай работы. Праведзен у гэ-

тым напрамку рад мерапрыемстваў па палепшанню ўсёй сістэмы кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам—варта толькі напомніць аб перабудове кіраўніцтваў вугальнай прамысловасці і чыгуначнага транспарта, разбуйненні профсаюзаў, стварэнні палітаддзелаў у МТС, соўгасах, на транспарце і т. д. Усё-ж, як гэта правільна ўказана ў тэзісах па дакладу т. Кагановіча, **«арганізацыйна-практычная работа ўсё яшчэ адстае ад патрабаванняў палітычных дырэктыў і не задавальняе гіганцкі вырасшым запатрабаванням цяперашняга перыяду—перыяду другой пяцігодкі.** На знішчэнне гэтых недахопаў павінны быць мабілізаваны ўсе сілы партыі. Арганізацыйная работа павінна быць паднята да ўзроўню палітычных задач.

У рэзультаце выканання першай пяцігодкі СССР заняў другое месца ў свеце па выпуску прамысловай прадукцыі, у той час як у 1925 г. быў на пятым месцы. Па электраэнергіі мы з 10-га месца ў 1928 г. занялі чацвертае месца ў 1932 г. і выходзім у канцы другой пяцігодкі на першае месца ў свеце. Па здабычы торфу мы займаем першае месца ў свеце; па выплаўцы чыгуну, сталі, па агульнаму машынабудаўніцтву, па сельскагаспадарчаму машынабудаўніцтву, па вытворчасці грузавікоў і т. д. мы выходзім на адно з першых месц у свеце.

СССР ператвараецца ў другім пяцігоддзі ў тэхніка-эканамічна незалежную краіну і ў самую перадавую ў тэхнічных адносінах дзяржаву ў Еўропе.

Ужо к канцу 1932 г. СССР займаў па пасевах пшаніцы, ячменю, аўса другое месца ў свеце, а па цукровых бураках—першае месца.

К канцу другой пяцігодкі СССР зойме па вытворчасці пшаніцы, ячменю, ільнавалакна першае месца ў свеце **(апладысменты).**

Мы безумоўна станем краінай, якая па свайму багаццю будзе краінай, якой не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва. Нашы поспехі ўзбройваюць пролетарыяў капіталістычных краін на рашучую і апошнюю барацьбу, якая паложыць раз і назаўсёды канец капіталістычнай сістэме, капіталістычнаму рабству і прыгнечанню чалавецтва **(апладысменты).**

Выкананне вялікіх задач другой пяцігодкі забяспечана ў нас тым, што на чале нашай партыі стаіць лепшы прадаўжальнік справы Леніна, лепшы саратнік Леніна тав. Сталін, лепшы з лепшых ленінцаў, які кіруе намі, вучыць нас, дапамагае нам на кожным участку работы як і што трэба рабіць **(бурныя апладысменты).**

Мы павінны памятаць, што выкананне задач 2-й пяцігодкі патрабуе палепшання ўсёй сістэмы нашай работы і кіраўніцтва. Трэба паставіць справу так, каб было забяспечана:

**па-першае,** рэволюцыйная пільнасць супроць ворагаў дыктатуры пролетарыята і сапраўдная адказнасць перад рабочым класам і яго партыяй за даручаную справу;

**па-другое,** аператыўнасць і канкрэтнасць штодзеннага гаспадарчага кіраўніцтва, якое не мірыцца з бюракратычнымі скажэннямі ў гаспадарчым апараце;

**па-трэцяе,** сканцэнтраванне лепшых інжынерна-тэхнічных сіл на рашаючых вытворчых участках, а не ў канцэлярыях устаноў;

**па-чацвертае,** правільная арганізацыя зарплаты рабочых, якая забяспечвае матар'яльнае заахвочванне і рост прадукцыйнасці працы;

**па-пятае,** узняцце справы соцспаборніцтва, асабліва ў мэтах лепшага асваення новай тэхнікі і новых вытворчасцей;

**па-шостае,** моцная вытворчая дысцыпліна як у прамысловых прадпрыемствах, так і ў калгасах;

**па-сёмае,** далейшае ўмацаванне саюза рабочых і працоўных сялян.

І, таварышы, дазвольце разам з вамі дапоўніць—і **па-восьмае:** яшчэ больш жалезнае згуртаванне радоў КП(б)Б з ВКП(б) вакол ленінскага ЦК і правадыра партыі тав. **Сталіна (апладысменты).**

## Рост СССР і эканамічны крызіс у капіталістычных краінах

Тав. **Сталін** у палітсправаздачы на XVI з'ездзе партыі яшчэ ў пачатку эканамічнага крызіса ў капіталістычных краінах даў наступны прагноз:

«... Стабілізацыі капіталізма прыходзіць канец.

... Пад'ём рэвалюцыйнага руху мас будзе нарастаць з новай сілай.

... Сусветны эканамічны крызіс будзе перарастаць у радзе краін у крызіс палітычны.

Гэта значыць, па-першае, што буржуазія будзе шукаць выхаду са становішча ў далейшай фашызацыі ў галіне ўнутранай палітыкі, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе рэакцыйныя сілы, у тым ліку і соцыял-дэмакратыю.

Гэта значыць, па-другое, што буржуазія будзе шукаць выхаду ў новай імперыялістычнай вайне і інтэрвенцыі ў галіне знешняй палітыкі.

Гэта значыць, нарэшце, што пролетарыят, змагаючыся з капіталістычнай эксплаатацыяй і ваеннай небяспекай, будзе шукаць выхаду ў рэволюцыі» [1]).

Гэта геніяльнае прадсказанне правадыра партыі з усёй сілай апраўдваецца.

Не гледзячы на тое, што за апошні час у радзе краін, як падкрэсліў тав. Сталін у сваёй гутарцы з прадстаўніком амерыканскага друку Дзюранці, выявілася магчымасць і нават верагоднасць пераходу з хістаннямі ўверх і ўніз, ад крызіса к дэпрэсіі,—агульны крызіс капіталістычнай сістэмы няўхільна абвастраецца. Наспелі аб'ектыўныя прадпасылкі рэволюцыйнага крызіса і капіталізм шчыльна падыходзіць да новага туру рэволюцый і войн.

Сусветны эканамічны крызіс, працякаючы ва ўмовах усеагульнага крызіса, нанёс знішчальны ўдар і расхістаў эканамічную сістэму капіталізма, выкінуў на вуліцу мільёны рабочых і разарыўшыхся сялян.

Вось паглядзіце, што робіцца ў капіталістычных краінах, мяжуючых з Совецкай Беларуссю. Я маю на ўвазе, перш за ўсё, Польшчу.

Вось што піша польскі друк аб стане прамысловасці Польшчы:

«Здабыча вугалю: у 1933 г. складала 27,3 млн. тон, супроць 38 млн. тон у 1931 г.

Экспарт вугалю ў Польшчы ў 1931 г.—14 тыс. тон, у 1932 г.—10 362 тоны, у 1933 г.—3 703 тоны.

Здабыча нафты складала ў 1930 г. 663 тыс. тон, у 1932 г.—557 тыс. тон, у 1933 г.—550 тыс. тон».

---

[1]) Сталин. Вопросы ленинизма, изд. 9-е, стр. 493

Што датычыць металапрамысловасці, то канчатковыя даныя за 1933 год не выведзены. Калі і ёсць павелічэнне выпуску прадукцыі металапрамысловасці ў 1933 г. у параўнанні з папярэднім годам, то гэта тлумачыцца выключна закупкамі СССР.

Вось як адзываецца буржуазна-фашысцкая польская прэса аб стане прамысловасці Польшчы. І сапраўды стан прамысловасці з года ў год пагаршаецца. Польскі экспарт складае зараз толькі 37 проц. у адносінах да 1930 года. Чыгуначныя перавозкі скараціліся амаль на палову—66 млн. тон у 1930 і 35 млн. тон у 1933 г.

Асабліва ў катастрафічным становішчы знаходзіцца сельская гаспадарка Польшчы.

У снежні 1933 г. у польскім сойме ў час спрэчак па дакладу аб бюджэце міністэрства земляробства соймавы дакладчык, дэпутат урадавага блоку Камінскі, заявіў:

> «Наша польская моладзь захапляецца рускай калектывізацыяй. А на самой справе больш труднай задачай з'яўляецца перабудова гаспадарак такім чынам, як мы гэта робім. Нашай важнейшай задачай на ўсходніх крэсах (Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна) з'яўляецца тое, каб перабудаваныя нашы гаспадаркі давалі лепшыя паказчыкі, чым калектыўныя гаспадаркі на тэрыторыі СССР. Таму намаганні ўрада ў гэтым напрамку павінна актыўна падтрымаць думка ўсёй краіны, незалежна ад палітычных уплываў».

Аднак, на справе нічога не атрымліваецца з палепшаннем сельскай гаспадаркі Польшчы. Сам польскі друк вымушан канстатаваць, што сабекошт аднаго цэнтнера жыта складае 25 злотых, рыначная цана—14 злотых. Яшчэ больш катастрафічнае падзенне цэн ёсць на пшаніцу. Цана цэнтнера пшаніцы панізілася з 53 злотых у 1927 г. да 22 злотых у 1933 г.

Падзенне цэн на сельскагаспадарчыя прадукты ўсё больш паглыбляе і без таго цяжкае становішча сялянства Польшчы.

Вось што з гэтага поваду піша віленская газета «Слово», орган віленскіх пілсудчыкаў:

> «Для кароткай характарыстыкі гаспадарчай дзейнасці Польшчы астаецца і далей самым падыходзячым словам — тэрмін змрочны або нават жудасны. Сёння ніхто не бачыць трагізму ў тым, што крызіс існуе наогул, тое, што крызіс існуе—не трагедыя, палохае толькі тое, што крызіс увесь час існуе без перапынку і адхіленняў, што невядома, калі з цемры пакажацца яго дно, што нельга прадбачыць канца крызісу».

Вы бачыце, як прадстаўнікі польскага фашызма не толькі згадзіліся з тым, што крызіс нанёс свае сакрушальныя ўдары, але што невядома, калі будзе канец гэтага крызіса, прывёўшага гаспадарку Польшчы да змроку і жаху.

Газета «Польскі дзеннік»—орган віленскіх эндэкаў—у нумары ад 1/I-34 г. піша:

> «Не гледзячы на розныя прароцтвы, аб'яўленыя нават з высокапастаўленага свету, эканамічнае становішча ў Польшчы не толькі не паляпшаецца, але не відаць ніякіх прызнакаў стабілізацыі таго жудаснага становішча, якое мы на сёння маем. Наадварот, трэба нават у самым бліжэйшым будучым быць гатовым да абвастрэння шэрай, безнадзейнай галечы, узначальваючай сёння ў нас кожны куток польскай рэчаіснасці».

У такім-жа духу выказваецца і другая газета—«Кур'ер Навагрудскі». У артыкуле «Парочны круг» газета піша:

«Барацьба з крызісам вялася знізу і зверху згодна лозунга: прыстасавацца да ўмоў крызіса, што было асноўнай і найбольш характэрнай рысай гэтых умоў. Заняпад кансуміцыі і нізкія цэны, у першую чаргу нерэнтабельнасць прадпрыемства, як рэзультат нізкага ўзроўню цэн. Трэба было перамагчы пры дапамозе зніжэння выдаткаў вытворчасці... Тады прышла чарга на абмежаванне ўжываемых у вытворчасці матар'ялаў. Гэты метад стаў усеагульным, і ў рэзультаце прывёў да таго, што сваім дзеяннем у сваёй галіне ён шкодна адбіваўся на другіх. З прычыны таго, што ў апошнім выніку ён азначаў усеагульнае змяншэнне попыту, а ўслед за гэтым далейшае зніжэнне цэн і далейшае згортванне вытворчасці, пры адначасовым пагаршэнні якасці. Да гэтага далучаўся рост беспрацоўя, які моцна давіў на збыт сродкаў спажывання».

Закранаючы далей становішча сельскай гаспадаркі на тэрыторыі Віленскага ваяводства (г. зн. у Зах. Беларусі), газета піша:

**«Усе мы, як відаць, ведаем умовы жыцця ў вёсцы. Газа ўступае месца старажытнай лучыне, смак цукру даўно забыт, мыла для мыцця ўжываецца толькі перад вяселлем, запалкі, калі купляюць, то па адной (за грош чатыры штукі), найбольш частыя прычыны адсутнасці дзяцей у школе—недахват адзежы».**

Газета заканчвае:

**«Віленскі селянін не абнаўляе некалькі год сельскагаспадарчых прылад, а сям-там саха пачынае ўваходзіць ва ўжытак».**

Гэта ў той час, калі ў нас у СССР, трактар і іншыя складаныя сельскагаспадарчыя машыны ўсё больш укараняюцца ў сельскую гаспадарку, калі ўжо ў мінулым годзе мы мелі сотні і тысячы калгасаў і калгаснікаў, стаўшых заможнымі.

«Ужыванне штучных угнаенняў зменшылася ўжо ў 1932 г. у параўнанні з 1929 г. на 90 проц., а паказчык яго на сёнешні дзень блізак к нулю. Селянін не мае магчымасці купіць адборнае зярно—засмечаным зярном кормяць зямлю. Гутаркі быць не можа аб новых капіталаўкладаннях, калі няма сродкаў на ўтрыманне старога абсталявання, якое з часам зношваецца і адказваецца далей служыць. Тры гады таму назад мясцовыя сельскагаспадарчыя арганізацыі прыкладалі ўсе старанні, каб затрудніць вываз макухі за граніцу, каб забяспечыць задаваленне патрэбы на макуху на месцах—сёння селянін наўрад ці ўспомніць, як макуха выглядае, ён не думае нават аб канцэнтраваным корме. Жывёлагадоўлі нанесен цяжкі ўдар. У гэтым годзе лік свіней на 17 проц. менш леташняга і на пятую частку менш, чым у 1931 г. Лік коняй і кароў зменшыўся на 4 проц. Маладняк масава прадаецца, бо селянін не клапоціцца аб прыросце—жывёлагагадоўля нерэнтабельна.

Мы маглі-б прывесці шмат фактаў, якія сведчаць аб тым, што селянін пераступіў тую мяжу, да якой ён не мог зніжаць свае расходы, не наносячы шкоды сваёй гаспадарцы. Але прыведзеныя намі факты зусім дастатковы, каб прыйсці к вываду, што ў наяўнасці безупыннае змяншэнне прадукцыйнасці зямлі

і жывёлагадоўлі, з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі для плацежнага баланса і абарончай здольнасці як нашай області, так і дзяржавы. Незразумела зусім, чаму на акалічнасць такой незвычайнай важнасці не звярнулі ўвагі адпаведныя органы, абавязкам якіх з'яўляецца абарона сельскай гаспадаркі».

«Віленскі селянін знаходзіцца ў такім становішчы, што ён вымушан знішчаць свае прылады працы—так, як быццам-бы ён рэзаў сук, на якім ён сядзіць. Не знішчаць—гэта значыць неадкладна пайсці па свету з торбай жабрака».

Гэта па афіцыяльных даных прэсы, а ў сапраўднасці эканамічнае становішча Польшчы значна горшае.

Нават соцыял-фашысцкі орган ППС «Работнік» вымушан пісаць, што

«ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцця відны аграмадныя зруйнаванні, якія цягнуцца на працягу апошніх трох год».

Соцыял-фашысты—гэта галоўная соцыяльная апора буржуазіі—бачаць не толькі адно зруйнаванне, але яны бачаць, як гэты крызіс усё больш рэвалюцыянізуе рабочыя масы. Пэпээсаўскія і фашысцкія бюракраты прабуюць усяляк затрымаць стачачны рост, затрымаць рэвалюцыйны націск рабочага класа. Аднак, не гледзячы на ўзмоцненае супраціўленне соцыял-фашыстаў, забастовачны рух усё больш узмацняецца, прычым забастоўкі ў Польшчы носяць ярка выражаны палітычны характар.

Такаво становішча па той бок нашай граніцы.

Рост нашага соцыялістычнага будаўніцтва, перамогі нашай пяцігодкі не могуць не аказваць рэвалюцыянізуючага ўплыву на рабочыя і сялянскія масы Польшчы, Зах. Беларусі. Гэта акалічнасць ускладае на нас яшчэ большую адказнасць за выкананне тых задач, якія перад намі стаяць.

### Перабудова сельскай гаспадаркі БССР

Падводзячы вынікі работы КП(б)Б за перыяд ад XIV да XV з'езда партыі, трэба сказаць, што за гэты адрэзак часу ў рабоце па сельскай гаспадарцы мы мелі цэлы рад сур'ёзнейшых спраў, якія маюць аграмаднейшае значэнне непасрэдна і для 1934 г.

Тав. Сталін на XVI з'ездзе партыі папярэдзіў аб немінучасці шалёнага супраціўлення класавага ворага соцыялістычнаму разгорнутаму будаўніцтву. Тав. Сталін гаварыў:

«Мы прадпрынялі разгорнутае наступленне на капіталістычныя элементы, мы прасунулі далёка ўперад нашу соцыялістычную прамысловасць, мы разгарнулі будаўніцтва соўгасаў і калгасаў. Але такія з'явы не могуць прайсці дарма для эксплаататарскіх класаў. Гэтыя з'явы звычайна суправаджаюцца зруйнаваннем аджываючых класаў, зруйнаваннем кулацтва ў вёсцы, звужваннем поля дзейнасці дробна-буржуазных слаёў горада. Зразумела, што ўсё гэта не можа не абвастрыць барацьбы класаў, супраціўлення аджываючых класаў палітыцы совецкай улады» [1]).

Уся наша работа на вёсцы за ўвесь гэты перыяд праходзіла, і пакуль што праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы, што было падкрэслена і ў рашэннях XVII партыйнай канферэнцыі.

[1]) **Сталин.** Вопросы ленинизма, изд. 9-е, стр. 556.

Наша далейшае прасоўванне ўперад немінуча выкліча абвастрэнне класавай барацьбы ў паасобныя моманты, і асабліва ў паасобных раёнах і на паасобных участках соцыялістычнай будоўлі. З прычыны гэтага перад партыяй стаіць задача ўмацавання пролетарскай дыктатуры і далейшага разгортвання барацьбы з апартунізмам, з правым ухілам, як галоўнай небяспекай на даным этапе.

І трэба сказаць, што ў нас, у Беларусі, мы мелі значнае абвастрэнне класавай барацьбы за мінулы перыяд.

Варта ўспомніць тую шалёную контррэволюцыйную кулацкую работу, якую мы сустрэлі пры правядзенні веснавой сяўбы 1932 года. Гэта знаходзіла выражэнне ў даволі значным выхадзе з калгасаў, а ў радзе выпадкаў і распад цэлых калгасаў, у зацягванні тэрмінаў сяўбы і дрэннай якасці правядзення сяўбы ў радзе раёнаў. Усё гэта гаворыць аб адчайным супраціўленні класавага ворага і яго агентуры нашаму калгаснаму будаўніцтву.

Калі заняліся гэтай справай, то выявілі вялікую засмечанасць калгасаў антысовецкімі, кулацкімі, эсэраўскімі элементамі. Веснавая сяўба паказала, што мы маем справу не толькі з неарганізаванасцю, з адсутнасцю большэвіцкай напорыстасці за паспяховае правядзенне сяўбы, але, па сутнасці справы, мелі ў наяўнасці прамы, непрыкрыты раз'юшаны сабатаж сяўбы і факты прамога кулацкага тэрору і шкодніцтва. Сабатаж сяўбы праяўляўся ў тым, што ў нас беспакарана гулялі не толькі па калгасах і вёсках, але нават у радзе раённых, совецкіх і партыйных арганізацый і, калі хочаце, нават сярод некаторых цэнтральных арганізацый (Наркамзем), самыя адсталыя рэакцыйныя «тэорыі» аб тэрмінах сяўбы, аб непрыгоднасці трактароў ва ўмовах Беларусі, аб немэтазгоднасці ўжывання хімічных угнаенняў для палёў Беларусі.

Выразіцелем такога роду «тэорый», у прыватнасці, нават на пасяджэннях Бюро ЦК, быў даволі вядомы Масюкоў. Прыкідваючыся, што ён як быццам не зусім разбіраецца ў справе, ён адкрыта ставіў пытанне аб непрымянімасці трактароў і хімічных угнаенняў ва ўмовах Беларусі. І не толькі ён адзін, але ва ўнісон з ім паўтаралі гэтыя шкодніцкія рэакцыйныя ідэі многія іншыя былыя работнікі наркамземаўскай сістэмы.

Якія-ж гэта «спецыфічныя» ўмовы Беларусі, якія не дазваляюць прымяняць хімічных угнаенняў? Нават у перадавых капіталістычных краінах пытанні механізацыі сельскай гаспадаркі, угнаення і ранняй сяўбы і т. д. даўно ўжо набылі права грамадзянства. А ў нас, нават сярод комуністаў знаходзіліся людзі, якія следам за шкоднікамі паўтаралі гэтыя рэакцыйныя ўстаноўкі.

Вазьміце, урэшце, пытанне аб кані. Мы намячаем агромны рост конскага пагалоўя, палепшанне догляду каня і т. д. Амаль у кожным краі і раёне скліканіся канферэнцыі конюхаў, выдаваліся лепшым ударнікам-конюхам прэміі і розныя ўзнагароды. За атрыманне гэтых узнагарод на Паўночным Каўказе разгарнулі каласальную барацьбу за ўважлівыя гаспадарчыя адносіны да каня.

А ў нас, у БССР, у адносінах каня мелі месца самыя рэакцыйныя ўстаноўкі. Гэтыя ўстаноўкі не атрымлівалі належнага адпору з боку многіх нашых комуністаў. У рэзультаце, у 1932 г., і часткова ў 1933 г., мы мелі каласальны падзеж конскага пагалоўя. Гэта ў той час, калі мы ў Беларусі знаходзімся ў лепшых умовах з кармамі, чым любая область Совецкага Саюза.

1932 год паказаў нам, што ў радзе савецкіх і партыйных арганізацый мелі месца элементы бытавога разлажэння, зрошчванне з кулацкімі элементамі, адсутнасць самакрытыкі, групаўшчына, славесная дэкларацыйнасць, засмечанасць чужым элементам. Варта ўспомніць справу Петрыкаўскага раёна (вясна 1932 г.), Талачынскага раёна і цэлы рад іншых спраў, каб упэўніцца, наколькі засмечаны былі многія нашы партарганізацыі класава-чуждым элементам. Мы ў 1932 г. прыкладна распусцілі 15—16 кіраўніцтваў **раённых арганізацый**, а ў двух арганізацыях збіралі пазачарговыя партканферэнцыі, таму што там выявілі простае зрошчванне з кулаком не толькі ў нізавых партыйных звеннях, але і ў раёнах.

Мы мелі ў наяўнасці ў радзе месц грубейшыя парушэнні элементарных правіл рэволюцыйнай законнасці, мелі засмечанасць сельсоветаў. Вазьміце хоць-бы той-жа Петрыкаўскі раён. У яго ў 15 сельсоветах (з 22) на чале стаялі кулакі і іншыя чуждыя нам элементы.

Да гэтага трэба дадаць і саноўна-бюракратычныя метады кіраўніцтва, адсутнасць неабходнай большэвіцкай рашучасці па прыцяганню вінаватых да адказнасці з боку раду савецкіх кіраўнікоў. Скрозь і ўсюды справы аб агіднасцях, выяўленыя на тым ці іншым участку, гадамі залежваліся ў цэнтральных арганізацыях і ўстановах і не атрымлівалі ніякага рэагавання.

Апарат раду арганізацый быў падобран вельмі дрэнна. На чале стаялі людзі разлажыўшыяся, зрываючыя работу. Бывалі выпадкі, калі чалавек правальваецца на адным участку, яго тут-жа вылучаюць на другі, больш адказны ўчастак работы.

З боку цэнтральных арганізацый мела месца поўнае няведанне таго, што робіцца на месцах,—няправільнае планаванне, адсутнасць уліку і т. д. Даволі сказаць, што працэс адыходу, адсеву з калгасаў пачаўся ў нас яшчэ ўвосень 1931 г. А мы сядзелі на прайшоўшым XIV з'ездзе партыі і не ведалі па сутнасці справы таго, што непасрэдна адбываецца ў рашаючых звеннях сельскай гаспадаркі: калгасах і соўгасах.

І ў галіне прамысловасці мы мелі рад неспрыяльных момантаў. Даволі ўспомніць барысаўскую справу, дзе антысовецкія элементы, скарыстаўшы затрудненне з харчамі, з-за злачыннай работы каапераціі і мясцовых партарганізацый, прабавалі дэзарганізаваць нашу работу. І не толькі ў Барысаве—і ў Гомелі, і ў Менску, і ў Віцебску былі буйнейшыя прарывы ў выкананні промфінплана.

У культурных установах, навуковых арганізацыях 1932 год паказаў, што ў іх аказаўся рад чуждых людзей, прыкрываючыхся фальшыва-нацыянальным флагам, шкодзіўшых соцыялістычнаму будаўніцтву. Мы мелі ў 1932 г. даволі разгорнутую работу трацкісцкіх элементаў (мазырская справа, ячэйка БелАН і інш.).

Нашы партыйныя арганізацыі не здолелі своечасова ўскрыць і выкрыць супраціўленне класавага ворага і разграміць яго шкодніцкія махінацыі. У рэзультаце веснавую сяўбу 1932 г. мы вельмі зацягнулі. Мы аказаліся на самым апошнім месцы абласцей і краёў Совецкага саюза. Толькі пасля таго, як мы атрымалі тэлеграму непасрэдна ад т. Сталіна, папярэдзіўшую ЦК Беларусі аб тым, што пара ў Беларусі спыніць усякую беспрынцыпную склоку, а заняцца практычнай работай і забяспечыць паспяховае правядзенне веснавой сяўбы, мы з сяўбой больш-менш выцягнулі. Але гэтая позняя

сяўба не магла спрыяць высокаму ўраджаю. Асабліва вялікія страты панесены па аўсу, які быў засеян у зусім недапушчальна познія тэрміны.

У 1932 г. быў рад адмоўных момантаў у соўгасным будаўніцтве.

Тут, вядома, сказалася і тая шкодніцкая работа, якая мелася ў будаўніцтве соўгасаў: адвод дрэннай зямлі для соўгасаў, арганізацыя соўгасаў на вялікай адлегласці ад чыгункі і т. д. Даволі ўказаць, што ў нас ёсць амаль што 20—30 проц. соўгасаў, якія знаходзяцца ад чыгункі ў 30—40 кілометрах. Ёсць нават соўгасы, якія знаходзяцца ад чыгункі ў 60 кілометрах. Пры недастатковай кармавой базе гэта значыць, што свінагадоўчыя соўгасы пастаўлены пад прамую пагрозу недахвату корму, бо забяспечанасць сваімі ўласнымі кармамі выключна нізкая. Гэта, вядома, не магло не выклікаць велізарнейшага адыходу свінога пагалоўя.

Мы ў канцы 1932 г. грунтоўна не заняліся падчысткай нашых соўгасаў, калгасаў, сельсоветаў ад класава-чуждых элементаў. У рэзультаце ўсяго гэтага мы мелі кулацкі сабатаж у правядзенні хлебазагатовак.

Вы ведаеце, што ЦК ВКП(б), заслухаўшы даклад ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб хлебазагатоўках па БССР, прыняў рэзалюцыю, якая ў асноўным зводзілася да наступных пунктаў:

1. Работу ЦК і СНК па загатоўках сельгаспрадуктаў прызнаць нездавальняючай.

2. Гніла-ліберальныя адносіны партыйных і совецкіх арганізацый да загатовак, у рэзультаце чаго загатоўкі зрываліся.

3. Наяўнасць у КП(б)Б славеснай дэкларацыйнасці як у арганізацыі, так і сярод паасобных комуністаў.

4. Наяўнасць у партыйных арганізацыях Беларусі недастатковай барацьбы з перараджэнскімі элементамі ў партыі, вельмі часта прыкрываючымі сваю контррэволюцыйную работу фальшыга-нацыянальнымі флагамі.

5. Прапанаваць ЦК КП(б)Б і СНК ачысціць рады партыі і совецкія арганізацыі ад буржуазных, перараджэнскіх элементаў.

6. Зламаць сабатаж кулацтва і ўсякіх антысовецкіх элементаў у справе выканання загатовак.

Гэта пастанова з усёй сілай і ленінскай празорлівасцю паказала на сапраўднае становішча ў нас у Беларусі ў 1932 г.

І сапраўды, калі ЦК КП(б)Б, СНК БССР, а потым і раённыя партыйныя арганізацыі разгарнулі спрагу так, як гэтага патрабаваў ЦК ВКП(б)—мы дабіліся небывалых тэмпаў у ходзе загатовак. Калі на 10 снежня 1932 г. гадавы план хлебазагатовак быў выканан па БССР толькі на 48 проц., то на 1-І-33 г. мы выканалі яго на 106 проц. Значыць за 20 дзён мы далі больш паловы плана хлебазагатовак. Тое-ж самае мы мелі па бульбе і па другіх відах сельска-гаспадарчых прадуктаў.

Гэта лішні раз гаворыць аб тым, наколькі мы прагдядзелі манеўры класавага ворага, наколькі не здолелі сапраўды, па-большэвіцку, разглядзець тую абстаноўку, у якой мы працавалі, для таго, каб нанесці рашучы ўдар па класаваму ворагу, які вядзе падрыўную работу на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

На прыкладзе Беларусі (як гэта ні сумна для нас, комуністаў) мы павінны сказаць, што нават цэлыя партыйныя арганізацыі не зразумелі той новай абстаноўкі ў краіне, якую мы мелі ў сувязі з

абвяшчэннем калгаснага гандлю, не зразумелі таго, аб чым гаварыў т. Сталін на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б).

На прыкладзе КП(б)Б была ясна даказана славесная дэкларацыйнасць, гніла-ліберальныя адносіны да загатовак, аслабленне рэволюцыйнай пільнасці з боку многіх партыйных і совецкіх арганізацый да дзеяннняў і махінацый класавага ворага.

На прыкладзе Беларусі мы лішні раз пераканаліся наколькі пагранічнае становішча нашай рэспублікі абавязвае нас, комуністаў, быць больш пільнымі і павысіць яшчэ больш наш палітычны ўзровень, лепш уладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй, каб своечасова бачыць і ліквідаваць махінацыі ворага, бачыць і знішчаць недахопы ў рабоце.

1932 год з'яўляўся для ўсёй КП(б)Б годам вялікіх урокаў. Ён з'явіўся для нас вялікай большэвіцкай школай.

Гэты рашаючы адрэзак часу, супадаючы з заканчэннем 1-й пяцігодкі і пачаткам 2-й пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, абавязваў і абавязвае ўсіх комуністаў больш чым калі-б там ні было зжываць у сваёй рабоце ўсякі бюракратызм, славесную дэкларацыйнасць, саноўна-панскія метады кіраўніцтва.

Ён абавязвае комуністаў раз назаўсёды пакончыць з элементамі групаўшчыны, сямейственасці, месніцтва.

Іменна наяўнасць элементаў групаўшчыны, сямейственасці не толькі ў паасобных звеннях, але, па сутнасці справы, ва ўсіх арганізацыях КП(б)Б і нават сярод кіруючых работнікаў, прывяла да таго, што мы прагледзелі самую злосную, самую зверскую работу класавага ворага.

Гэта гаворыць аб тым, наколькі нам неабходна перабудавацца, наколькі неабходна павысіць сваю рэволюцыйную пільнасць, узняць адказнасць кожнага комуніста за даручаную яму работу. Трэба нам дабіцца, каб нашы работнікі хутчэй раслі для таго, каб быць на ўзроўні вялікіх задач, пастаўленых перад намі другой пяцігодкай. Той комуніст, які думае, што можна ў перыяд разгорнутай барацьбы за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства быць звязаным з элементамі групаўшчыны, сямейственасці,—з'яўляецца страчаным для партыі чалавекам. Такі комуніст будзе самым апошнім чалавекам у соцыялістычным грамадстве **(апладысменты).**

## Раўняцца па перадавых краях, рэспубліках і абласцях

Вы ведаеце, таварышы, выключную па сваёй празорлівасці і геніяльнасці прамову тав. Сталіна на студзеньскім пленуме ЦК «Аб рабоце ў вёсцы». Тыя ўстаноўкі, якія тав. Сталін даў у гэтай гістарычнай прамове, з'яўляліся і з'яўляюцца настольнай кнігай кіраўніцтва ў нашай практычнай рабоце ў вёсцы.

Мы можам сказаць, што 1933 г. з пункту погляду барацьбы за далейшае развіццё сельскай гаспадаркі для нас у БССР з'яўляецца годам безумоўна сур'ёзных поспехаў у рабоце, годам, калі мы моцна, з усёй сілай разгарнулі справу соцыялістычнага будаўніцтва.

1933 год з'явіўся для нас годам ліквідацыі цэлага раду недахопаў і прарываў, якія меліся ў папярэднія гады. 1933 г. для Совецкага саюза аказаўся ў рэзультаце ажыццяўлення ўказанняў тав. Сталіна годам сур'ёзнейшых рашаючых перамог.

Вось некаторыя даныя выканання гадавога плана: здача зярна дзяржаве па БССР выканана поўнасцю і па кожнаму віду паасобку: зернапастаўкі, натураплата, зварот зерневых пазык, здача хлеба соўгасамі. План пастаўкі зярна дзяржаве па СССР выканан не толькі калгасамі, але і аднаасобнымі гаспадаркамі.

Гэты план выканан не толькі ў цэлым па Саюзе, але ён выканан кожнай паасобнай обласцю, краем, рэспублікай. Гэта велізарнейшая справа, чаго мы не мелі ні ў адну папярэднюю хлебазагатоўчую кампанію.

Гадавы план па Саюзе ў цэлым выканан такім чынам, што за першы квартал кампаніі—ліпень, жнівень, верасень 1933 г.—павінна было быць здана па плану 55,2 проц., фактычна-ж здана 80,2 проц. супроць 45,9 проц. за той-жа перыяд мінулага года. План зернапаставак на 1 лістапада выканан на 96 проц. гадавога плана, тады як у 1932 г. на гэты-ж тэрмін было здана толькі 73 проц. Цэлы рад абласцей і аўтаномных рэспублік—Крым, Татарыя, Маскоўская обласць, Горкаўскі край—к 1 кастрычніка поўнасцю выканалі ўвесь гадавы план хлебапаставак, у той час як у мінулым годзе на тое-ж число выкананне гадавога плана складала для Крыма 91 проц., Татарыі 71 проц., Маскоўскай обласці 51 проц., Горкаўскага края 49 проц., а па Беларусі, калі ўзяць адпаведна выкананне плана, то мы выканалі ў мінулым годзе на тое-ж число прыкладна 25 проц. плана.

Па Беларусі мы ў гэтым годзе па здачы хлеба, зярна, па адгрузцы бульбы Ленінграду і па цэламу раду іншых відаў выканання абавязацельстваў перад дзяржавай вышлі лепш, чым калі-небудзь. Праўда, у нас яшчэ астаўся сур'ёзнейшы недахоп—гэта невыкананне плана ільназагатовак. Тут-та мы не выкарысталі тыя магчымасці, якія мы мелі, каб даць лепшыя паказчыкі, чым мы іх далі.

Рад абласцей і рэспублік, як Маскоўская, Татарыя, Заходняя обласць і інш., атрымалі ордэн Леніна за паспяховае выкананне гаспадарчых кампаній 1933 г. Мы таксама мелі ў 1933 г. тыя-ж магчымасці, каб атрымаць ордэн Леніна. А тое, што мы ордэна Леніна не атрымалі, у першую чаргу самі вінаваты ў гэтым. Мы яшчэ не зрабілі ўсяго таго, што ад нас патрабуецца і тым самым не заслужылі гэтай найвышэйшай узнагароды.

Тав. **Кагановіч,** кіраўнік маскоўскай арганізацыі, яшчэ ў пачатку гэтага года гаварыў: «У вас, у Беларусі, ёсць найлепшыя магчымасці спаборнічаць з Масквой, і невядома яшчэ, можа быць, вы Маскву абгоніце ў выкананні сельскагаспадарчых планаў».

Гэта зусім зразумела: мы з пункту погляду арганізацыйных і гаспадарчых магчымасцей маем аграмадныя сілы і магчымасці. Мы—рэспубліка з не асабліва вялікім насельніцтвам. У нас ёсць добры транспарт і добрыя дарогі. Мы маем цэлы рад гарадоў (Менск, Гомель, Віцебск, Магілеў і інш.), якія могуць даць салідныя сілы, чаго не мае цэлы рад краёў і абласцей. У Совецкім-жа саюзе ёсць цэлы рад абласцей і краёў, дзе па сутнасці ёсць адзін які-небудзь былы губернскі горад і некалькі павятовых гарадоў. А што сабою прадстаўляў павятовы горад у былой царскай Расіі ў параўнанні з нашымі цяперашнімі гарадамі, многія з вас добра ведаюць. Вазьміце хоць-бы для параўнання Сярэднюю Волгу—гэта проста непараўнальныя рэчы.

Мы маем такія гарады, як Менск, Гомель, Віцебск, Магілеў—у мінулым губернскія гарады, зараз буйныя прамысловыя цэнтры з вялікай пролетарскай праслойкай, чаго няма ў радзе другіх абласцей.

Я ў гутарцы з тав. Кагановічам ад імя КП(б)Б павіншаваў масквічоў з ордэнам Леніна. Паглядзеў на мяне т. Кагановіч і кажа: відаць, здорава зайздросціце **(смех).** І правільна, таварышы. І ведаеце чаму? Таму, што мы сапраўды не зрабілі таго, што трэба было зрабіць. Таму і зайздросцім масквічам, зайздросцім, зразумела, у большэвіцкім сэнсе слова, зайздросцім таму, што прызнаем недахопы нашай работы, зайздросцім таму, што мы павінны проста сказаць: калі ёсць тут віна каго-небудзь, то ў першую чаргу наша віна, віна раённых арганізацый.

Мы мелі ўсе магчымасці выканаць поўнасцю абавязацельствы, не раз узятыя намі ў адпаведных нашых рашэннях і рэзалюцыях. У нас, у БССР, створаны аграмаднейшыя матэрыяльныя рэсурсы ў парадку дапамогі з боку Совецкага саюза, што дае магчымасць пабудаваць нашу работу так, каб мы былі ў першых радах перадавых абласцей і краёў. **І 1934 год павінен быць рашаючым годам,** рашаючым у тым сэнсе, каб сельскую гаспадарку Беларусі зрабіць сапраўды перадавой гаспадаркай у Совецкім саюзе. Мы па механізацыі сельскай гаспадаркі ў 1934 г. будзем займаць адно з першых месц у СССР. Мы будзем мець у БССР больш 3.000 трактароў, будзем мець 81 МТС. Мы ў 1934 г. будзем мець дастатковую колькасць хімічных угнаенняў. У 1934 г. будзем мець цэлы рад другіх сур'ёзных матар'яльных рэсурсаў, якія дазволяць нам рушыць наперад больш хутка.

Тыя палітычныя і арганізацыйныя мерапрыемствы, якія партыя праводзіла ў мінулым сельскагаспадарчым годзе, як правядзенне закона аб абавязковай пастаўцы зярна, мяса, малака і інш. с.-г. прадуктаў, умацаванне рэволюцыйнай законнасці, ажыццяўленне лозунга правадыра партыі тав. Сталіна аб тым, каб зрабіць усе калгасы большэвіцкімі і калгаснікаў заможнымі, аб дапамозе бескароўным калгаснікам, стварэнне з некалькі новымі функцыямі ўпаўнаважанага камітэта па загатоўках і яго ўпаўнаважаных на месцах аж да раёнаў і, урэшце, стварэнне па ініцыятыве тав. Сталіна палітаддзелаў у МТС і соўгасах—усё гэта адыграла рашаючую ролю ва ўмацаванні нашых калгасаў, у арганізацыі ў іх працы, што ў сваю чаргу забяспечыла і павелічэнне даходнасці калгаснікаў.

Мы маем значную перабудову работы партыйных арганізацый на вёсцы, гэтаму спрыяла сумесная работа іх з палітаддзеламі. Нашы нізавыя партыйныя арганізацыі ў вёсцы бліжэй падышлі да вытворчасці, сталі больш глыбока займацца работай у калгасе і соўгасе.

Вось некаторыя даныя нашай перабудовы: з наяўных 63 МТС у Беларусі ўжо ўкамплектаваны і працуюць палітаддзелы ў 57-мі МТС. Аднак, трэба адзначыць, што прыкладна ў 15 МТС палітаддзелы не ўкамплектаваны ўсімі работнікамі. Як правіла, тыя МТС, дзе арганізован палітаддзел, лепш справіліся са сваімі гаспадарчымі і палітычнымі задачамі, чым калгасы, не абслугоўваемыя МТС.

У гэтым напрамку ў 1934 г. нам трэба будзе правесці аграмадную работу. Мы будзем мець 81 МТС. Мы маем больш 200 соўгасаў, аб'яднаных Упоўнаркомсоўгасаў, цэлы рад буйнейшых свінаводчых соўгасаў. Мы павінны дабіцца такога становішча, каб ва ўсіх МТС і соўгасах працавалі такія комуністы, якіх партыя выдзяляе для работы ў палітаддзелах, г. зн. лепшыя комуністы.

Для нас сёння зусім відавочна, наколькі ідэя тав. Сталіна аб арганізацыі палітаддзелаў аказалася правільнай і наколькі жыццё яе лішні раз пацвярджае. Калі мы гаворым, што 1933 г. на многа адрозніваецца ад 1932 г., як у сэнсе ўмацавання рэволюцыйнай законнасці, так і ў справе ачысткі нашых калгасаў ад класавага ворага і ўсякіх антысовецкіх элементаў, адрозніваецца ўмацаваннем нашай партыйнай арганізацыі на вёсцы і ў раёнах, то гэта ў значнай меры заслуга нашых палітаддзелаў. Гэта ў сваю чаргу гарантуе нам у 1934 г., што, спалучаючы работу палітаддзелаў МТС, соўгасаў і раённых партыйных арганізацый, мы даб'емся яшчэ большых поспехаў у нашай аграмаднай творчай рабоце на вёсцы.

Ужо ў 1933 г. мы зрабілі вялікі крок наперад па ажыццяўленню лозунга правадыра партыі т. Сталіна аб заможнасці калгаснікаў. Вось некаторыя даныя аб росце даходнасці нашых калгаснікаў. На працадзень па зерневых культурах у 1932 г. у сярэднім прыходзілася 1 кгр. 350 гр. Мы ведаем, што ў выніку гаспадарчага 1932 г. была вялікая колькасць калгасаў, дзе на працадзень не прыходзілася нават і аднаго кілограма. У 1933 г. у сярэднім на працадзень калгасніка падае звыш 3,5 кгр. зярна. Падвоена і нават патроена ў параўнанні з мінулым годам колькасць бульбы на працадзень. У мінулым годзе на працадзень у сярэднім прыходзілася 3 кгр. 500 гр., у гэтым годзе—6—8 кгр.

Гэтыя даныя аб базе працадня калгасніка атрыманы намі ў рэзультаце распрацоўкі вынікаў па 1 714 калгасах.

Па некаторай групе калгасаў ёсць яшчэ больш высокія даходы. Напрыклад, у калгасе «1-я конная армія», Менскага раёна, у 1931 г. на працадзень прыходзілася зерневых 800 гр., у 1932 г. 2 кгр. 100 гр., у 1933 г.—3 кгр. 642 гр., бульбы ў 1931 г.—4 кгр. 500 гр., у 1932 г.—6 кгр. 600 гр., у 1933 г.—14 кгр. 600 гр. Такіх калгасаў па БССР мы маем сотні.

1933 г. з'явіўся годам значнага павышэння ўраджайнасці ў калгасах і соўгасах.

Так ураджай жыта ў 1932 г. складаў 6 цэнт. з га, у 1933 г.—9,4 цэнт.; пшаніцы: у 1932 г.—6,51 цэнт, з га, у 1933 г.—11,1 цэнт.

Але нам трэба яшчэ правесці вялікую работу па павышэнню ўраджайнасці. Дасягнутыя намі поспехі па якасных і колькасных паказчыках у сельскай гаспадарцы ў 1933 г. не даюць нам ніякага права на гэтым супакоіцца.

Перад намі стаіць цэлы рад буйнейшых задач у галіне сельскай гаспадаркі. Нам трэба, як бліжэйшую задачу ў 1934 г. поўнасцю выканаць план ільназагатовак. Да гэтага часу нашу работу па ільназагатоўках нельга прызнаць здавальняючай. На 15 студзеня мы выканалі па рэспубліцы толькі 76,1 проц. гадавога плана ільназагатовак.

Нам трэба дабіцца ўмацавання ільнаводных, адстаючых раёнаў. Праўда, мы маем тут некаторыя поспехі. Узяць хоць-бы сенненскую арганізацыю або полацкую і дрысенскую арганізацыі. Тут у наяўнасці сур'ёзныя поспехі ў барацьбе за лён, і невыпадкова, што калі мы прэзідыум выбралі тут на з'ездзе, то мы лічылі неабходным і сакратароў полацкага, сенненскага, дрысенскага райкомаў партыі і некаторых іншых работнікаў увесці ў прэзідыум з'езда. Гэтым самым трэба падкрэсліць, што мы і надалей будзем ацэньваць работу любога раёна не па словах, не па дэкларацыях, не па балбатні, якая

ў нас дагэтуль не зусім яшчэ зжыта, а па справе, па выніках выканання ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Перад намі стаіць вельмі сур'ёзная задача—аб Палессі. Такое становішча, у якім знаходзіцца цяпер Палессе, далей пакінуць нельга. Мы павінны моцна паставіць на ногі наша Палессе, каб яно стала раёнам, вытвараючым зерневыя культуры і было поўнасцю забяспечана сваім хлебам.

Перспектывы развіцця Палесся вельмі вялікія. Мы маем там усе магчымасці шырэй паставіць развіццё жывёлагадоўлі і зернавых культур, каб ператварыць Палессе ў адзін з перадавых раёнаў БССР.

Асаблівую ўвагу для БССР набывае расшырэнне пасеўных плошчаў пшаніцы. План пасеву азімай пшаніцы ў мінулым 1933 г. мы выканалі лепш чым у папярэднія гады. Але гэтым мы не можам абмежавацца. Перад намі стаіць вялікая задача, каб прышчапіць культуру азімай пшаніцы ў БССР і дабіцца сур'ёзнейшых поспехаў у гэтых адносінах.

1934 год павінен быць годам далейшага ўмацавання палітаддзелаў МТС і соўгасаў.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на ўмацаванне нашых соўгасаў. Мы не можам дапусціць такога становішча, каб соўгасы адставалі ў сваім развіцці. Трэба сур'ёзна і грунтоўна паставіць пытанне аб забяспечанні соўгасаў кармамі і стварэнні моцнай фінансавай і матар'яльнай базы для іх.

Таксама і ў справе ўмацавання калгасаў нам яшчэ прадстаіць вельмі многа зрабіць. Мы маем на тэрыторыі БССР вельмі многа дробных раскіданых калгасаў, асабліва на хутарскай зямлі. Такое здрабненне калгасаў не дазваляе правільна наладзіць чоткае кіраўніцтва работай гэтых калгасаў і не дае магчымасці правільна арганізаваць работу брыгад.

Нам асабліва патрэбна ў 1934 г. канчаткова пакончыць з пытаннем аб прысядзібных участках, на што не раз указвала «Правда», трэба раз і назаўсёды пакончыць з кулацкай тэндэнцыяй, накіраванай на павелічэнне прысядзібных участкаў.

У галіне выканання дзяржаўных абавязацельстваў па пастаўцы сельскагаспадарчых прадуктаў БССР павінна заняць у 1934 г. адно з першых месц у Совецкім саюзе.

Нам трэба дабіцца далейшага росту даходнасці калгаснікаў, каб 1934 г. быў годам ажыццяўлення лозунга правадыра партыі тав. Сталіна—зрабіць усе калгасы большэвіцкімі і ўсіх калгаснікаў заможнымі.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на вылучэнне жанчын-калгасніц на кіруючую работу ў калгасе як у самім праўленні, так і асабліва ў калгасных брыгадах. Жанчына, як правільна ўказаў тав. Сталін,—вялікая сіла ў калгасе. Мы павінны яе больш смела і рашуча высоўваць на кіруючую работу.

Нашы начальнікі палітаддзелаў МТС, сакратары райкомаў, старшыні РВК павінны ўзяць пад свой непасрэдны штодзенны нагляд работу ў нашых калгасах. Трэба дабіцца такога становішча, каб кожны сакратар райкома, старшыня РВК быў у курсе справы таго, што робіцца ў калгасе, як там арганізавана праца, як расстаўлены людзі, якія перспектывы далейшага развіцця гэтых калгасаў і т. д.

У галіне развіцця жывёлагадоўлі 1934 год павінен быць годам рэзкага пералому ў справе развіцця свінагадоўлі і асабліва коне-

гадоўлі. Нам трэба дабіцца такога становішча, каб клопаты аб коні сталі справай усіх нашых раённых арганізацый, тэта забяспечыць нам далейшы рост і ўмацаванне конегадоўлі ў БССР.

Асаблівую ўвагу мы павінны будзем аддаць у 1934 г. далейшаму ўмацаванню органаў Наркамзема як тут, у цэнтры, так і на месцах. Нам трэба дабіцца, каб зямельныя органы сталі сапраўднымі соцыялістычнымі арганізатарамі і планавікамі сельскай гаспадаркі, арганізатарамі ў правядзенні ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў на вёсцы, у калгасе, у соўгасе, каб яны сапраўды з'явіліся лепшымі памочнікамі партыі ў справе ператварэння нашай сельскай гаспадаркі ў перадавую сельскую гаспадарку ва ўсім свеце. Нам трэба пакончыць у зямельных органах з усякімі эсэраўскімі, нацдэмаўскімі, прышчэпаўскімі элементамі, калі яны яшчэ там асталіся. Выкрываць і калёным жалезам выпальваць іх адтуль.

Мы павінны дабіцца такога становішча, каб у барацьбе за якасць работы на вёсцы, за апрацоўку глебы, за ачыстку насення, за рамонт і скарыстанне трактароў, снабжэнне іх гаручым, за ўзбраенне калгаснікаў агратэхнічнымі ведамі БССР заняла-б адно з перадавых месц у Совецкім саюзе.

Мы павінны быць перадавікамі ў тым сэнсе, каб неадкладна паклясці канец у нашай беларускай вёсцы усякім рэакцыйным, усякім контррэволюцыйным ідэям і ідэйкам, якія яшчэ да канца не вытручаны. Нам патрэбна зрабіць так, каб сапраўды на кожным участку работы на вёсцы адчувалася непрымірымасць, большэвіцкая астрата, большэвіцкая паслядоўнасць ў барацьбе за выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, большэвіцкая клапатлівасць у адносінах да калгаснікаў, у справе дапамогі ім паставіць сельскую гаспадарку на вышэйшую ступень.

Вазьміце такое пытанне, як праблема высокаякаснага, высокагатунковага насення. Мы-ж па пшаніцы і аўсу не маем свайго насення, а па жыту мы маем надзвычай дрэнныя гатункі насення. Мы не маем таксама добрага насення і па іншых вельмі важных культурах, як, напр., па ільну, бульбе.

Нам трэба павесці ў гэтай галіне аграмаднейшую работу, таму што далей так жыць нельга, далей зніжаць якасць, а гэта значыць, зніжаць ураджайнасць, мы не можам. У гэтым сэнсе велізарная работа кладзецца на плечы нашых міжраённых камісій па ураджайнасці. І ўжо ў 1933 г. мы мелі нямала ўзораў добрай работы.

Нам трэба развіваць і далей соцыялістычнае спаборніцтва, якое, у асаблівасці ў 1933 г., знайшло асабліва яркае выражэнне ў барацьбе за большэвіцкае ўмацаванне калгасаў не толькі паміж калгасамі, не толькі паміж соўгасамі, паміж раёнамі, але таксама знайшло сваё пашырэнне і паміж краямі, рэспублікамі, абласцямі.

Калі соцыялістычнае спаборніцтва прывілося моцна ў нас у прамысловасці, сярод рабочага класа, калі соцыялістычнае спаборніцтва ў прамысловасці стала асноўным метадам работы, то яно яшчэ ў большай меры павінна зрабіцца і стаць асноўным метадам работы і ў сельскай гаспадарцы.

Мы павінны 1934 год зрабіць годам масавага соцыялістычнага спаборніцтва БССР з радам краёў і абласцей. Мы павінны 1934 год зрабіць годам аграмаднага развіцця соцыялістычнага спаборніцтва паміж начальнікамі палітаддзелаў МТС і соўгасаў.

Трэба адзначыць, што начальнікі палітаддзелаў МТС і соўгасаў дагэтуль яшчэ гэтай справай слаба займаюцца. У нас мала такіх

фактаў, калі-б начальнікі палітаддзелаў адзін другога выклікалі на спаборніцтва па канкрэтных участках работы. Нам трэба, каб кожны сакратар райкома сапраўды на-зубок ведаў сваю гаспадарку, ведаў-бы гаспадарку і таго раёна, з якім ён спаборнічае, для таго, каб ён мог як належыць змагацца за лепшыя паказчыкі.

Калі-б вы паглядзелі на тое спаборніцтва, якое ў прыватнасці мне прыходзілася наглядаць паміж Маскоўскай областцю і Горкаўскім краем, то вы ўбачылі-б, што там справа даходзіла нават да таго, што спаборнічаючыя пасылалі сваіх людзей у раёны, каб паглядзець на кожным участку, як працуюць, каб вучыцца і пераняць лепшыя метады работы ў спаборнічаючых.

А мы пакуль што ў справе соцыялістычнага спаборніцтва дрэнна раскачваемся. У нас чакаюць: раёншчыкі чакаюць—вось цэнтральныя, рэспубліканскія арганізацыі нам дадуць насенне і наогул дадуць усё, ну, і тады, моў, будзем спаборнічаць. Такая работа нікуды няварта.

Многія ў нас яшчэ працуюць старымі метадамі. Вось сядзіць сабе раёншчык—сакратар райкома і чакае дапамогі, замест таго каб неадкладна паехаць у тое месца, адкуль грузіцца харчовая дапамога, каб узяць пад свой нагляд, ведаць, што дзе адбываецца.

Нам трэба як можна хутчэй пакончыць з такімі з'явамі і ўзяцца сапраўды за канкрэтнае аператыўнае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, уваходзячы літаральна ва ўсе яе дэталі, выпраўляючы на-хаду ўсе недахопы.

Тыя поспехі, якія мы маем у галіне барацьбы за развіццё і ўмацаванне сельскай гаспадаркі ў Беларусі за 1933 г., нам трэба яшчэ больш замацаваць. 1934 год павінен быць у нас **годам сур'ёзнейшага** павароту, сур'ёзнейшай барацьбы за далейшае палепшанне сельскай гаспадаркі. Трэба працаваць так, каб заняць адно з першых месц у Совецкім саюзе і заваяваць права на атрыманне ордэна імя Леніна **(апладысменты).**

## Прамысловасць

Наша прамысловасць у мінулым 1933 г. выканала гадавую праграму ўсяго толькі на 86,4 [1]) проц. Гэта лічба сама па сабе сведчыць аб дрэнным, нікуды не вартым становішчы работы прамысловасці.

Па асобных галінах прамысловасці мы маем такія паказчыкі: прамысловасць Наркамцяжпрома выканала гадавы план на 91,6 проц., прамысловасць-жа Наркамлегпрома—на 85,6 проц., па Наркамлесу на 78,7 проц. і па прадпрыемствах Наркамснаба—89,6 проц. План здабычы торфу выканан усяго на 56,6 проц. Заданне па выпрацоўцы электраэнергіі выканана на 93,8 проц.

Само сабой зразумела, што такі вынік работы па ўсіх галінах прамысловасці БССР сведчыць аб тым, што кіравалі мы прамысловасцю дрэнна, горш нават чым у 1932 годзе.

Асноўныя прычыны дрэннай работы прамысловасці заключаюцца ў дрэнным кіраўніцтве як па лініі партыйных, совецкіх арганізацый, так і па лініі непасрэдна гаспадарчых арганізацый і ў асаблівасці кіраўнікоў—гаспадарнікаў.

Сапраўды, у гэтым годзе з пункту погляду снабжэння прамысловасці сыравінай мы знаходзіліся не ў горшых умовах, чым у мінулым годзе, а, наадварот, па цэламу раду галін мы мелі лепшыя ўмовы.

[1]) Папярэднія даныя па прамысловасці 4-х наркаматаў саюзнага і рэспубліканскага падчынення.

Тым не менш, гэтыя магчымасці не былі скарыстаны для поўнага выканання промфінплана.

**Возьмем паліва**—гэты найбольш напружаны ўчастак нашай работы. Трэба прама сказаць, нашы арганізацыі і ў Менску, і ў Гомелі, і ў Віцебску, і ў Магілеве, бясспрэчна, прамаргалі з палівам, не скарысталі летні перыяд, калі трэба было загатовіць і перавозіць паліва. А зараз з усіх бакоў нясуцца крыкі—не хапае паліва, няма вагонаў, паліва не падвозіцца. І ясна, само сабой—раз прамаргалі летам, цяпер трудней упушчанае нагнаць.

Але справа не толькі ў паліве. Асноўная прычына дрэннай работы нашай прамысловасці заключаецца іменна ў дрэннай арганізатарскай рабоце, у дрэнным арганізацыйна-тэхнічным кіраўніцтве. І сапраўды, калі паглядзець работу прамысловасці паасобных прапрыемстваў, то мы маем такое становішча:

**Завод імя Варашылава** выканаў у 1933 г. сваю праграму на 105 проц. пры колькасці рабочых у адносінах да плана—93,8 проц., **Магілеўская шоўкавая фабрыка** выканала свой вытворчы план датэрмінова як па колькасных, так і па якасных паказчыках. Мне прышлося нядаўна гаварыць з ленінградскімі таварышамі. Яны прама заяўляюць, што за апошняе паўгоддзе Магілеўская шоўкавая фабрыка дае лепшую прадукцыю, чым адпаведныя другія фабрыкі, якія снабжаюць ленінградскія тэкстыльныя фабрыкі сыравінай.

Вазьміце швейную фабрыку **«Окцябр»**—яна выканала вытворчы план на 100,9 проц. Побач з гэтым «Сцяг індустрыялізацыі»—прадпрыемства, якое займае аграмадную долю ў агульнай прадукцыі швейнай прамысловасці БССР,—выканала промфінплан на 79,9 проц. Гомсельмаш выканаў усяго на 62,5 проц. гадавой праграмы, Магілеўскі трубаліцейны завод—на 60 проц. і т. д.

Значыць, побач з буйнымі прадпрыемствамі, добра працуючымі, мы маем цэлы рад прадпрыемстваў, якія ідуць з сур'ёзнымі прарывамі. Хоць-бы тая-ж фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», якая выканала гадавы промфінплан на 80 проц. Прычым трэба мець на ўвазе, што ў 1933 годзе гэтай фабрыкай вельмі сур'ёзна займаліся і цэнтральныя рэспубліканскія, і нават саюзныя арганізацыі, але тым не менш фабрыка промфінплан не выканала.

Або вазьміце фабрыку «КІМ»— аграмаднейшае прадпрыемства, дзецішча першай пяцігодкі. Праўда, фабрыка яшчэ поўнасцю не абсталявана, але яна мае ўсе магчымасці выканаць тое заданне, якое яна мела, але іменна дрэнная арганізацыя працы, дрэнная расстаноўка людзей, няўменне працаваць па-новаму зрывае выкананне промфінплана.

Вось што пішуць самі рабочыя фабрыкі «КІМ» аб сваёй рабоце:

«Мы працуем няпоўных сем гадзін, у лепшым выпадку мы працы аддаем 5 гадзін, астатні-ж час ідзе на прыватныя гутаркі, бязмэтныя простоі. Калі-б фабрыка працавала поўнасцю 420 мінут у змену, ні аб якім адставанні не магло-б быць і гутаркі.

Дрэнная працоўная дысцыпліна і разгільдзяйства параджаюць аграмаднейшы брак.

Прычыны такога агіднага стану фабрыкі тлумачацца перш за ўсё тым, што тут да гэтага часу няма разгорнутай барацьбы з лодырамі і прагульшчыкамі. У паасобных выпадках нагляданоцца нават прымірэнцкія адносіны да іх. Адміністрацыя дрэнна змагаецца за соцыялістычную арганізацыю вытворчасці, дрэнна

ў нас пастаўлена кіраўніцтва соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам. Вопыт перадавых прадпрыемстваў зусім не скарыстоўваецца.

Абязлічка да гэтага часу на фабрыцы не зжыта. Абязлічаны не толькі людзі, але і інструменты. Гэтыя «дробязі» балюча б'юць па вытворчасці».

Гэта характарыстыка прымяніма, бадай, да многіх нашых прадпрыемстваў, не выканаўшых промфінплан.

Няўменне арганізаваць працу і замацаваць рабочую сілу—адсюль вялікая цякучасць.

Дрэнна пастаўлена ў нас барацьба за аўладанне тэхнікай і ўшчыльненне рабочага дня. Адсутнічае аператыўнае і канкрэтнае кіраўніцтва з боку наркаматаў і гаспадарчых аб'яднанняў.

Слабая барацьба раду партыйных і профсаюзных арганізацый за промфінплан, нездавальняючае яшчэ з іх боку кіраўніцтва вытворчасцю.

Вось, па сутнасці справы, прычыны, зрываючыя работу многіх нашых прадпрыемстваў.

За апошні час мы прарабілі вялікую работу з пункту погляду расстаноўкі людзей па лініі прамысловасці: стварылі спецыяльную камісію ЦК па перагляду кіруючых гаспадарчых і тэхнічных работнікаў прадпрыемстваў. Чыстка партыі паказала, што барацьба за промфінплан упіраецца, перш за ўсё, у людзей, у сістэму і ў метады кіраўніцтва вытворчасцю.

Мы за першую пяцігодку стварылі цэлы рад буйнейшых прадпрыемстваў у БССР. І якраз гэтыя прадпрыемствы—дзецішча першай пяцігодкі, працуюць яшчэ кепска. Чым гэта тлумачыцца? Гэта тлумачыцца, галоўным чынам, тым, што нашы кіраўнікі наркаматаў, гаспадарчых аб'яднанняў больш «працуюць» у габінетах, займаюцца пісанінай паперак, чым бываюць на прадпрыемствах, у цэхах.

Вазьміце Грысевіча, былога члена Бюро ЦК і наркома лёгкай прамысловасці.

Грысевіч член партыі з 1918 г., прайшоўшы школу партыйнай работы, быў сакратаром акругкома, потым старшынёй ВСНГБел., потым наркомам лёгкай прамысловасці. Калі Грысевіч быў вылучан наркомам Легпрома, то ён лічыў, што яму там нязручна працаваць, бо маштаб работы для яго значна меншы, чым у ВСНГ.

А вось што выявіла чыстка. Грысевіч на працягу амаль года па заяве членаў ячэйкі Наркамлегпрома і бліжэйшых яго супрацоўнікаў не працаваў у наркамаце. Наркамат наведваў адзін раз у тыдзень. Нельга сказаць, каб Грысевіч не разбіраўся ў пытаннях прамысловасці, але пачаў ігнараваць пастановы партыі аб рабоце прамысловасці, перастаў цікавіцца тым, што робіцца на прадпрыемствах, падначаленых яму, як наркому, непасрэдна.

І зусім правільна камісія па чыстцы запісала Грысевічу, што такія адносіны да работы не варты комуніста. Па сутнасці справы мы з боку т. Грысевіча мелі сабатаж і ігнараванне дырэктыў партыі, дырэктыў ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце лёгкай прамысловасці.

Гэта ні ў якой меры не апраўдвае ні работу намеснікаў Грысевіча, ні адпаведных кіраўнікоў гаспадарчых аб'яднанняў. Калі людзі лічаць сябе большэвікамі, калі партыя даручыла ім вялікую справу, яны абавязаны былі паставіць пытанне аб рабоце Грысевіча на вялікую прынцыповую вышыню. Яны гэтага не зрабілі. Гэта сведчыць аб дрэннай

рабоце ў сістэме Наркамлегпрома, аб адсутнасці большэвіцкай адказнасці за работу, за даручаную справу.

Калі ўзяць работу Упоўнаркамцяжпрома, то праўда, тут мы маем некалькі лепшыя рэзультаты. Але ўсё-ж і работу Ўпоўнаркамцяжпрома нельга лічыць здавальняючай. Больш таго, з пункту погляду абслугоўвання той прамысловасці, якая ўваходзіць у сістэму НКЦяжпрома, мы маем бясспрэчны прарыў. Возьмем к прыкладу завод імя Варашылава, або Гомельскі завод «Пролетарый». Дагэтуль гэтыя заводы не маюць свайго вытворчага твару, няма спецыялізацыі гэтых заводаў, невядома, што яны павінны выпускаць. Сёння яны выпускаюць такарныя варштаты, заўтра—свідравальныя, або абсталяванне для дарожнага будаўніцтва. Калі на заводзе імя Варашылава пабываў тав. Калінін, ён прама ім указаў, што так, як працуюць зараз варашылаўцы, працавалі 20 год таму назад. Абсталяванне старое. Гэта не віна варашылаўцаў. Відаць, трэба правесці яшчэ большую рэканструкцыю на заводзе, спецыялізаваць яго на пэўным відзе вытворчасці, няхай ён выробляе неабходнае абсталяванне для нашага комунальнага будаўніцтва. Ва ўсякім выпадку НКЦяжпром павінен сур'ёзна заняцца пытаннем спецыялізацыі нашых прадпрыемстваў.

За мінулы год быў у нас пушчан агрымадны гігант—Гомельскі шклозавод, які атрымаў права называцца імем тав. Сталіна. Гомельскі шклозавод з пункту погляду тэхнічнага абсталявання, з пункту погляду выпуску прадукцыі (выпрацоўка высокаякаснага бемскага шкла) займае адно з першых месц у Совецкім саюзе. Завод абсталёван совецкімі машынамі. І задача рабочага калектыва, партарганізацыі завода—дабіцца ўжо ў гэтым 1934 г. поўнага асваення вытворчай магутнасці завода.

Мяркуючы па выніках работы нашых буйных прадпрыемстваў, трэба прама сказаць, што мы недастаткова рэалізуем тыя дырэктывы, якія былі даны тав. Сталіным на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б).

Тав. Сталін на студзеньскім пленуме ЦК з усёй сілай падкрэсліў неабходнасць сканцэнтравання ўвагі ўсёй партыі, усяго рабочага класа на пытаннях асваення і аўладання тэхнікай, неабходнасць сур'ёзнага павышэння прадукцыйнасці працы і сур'ёзнага скарачэння сабекошту.

> «У гэтым цяпер галоўнае, бо толькі на гэтай базе мы можам дабіцца, скажам, у другой палове другой пяцігодкі новага магутнага разбегу як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне выпуску прамысловай прадукцыі».

Нашы прадпрыемствы як па лініі росту прадукцыйнасці працы, так і па лініі зніжэння сабекошту, палепшання якасці прадукцыі маюць вялікія прарывы. А магчымасці па зніжэнню сабекошту і палепшанню якасці прадукцыі ў нас былі вялікія. Даволі сказаць, што калі рад нашых прадпрыемстваў, у тым ліку заводы «Большэвік», імя Варашылава, «Комунар», завод імя Ланцуцкага і інш., у час чысткі налеглі як трэба на арганізацыю працы, на павышэнне авангарднай ролі комуністаў, на правільную расстаноўку людзей,—яны дабіліся прыкметных поспехаў у палепшанні якасці прадукцыі і ў зніжэнні сабекошту.

Значна тармозіць работу нашай прамысловасці (Віцебска, Магілева, Оршы) дрэнная работа Белдрэс, якая сістэматычна, з года ў год, нас падводзіць. Гэта ў значнай меры наша віна. Мы на Белдрэсе своечасова не пасадзілі моцнага работніка, ведаючага справу, умеючага

арганізаваць работу. У нас некаторыя лічаць, што быць наркомам, або нам. наркома, або членам калегіі, гэта значна большая справа, чым непасрэдна кіраваць буйнай раённай электрастанцыяй. Гэта тыпова чыноўніцкая ўстаноўка.

Праўда, за апошні час пры дапамозе саюзных органаў мы паслалі на Белдрэс моцнага работніка, ведаючага справу. Паглядзім, што выйдзе. Але, ва ўсякім выпадку, трэба ў далейшым, асабліва пасля перабудовы нашай работы ў адпаведнасці з дырэктывамі XVII з'езда партыі, намечанымі ў тэзісах тав. Кагановіча, узняць адказнасць кожнага работніка за даручаную яму работу.

Торф з'яўляецца асновай асноў з пункту погляду забяспечання работы нашай прамысловасці. Між тым, з года ў год мы маем недавыкананне плана торфаздабычы. У 1933 г. план торфаздабычы выканан на 56,6 проц. Праўда, тут спасылаюцца на дрэннае надвор'е, на дажджы, якія былі ў мінулым летнім сезоне. Можа быць, у вытворчасці фрэзернага торфу дажджлівае надвор'е ў пэўнай меры мела ўплыў на невыкананне праграмы, бо самы працэс вытворчасці фрэзернага торфу залежыць ад стану надвор'я. Але што датычыць машынафармовачнага торфу, то невыкананне плана, галоўным чынам, тлумачыцца дрэннай работай, дрэннай арганізацыяй працы, тым разгільдзяйствам і той расхлябанасцю, якія маюць месца на нашых торфзаводах.

Мы па лініі торфапрамысловасці павінны прарабіць велізарнейшую работу. Удзельная вага торфу ў паліўным балансе БССР з года ў год узрастае. Калі ў 1932 г. ён займаў 25 проц., то ўжо ў 1933 г. займае 35 проц.

Я не буду закранаць работу і даныя другіх галін прамысловасці БССР. Але неабходна падкрэсліць тут, што пасля ўказання тав. Сталіна наконт павелічэння вытворчасці тавараў шырокага спажывання ў дватры разы, пасля ўжо апублікаваных тэзісаў к XVII з'езду партыі, мы павінны сур'ёзна налегчы на павелічэнне і палепшанне якасці прадукцыі лёгкай прамысловасці.

Прамысловасць Беларусі—гэта галоўным чынам лёгкая прамысловасць, выпрацоўваючая тавары шырокага спажывання. Мы павінны з самага пачатку 1934 г. забяспечыць поўнае выкананне вытворчай праграмы гэтага года. Мы павінны ператварыць усе нашы прадпрыемствы ва ўзорныя прадпрыемствы, наша лёгкая прамысловасць—швейная, трыкатажная, скурана-абутковая—мае ўсе даныя для таго, каб дабіцца па якасці аднаго з першых месц у Саюзе.

Лозунг тав. Сталіна—даць тавараў шырокага спажывання ў дватры разы больш, павінен быць намі ва што-б там ні стала выканан.

Лясная прамысловасць займае вельмі вялікае месца ва ўсёй народнай гаспадарцы Беларусі. У 1933 г. лясная прамысловасць працавала дрэнна, значна горш, чым у 1932 годзе. Контррэвалюцыйныя шкодніцкія элементы, карыстаючыся аслабленнем пільнасці з боку паасобных нашых комуністаў, звілі сабе даволі моцнае гняздо ў паасобных звеннях лясной прамысловасці. Мы нядаўна ліквідавалі там контррэвалюцыйныя арганізацыі.

На чале лясной прамысловасці стаіць у нас безумоўна моцны работнік тав. Розін. Але тав. Розіну трэба карэнным чынам перабудаваць сваю работу. Выкрыццё раду контррэвалюцыйных спраў у лясной прамысловасці паказвае, што комуністы, працуючыя на гэтым участку, многае прамаргалі, пільнасць іх была ўсыплена. Яны не здолелі своечасова выкрыць дзеянні і махінацыі класавага ворага.

Тав. Розін павінен зрабіць адсюль адпаведныя вывады, гэта тым больш неабходна, што да тав. Розіна на гэтым участку доўгі час працавалі апартуністычныя элементы накшталт Міленькага, якія зрывалі работу.

Агульнае становішча нашай прамысловасці і прарывы на цэлым радзе ўчасткаў ставяць перад усёй КП(б)Б сур'ёзнейшую задачу, каб ужо ў першым квартале 1934 года **дабіцца карэннага пералому ў нашай рабоце ў бок безумоўнага стопроцантнага выканання тых заданняў, якія мы маем па прамысловасці.**

Цэнтральнымі задачамі ў рабоце прамысловасці павінны быць:

1. Поўнае асваенне тэхнікі вытворчасці, у асаблівасці буйных прадпрыемстваў, пабудаваных за першую пяцігодку.

2. Безумоўнае поўнае выкананне праграмы лёгкай прамысловасцю, як прамысловасцю, непасрэдна ажыццяўляючай указанне партыі і тав. Сталіна аб тым, каб рабочым і калгаснікам даць у два-тры разы больш тавараў шырокага спажывання. Асабліва вялікае значэнне ў гэтых адносінах набывае работа сампромкааперацыі і мясцовай прамысловасці, якая да рэчы працуе вельмі дрэнна.

3. Ні ў якой меры не могуць быць дапушчаны разважанні аб аслабленні работы лясной прамысловасці, тым больш, што лясная прамысловасць мае велізарнае значэнне з пункту погляду выканання нашага экспартнага плана.

4. Па лініі Наркамснаба галоўнейшым звяном работы на бліжэйшы адрэзак часу павінна быць палепшанне работы харчовай прамысловасці, аб рабоце якой ёсць прамыя зусім дакладныя ўказанні ЦК ВКП(б) і саюзных органаў.

5. Адставанне, якое з года ў год прадаўжаецца на ўчастку энергаснабжэння і забяспечання насельніцтва палівам, павінна быць канчаткова ліквідавана ў 1934 г. Нельга далей цярпець такога становішча, калі Беларусь, маючы ўсе магчымасці забяспечыць сябе палівам, з года ў год, з квартала ў квартал зрывае планы работы прамысловасці і снабжэнне рабочых палівам з-за дрэннай арганізацыі справы паліва, з-за няўмення ці нежадання раду комуністаў, непасрэдна адказваючых за гэтую справу, выканаць свае абавязацельствы перад дзяржавай.

Мы маем ўсе падставы для таго, каб ва ўсіх галінах нашай работы па лініі прамысловасці, паліва і т. д. зрабіць 1934 год годам агромадных сур'ёзных поспехаў КП(б)Б. За гэта гаворыць таксама работа раду буйнейшых перадавых прадпрыемстваў, якія датэрмінова выканалі свае вытворчыя планы.

## Аб рабоце транспарта

Рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб карэннай перабудове работы на транспарце паставіла перад намі рад буйнейшых задач, патрабуючых мабілізацыі ўвагі ўсёй партыйнай і совецкай грамадскасці да работы транспарта.

Стварэнне па ініцыятыве т. Сталіна палітаддзелаў, перабудова сістэмы заработнай платы, увядзенне цвёрдага дысцыплінарнага статута, чыстка партыйных радоў на транспарце, рашучая барацьба з расхлябанасцю, з разгільдзяйствам—усё гэта сказалася на аздараўленні ўсёй сістэмы работы транспарта. Мы маем прыметнае палепшанне і ў рабоце нашых раённых чыгуначных арганізацый, як па МББ, так і на Зах. чыгунцы: зменшыліся выпадкі псавання паравозаў у дарозе, знізіўся процант хворых паравозаў, палепшыўся рамонт вагонаў.

Паасобныя прадпрыемствы (у прыватнасці завод імя Варашылава) у парадку шэфства аказваюць вялікую дапамогу транспарту ў наладжванні работы.

Але ўсё-ж на транспарце мы маем яшчэ шмат недахопаў. Рост народнай гаспадаркі ў БССР і наша прыгранічнае становішча прад'яўляюць вялікія патрабаванні транспарту. Таму рабоце чыгуначнага транспарта, рабоце палітаддзелаў раёнаў і дарог трэба аддаваць значна больш увагі, трэба зрабіць транспарт аб'ектам увагі кожнай нашай арганізацыі як цэнтра, так і раёна.

Аб нашых шасейных дарогах. Тут безумоўна праароблена вялікая работа нашымі работнікамі і раённымі арганізацыямі па дарожнаму будаўніцтву.

Вузкім месцам з'яўляецца ў нас пракладка дарог мясцовага значэння. Трэба прама сказаць, што райкомы, райвыканкомы мала займаюцца гэтай справай, а нашы плануючыя арганізацыі—Дзяржплан і інш.—недастаткова рашуча рэагуюць на гэтыя агіднасці.

## Кааперацыя, дзяржгандаль і таваразварот

Адным з важнейшых пытанняў, стаячых перад намі, з'яўляецца пытанне аб таваразвароце, аб палепшанні работы кааперацыі. Вы ведаеце, што мы ўсё больш і больш пераходзім на разгортванне совецкага дзяржаўнага гандлю. Партыя, совецкая ўлада ўсё больш і больш даюць магчымасць калгасніку лішкі сваёй прадукцыі вывозіць на рынак. Тав. Сталін з усёй вострасцю падкрэсліваў дзве карэнныя задачы—задачу расшырэння таваразвароту і задачу палепшання работы транспарта.

Таму пытанне аб совецка-кааперацыйным гандлі, пытанне аб прасоўванні тавараў у вёску з'яўляецца для нас адным з істотнейшых пытанняў у нашай рабоце. Яно з'яўляецца важнейшым звяном у палепшанні матар'яльна-бытавога і культурнага становішча рабочага класа.

Пры не дрэнным параўнальна выкананні плана па агульнаму таваразвароту мы маем пакуль што дрэнную работу нашай спажыўкааперацыі, і не толькі ў гарадах, але, галоўным чынам, на вёсцы.

Тыя даныя, якія я ў прыватнасці маю, паказваюць, што мы і па асартыменту і з пункту погляду своечасовасці завозу тавараў, правільнага снабжэння таварамі вёскі на месцах з рук вон дрэнна працуем. Гэта галоўным чынам адбываецца таму, што ў галіне прамысловасці мы маем дрэнны падбор, дрэнную работу людзей.

Ужо першыя вынікі калгаснага гандлю 1933 г. паказалі, што калгасны гандаль з'яўляецца сур'ёзнейшай зброяй у руках нашай партыі. Мы мелі значнае зніжэнне цэн на сельскагаспадарчыя прадукты ва ўсіх гарадах БССР.

Гэта гаворыць аб тым, наколькі мы можам праз разгортванне калгаснага гандлю палепшыць справу снабжэння рабочых. Наогул трэба адзначыць, што як у калгасным гандлі, так асабліва ў дэцэнтралізаваных загатоўках у нас няма належнага большэвіцкага парадку. У радзе выпадкаў дэцзагатоўкі вядуцца безадказна, дагавары не выконваюцца.

Мы маем не мала фактаў парушэння канвенцыйных цэн, нярэдка практыкуюцца загатоўкі налётам. Наглядаюцца і месніцкія тэндэнцыі ў ходзе дэцэнтралізаваных загатовак. Ёсць людзі, якія не разумеюць або не хочуць зразумець усёй важнасці палепшання рабочага снабжэння шляхам арганізацыі самазагатовак, і замест дапамогі ў разгортванні дэцзагатовак часта процідзейнічаюць ім.

Дэцзагатоўкі, як не раз указваў ЦК партыі, з'яўляюцца важнейшым рэсурсам у справе палепшання рабочага снабжэння, і таму мы павінны гэтаму пытанню аддаваць значна больш увагі і дапамогі, мы павінны ўстанавіць дакладны кантроль за ходам дэцзагатовак.

### Работа сампромкааперацыі

Мы дагэтуль недаацэньваем таго аграмаднага значэння, якое набывае ў нас сампромкааперацыя, асабліва па выпрацоўцы тавараў шырспажыву.

Удзельная вага промкааперацыі ў вытворчасці тавараў шырокага спажывання на 1932 г. складала 23 проц., на 1933 г.—24,9 проц., у 1934 г. будзе складаць 28,2 проц., а ў 1937 г.—амаль 30 проц. Мы маем 27 600 членаў кааператываных пайшчыкаў, аб'яднаных у прамысловых арцелях. А ўсіх саматужнікаў па БССР налічваецца звыш 50 тыс. чал. Па нашых намётках, прамысловасць БССР павінна выпускаць у 1937 г. тавараў шырспажыву на 890 млн. руб., у тым ліку сампромкааперацыя павінна выпускаць тавараў шырспажыву на 390 млн. руб., амаль 45 проц. агульнага плана. Між тым сампромкааперацыя працуе з рук вон дрэнна. Гадавы план на прадпрыемствах сампромкааперацыі выканан толькі на 61 проц.

Чыстка партыйных арганізацый у сампромкааперацыі паказала, што мы маем там вялікую засмечанасць, чыстка ўскрыла элементы сямейственасці—самай сапраўднай саматужнай сямейственасці, групаўшчыны, самых сапраўдных дробна-буржуазных саматужных адносін. Нашы комуністычныя кадры, працуючыя ў сампромкааперацыі на чале з тав. Брыскіным, не аказаліся на вышыні становішча. Праўда, за апошні месяц-два мы падкінулі некалькі комуністаў у сістэму сапромкааперацыі. Але таго, што мы зрабілі ў гэтых адносінах, безумоўн яшчэ мала. Нам трэба пытаннямі сампромкааперацыі заняцца больш грунтоўна і дабіцца, каб сампромкааперацыя дала не на 390 млн. руб. тавараў шырспажыву, а больш. А магчымасці для гэтага ў нас ёсць.

### Аб матар'яльным, культурна-бытавым абслугоўванні рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных

За справаздачны час мы дабіліся вялікіх поспехаў у палепшанні матар'яльнага становішча рабочых і калгаснікаў. Сярэдняя зарплата нашага рабочага павялічылася з 83 р. 37 кап. у 1931 г. да 103 р. у 1933 г. Значна павялічыліся выдаткі па соцстраху і соцыяльна-бытавому абслугоўванню рабочых.

Мы завастрылі вельмі сур'ёзную ўвагу ўсёй партыйнай арганізацыі, пачынаючы з 1932 г., на пытаннях матар'яльнага і культурна-бытавога абслугоўвання рабочага класа. Мы моцна ставілі гэтае пытанне і не мала людзей пабілі ў Беларусі за тое, што яны дрэнна займаюцца пытаннямі жыцця, быту рабочага класа, так званымі «дробязямі» жыцця як на вытворчасці, так і ў быту. Мы не раз падкрэслівалі, што ў нас ёсць вялікія магчымасці палепшыць харчаванне рабочага класа. Трэба прама сказаць, што ў 1933 г. у параўнанні з 1932 г. мы маем вялікія поспехі ў гэтых адносінах. Мне асабіста прыходзілася бываць на радзе прадпрыемстваў, у прыватнасці перад з'ездам партыі—у Барысаве. Таго, што я цяпер бачыў, не было ў 1932 г. Значна лепш стала. Але ўсё-ж неабходнага пералому да бытавых пытанняў рабочага мы яшчэ не стварылі. Дрэнна яшчэ пастаўлена грамадскае харчаванне, у сталоўках брудна, няўтульна. На працягу месяца ў на-

шых сталоўках скрозь і ўсюды даюць на першае—борш (буракі і бульба) і на другое—кашу пшонную, без усякіх змен. Беларуская рэспубліка—бульбяная, вядома, не ў крыўдным сэнсе слова. Бульба—наогул вялікая справа. Бульбу-ж не толькі ядуць, з яе вырабляюць крухмал, віно і т. д. Мы маем вялікія дасягненні ў галіне загатоўкі бульбы. І тым не менш у радзе прадпрыемстваў, асабліва ў студэнцкіх сталоўках, ёсць факты, калі бульбы няма.

Як можна так працаваць, каб у рэспубліцы, адкуль мы вывозім мільёны пудоў бульбы, астаўляем у сябе таксама мільёны пудоў, можна было дапусціць такое становішча, калі ў сталоўках не хапае гэтага прадукта? Тлумачыцца гэта тым, што мы пытаннямі харчавання рабочага класа займаемся зусім недастаткова. Час пакласці гэтаму канец. 1934 год павінен быць годам павышэння адказнасці, аж да судовай, дырэктароў прадпрыемстваў, партыйных камітэтаў, асабліва профарганізацый за становішча работы сталовых, каапераціі. Калі на якім-небудзь прадпрыемстве мы будзем бачыць такое становішча, што на працягу месяца-паўтара рабочых кормяць адной і той-жа пшоннай кашай, будзем судзіць дырэктароў, профработнікаў за безадказныя адносіны да сваёй работы. У нас ёсць магчымасці палепшыць справу грамадскага харчавання. Мы не можам так працаваць, як працавалі ў гэтым годзе ў Менску ў галіне снабжэння рабочых дрывамі. Трэба прама сказаць, не саромячыся, што мы тут прахлопалі.

Дазвольце, тав. Кудзелька і менскія работнікі, выцягнуць гэтае пытанне на з'езд. Няхай людзі ведаюць.

Мы ў Менску на зіму не забяспечылі рабочых дрывамі амаль на 80 проц. Мы маем прадпрыемствы, дзе ў тры разы больш перапальваюць дровы, чым вызначана планам. У гэты-ж час не забяспечылі дрывамі рабочых, не далі дровы такім установам, як больніцы, дзіцячыя ўстановы.

Трэба прама сказаць, што мы ў гэтай галіне працуем яшчэ дрэнна. Калі мы гаворым аб інтарэсах рабочага класа, аб яго абслугоўванні, то ў першым годзе 2-й пяцігодкі дапусціць такое становішча як незабяспечанне рабочых апалам—проста злачынства. Гэта злачынства нецярпіма ні ў якой меры. Як мог маўчаць Менскі гарком партыі, на чале якога і я быў, як мог маўчаць ЦК КП(б)Б, Соўнарком Беларусі, я ўжо не гавару аб Горсовеце? Як можна было цярпець такое становішча, калі ў нас тут, у Менску—у цэнтры рэспублікі—рабочыя на зіму не атрымлівалі дроў? Дзе-ж былі профарганізацыі, дзе былі гэтыя прафсаюзнікі, якія бачылі, што дроў няма і не ўзнялі належнай трывогі, не завастрылі гэтага пытання? Забяспечанне-ж рабочых дрывамі—кроўная справа профсаюзаў. Клапаціцца аб інтарэсах рабочага—гэта справа выключнага гонару.

Мы-ж не можам сказаць, што ў нас у профсаюзах, у гаркомах сядзяць дрэнныя работнікі. Не, работнікі там нядрэнныя, людзі, маючыя вопыт, веды і жадаючыя працаваць. У чым-жа справа? Справа заключаецца ў тым, што людзі гэтыя не прывыклі поўным голасам гаварыць і змагацца за даручаную ім справу. У нас не прывыклі змагацца за справу так, каб давесці яе да канца, не зважаючы на асобы.

Гаворачы аб палепшанні матар'яльнага становішча, нельга не закрануць і нашай комунальнай гаспадаркі, асабліва жыллёвага будаўніцтва.

У галіне жыллёвага будаўніцтва мы ў гэтым годзе маем лепшыя ўмовы, чым у мінулым 1933 г. Скончылі пабудову Дома ўрада. У рэзультаце мы можам палепшыць умовы рабочых Менска. Але супа-

койвацца на гэтым нельга, нельга яшчэ таму, што нашы наркаматы дапускаюць на другі год другой пяцігодкі, г. зн. у 1934 г., такое раздуханне штатаў як ніколі, і гэтым самым яны скарачаюць тую жылую плошчу, якую мы павінны даць рабочым. У нас ёсць такія наркаматы, якія пры пераходзе са старога памяшкання ў другое ўмудраюцца расплацзіць цэлы рад новых дапаможных арганізацый у старых дамах, як прыкладна «Комсомольская правда» піша: «О рождаемости в Москве», а іменна ў шэсць з паловаю мінут нараджаецца адно дзіця, але ў нас «перашчыгалялі» нават Маскву. У нас цэлую арганізацыю нараджаюць за некалькі мінут—на гэта здольны толькі наркаматы БССР **(смех).**

Я павінен сказаць, што ў гэтых адносінах нам трэба будзе шмат папрацаваць, каб сапраўды палепшыць жыллёвае становішча рабочых. Яшчэ трэба вельмі многа ўвагі аддаць комунальнай гаспадарцы. Яна яшчэ знаходзіцца ў нас у нездавальняючым становішчы. Дабрабыт нашых гарадоў, жыллёвае будаўніцтва адстае ў нас ад росту прамысловасці. Нам трэба, апрача павелічэння асігнаванняў на комунальнае і жыллёвае будаўніцтва, шырэй уцягнуць у гэтую справу рабочую самадзейнасць на барацьбу за добрабыт нашых гарадоў, за чыстату ў рабочым жыллі.

## Аб комсамоле

Комсамол з'яўляецца самым бліжэйшым памочнікам нашай партыі. Комсамол праводзіць вялікую работу ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Мы ў рабоце нашага комсамола ў мінулым мелі рад адмоўных момантаў. У кіраўніцтве ЦК ЛКСМБ у пачатку 1932 г. была ў наяўнасці самая сапраўдная групаўшчына, беспрынцыпнасць, склокі, месніцтва, якія ахапілі шырокі актыў комсамола і дайшлі да нізавых комсамольскіх арганізацый. Комсамол пасля таго, як ён пачаў праводзіць праверку і перарэгістрацыю, выявіў, што ў яго не хапае ні больш ні менш як 65 тыс. комсамольцаў. На паперы лічыцца 180 тыс., на справе аказалася толькі 115 тыс.

Як гэта здарылася, што ў нас прапала 65 тыс. комсамольцаў— цэлая армія маладых людзей? Здарылася гэта таму, што наш комсамол не займаўся выхаваннем комсамольцаў і беспартыйнай рабочай і калгаснай моладзі ў соцыялістычным духу вакол нашай партыі. Не выхоўваў іх у духу падрыхтоўкі будучых стойкіх і адданых партыі чырвонаармейцаў, камандзіраў і палітработнікаў, г. зн. у духу абароны соцыялістычнай краіны; не выхоўваў іх у тым духу, каб на адпаведных участках нашай практычнай соцыялістычнай работы ўключацца ў справу будаўніцтва пад кіраўніцтвам партыі. Замест гэтага кіруючыя работнікі комсамола займаліся групаўшчынай, склокай, разважаннямі аб тым, хто «першы», хто «другі» і каго «падтрымае» Віцебск, каму Віцебская комсамольская арганізацыя адпусціць больш апладысментаў, каго «падтрымлівае» Менскі комсамол, ці падтрымлівае ЦК ЛКСМБ, ці не.

Гэтыя нездаровыя настроі, якія былі пашыраны ў комсамоле БССР, тармазілі яго рост, тармазілі яго агульную работу. Зразумелая справа, што нам прышлося ўмяшацца ў становішча справы ў комсамоле і пакласці канец беспрынцыпнай склоцы і групаўшчыне. У гэтых адносінах сур'ёзную дапамогу аказаў нам ЦК ВЛКСМ, які прыслаў сваіх інструктароў, выявіў становішча ў комсамоле, заслухаў яго даклады і прыняў рад канкрэтных мерапрыемстваў.

Сур'ёзнае ўмяшанне і дапамогу аказаў нам і ЦК ВКП(б), заслухаўшы вынікі работы комсамола Беларусі па ліквідацыі астаткаў групаўшчыны і сямейственасці.

У рэзультаце значнай работы, праробленай па ўмацаванню работы комсамола, наша комсамольская арганізацыя на сёння з'яўляецца не дрэннай арганізацыяй у складзе ВЛКСМ.

Мы нашу комсамольскую арганізацыю правяралі на цэлым радзе ўчасткаў практычнай работы на соцыялістычнай будоўлі, і яна паказала сябе не дрэнна. Мы маем цэлы рад вядучых прадпрыемстваў прамысловасці ў Беларусі, дзе комсамольскія маладзёжныя брыгады сістэматычна з квартала ў квартал, з месяца ў месяц перавыконваюць свае вытворчыя планы; ЦК ЛКСМБ і гарадскія і раённыя арганізацыі КСМ у Беларусі актыўна, канкрэтна і практычна ўключаюцца ў справу барацьбы за сяўбу, за загатоўкі, за каня, за трактар і т. д. Комсамольская арганізацыя Беларусі пачынае станавіцца такой, якой яна павінна па сутнасці справы быць па свайму характару, г. зн. актыўнай, баявой маладзёжнай комуністычнай арганізацыяй.

У комсамоле ёсць яшчэ цэлы рад недахопаў. Першы і галоўнейшы недахоп—**гэта дрэннае кіраўніцтва піонерскім рухам.** З рук вон дрэнна пастаўлена гэта работа. Кіраўніцтва комсамола піонерскім рухам прыкладна такое, як кіраўніцтва раённых партыйных арганізацый комсамолам **(смех).** Факты паказваюць, што нашы партыйныя арганізацыі дрэнна кіруюць, дрэнна займаюцца комсамольскімі пытаннямі. Больш таго, яны кіраўніцтва комсамолам разумеюць вельмі своеасабліва, разумеюць так, што гэта ёсць свайго роду адзінаначалле—загадаў, калі ласка, выконвай. Няма ў нас яшчэ такога становішча, каб нашы арганізацыі сістэматычна, штодзенна займаліся жыццём комсамольскіх арганізацый, жыццём той моладзі, якая выкоўвае новыя большэвіцкія кадры.

І комсамольскія арганізацыі ў сваю чаргу дрэнна займаюцца пытаннямі кіраўніцтва піонерскім рухам. Піонеррух вырас, умацаваўся і стаў сапраўды неадлучнай часткай нашай соцыялістычнай работы. Яму трэба аказаць максімум дапамогі, увагі. Трэба мець на ўвазе, што на паасобных участках культурнага фронта, асабліва ў школах, мы мелі нацыяналістычныя, антысеміцкія, класава-варожыя вылазкі. Гэта гаворыць аб выключна слабай рабоце комсамола, аб слабым кіраўніцтве піонерскім рухам.

## Аб советах

За справаздачны перыяд была праведзена вялікая работа на ачыстцы совецкага апарата, у асаблівасці сельскіх советаў, ад антысовецкіх, класава-варожых элементаў. У час чысткі партыі адных старшынь сельсоветаў—членаў партыі—было выключана больш 200 чалавек. Гэта паказвае, наколькі гэта нізавое звяно совецкай улады было запушчана і знаходзілася ў дрэнным стане.

Сельсоветы адыгрываюць у нас выключна важную ролю ў правядзенні сяўбы, сельгасзагатовак і т. д. Сельсовет—гэта орган дыктатуры пролетарыята. У ходзе загатовак, у ходзе сяўбы мы часта бачылі, што цэлы рад членаў сельсоветаў, аж да старшынь, не выконваюць сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай. Адсюль і ўвесь сельсовет адстае ў выкананні сваіх абавязацельстваў.

Мы павінны дабіцца, каб сельсоветы сапраўды з'яўляліся баявымі органамі пролетарскай дыктатуры на вёсцы. Сельсоветам аддаецца

зараз вялікая ўвага ў сэнсе палепшання матар'яльнага становішча старшынь і іншых работнікаў сельсоветаў.

Да гэтага часу мы яшчэ вялікага зруху ў рабоце сельсоветаў не маем. Даныя аб складзе і рабоце советаў, якія ёсць у нас, гавораць аб тым, што ачыстка сельсоветаў ад класава-чуждых элементаў, праведзеная намі ў 1932-33 г., яшчэ не поўнасцю ачысціла нашы советы ад чуждага ўплыву, асабліва ў нізавых совецкіх органах. Адсутнічае штодзеннае большэвіцкае кіраўніцтва совецкім апаратам.

Умацаванне ўсёй работы сельсоветаў, умацаванне іх ролі, умацаванне іх кадрамі, палепшанне матар'яльных умоў, праверка іх работы, прасоўванне лепшых калгаснікаў-ударнікаў і аднаасобнікаў на работу ў сельсоветах павінна забяспечыць такую работу, каб мы ў 1934 г. сапраўды мелі ў асобе сельсоветаў сапраўды моцных праваднікоў лініі партыі і волі рабочага класа сярод працоўных мас.

## Аб правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі

Тыя поспехі, з якімі мы прышлі к XV нашаму з'езду, з'яўляюцца таржаством ленінскай нацыянальнай палітыкі. Толькі на аснове цвёрдага і паслядоўнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, ліквідацыі сваёй эканамічнай і культурнай адсталасці БССР вышла ў першыя рады совецкіх соцыялістычных рэспублік.

Мы ў галіне правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, як і адзначыў ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове па справе Сцяпуры, дабіліся аграмаднейшых, найвялікшых поспехаў, якія мы фармулюем, як росквіт—перамогу нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу беларускай культуры.

Вось чаму класавы вораг і яго агентура так прабуюць сарваць правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі. Класавы вораг і яго ідэолагі—беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы, маскуючы сваю барацьбу супроць соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР фальшыва-нацыянальным флагам і шавіністычнымі лозунгамі, прабуюць на кожным кроку шкодзіць нашай рабоце.

Мы за мінулы перыяд пры дапамозе ЦК ВКП(б), пры дапамозе «Праўды» правялі вялікую работу па ўскрыццю контррэволюцыйнай работы нацыяналістычных элементаў, правялі вялікую барацьбу супроць нацыяналістычных ухілаў унутры партыі, з канкрэтнымі носьбітамі гэтых ухілаў.

Асабліва вялікую ролю ў гэтых адносінах адыграла ў нас чыстка партыі. Чыстка ўскрыла, выкрыла і разграміла не мала носьбітаў нацыяналістычных ухілаў, шавіністычных настрояў у радах партыі. Іменна засмечанасць раду звенняў КП(б)Б класава-чуждымі элементамі, неразброіўшыміся выхадцамі з дробна-буржуазных контррэволюцыйных партый (Бунд, Паалей-Цыён, Беларуская грамада) перашкаджала згуртаванню радоў КП(б)Б. У час чысткі з партыі выключан рад перарадзіўшыхся нацыяналістычных буржуазных элементаў.

Узяць хоць-бы к прыкладу такую фігуру, параўнальна буйную ў нашых умовах, як вядомы Бондар, працаваўшы памеснікам старшыні Дзяржплана, які ў сваёй практычнай рабоце праводзіў кулацкую лінію, штампаваў шкодніцкія ўстаноўкі, зрос з нацдэмаўскімі элементамі.

Або возьмем Наркомасветы, БелАН, ДВБ і рад іншых нашых навуковых устаноў. Мінулыя два гады паказалі, як класавы вораг, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным флагам, іменна стараўся

захапіць у свае рукі культурны фронт, каб адтуль весці атаку на ленінскую нацыянальную палітыку.

Мы за гэты час вельмі многа займаліся нацыянальна-культурнымі пытаннямі. Пытанне аб правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі стаяла ў нас на пленумах ЦК (справа Сцяпуры, сакавіковы аб'яднаны пленум ЦК і Менгаркома па нацыянальнаму пытанню). Нарэшце, нядаўна ў снежні мінулага 1933 г. ЦК КП(б)Б прыняў спецыяльнае вялікае, разгорнутае рашэнне па пытанню аб правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі ў нас, у Беларусі, увязаўшы гэтыя рашэнні з рашэннямі, якія былі прыняты ЦК КП(б)У. Вы ведаеце, што пленум ЦК КП(б)Б падкрэсліў, што

> «вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Савецкага саюза і ўсёй ВКП(б), але гэта ні ў якой меры не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы, беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі».

Пленум таксама падкрэсліў, што

> «неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэвалюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабою на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР для аслаблення пазіцыі СССР і ўмацавання пазіцыі капіталізма».

Мы за гэты час грунтоўна разграмілі контррэвалюцыйную беларускую нацдэмаўшчыну, выявілі рад контррэвалюцыйных нацдэмаўскіх груповак. Але гэта не дазваляе нам ні на мінуту самасупакоіцца.

Класавы вораг разгромлен, але яшчэ не дабіт. Нацыяналістычная контррэвалюцыя разгромлена, але карэнні яе яшчэ не выкарчаваны поўнасцю. Мы павінны яшчэ больш узмацніць нашу бальшэвіцкую пільнасць, нашу непрымірымасць да барацьбы з усімі ўхіламі ад ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі.

Нам трэба і ў далейшым памятаць, што правільнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі і ўмацаванне пралетарскага інтэрнацыяналізма немінуча натыкаюцца на шалёнае супраціўленне класавага ворага, немінуча суправаджаюцца супраціўленнем класавых ворагаў не толькі па-за партыяй, але і ўнутры яе.

Вынікі чысткі КП(б)Б, вынікі работы ў галіне правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў Беларусі паказалі, што іменна на гэтым участку больш чым дзе-б там ні было мы маем адчайнае супраціўленне класавага ворага, маем прамое шкодніцтва.

Барацьба з нацыяналізмам, барацьба з нацыяналістычнымі ўхіламі ў партыі складала і складае неадрыўную частку работы партыйных арганізацый у барацьбе за практычнае ажыццяўленне ўсіх работ па сацыялістычнаму будаўніцтву.

Правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі не абмяжоўваецца толькі пытаннем беларусізацыі або пытаннем падбору кадраў.

Правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі перш за ўсё азначаеператварэнне Беларусі ў індустрыяльна-аграрную краіну і ліквідацыю фактычнай няроўнасці ў эканамічных і культурных адносінах, якая нам асталася ў спадчыну ад царскага самадзяржаўя.

У гэтых адносінах мы пры дапамозе Савецкага саюза, пад непасрэдным кіраўніцтвам ленінскага ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, правялі вялікую работу. Недарма Беларусь з пункту погляду свайго гаспадарчага развіцця па тэмпах ідзе вышэй усяго Савецкага саюза.

Недарма мы ў Беларусі не можам скардзіцца на недахват сродкаў на гаспадарчае, або культурнае будаўніцтва.

І тым не менш, не гледзячы на аграмадную дапамогу, аказваемую Совецкім саюзам, і штодзеннае непасрэднае кіраўніцтва ленінскага ЦК нашай партыі, мы ўсё-ж дапусцілі цэлы рад буйнейшых памылак у практычным правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі ў нас, у Беларусі.

Барацьба за правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі складаная і цяжкая. Мы тут часта сустракаемся з супраціўленнем класавага ворага, які вельмі хітра замаскаваны, прыкрываецца фальшыва-нацыянальным флагам і не заўсёды яго лёгка разгледзець. Складачая і цяжкая работа на гэтым участку яшчэ і таму, што нацыянальнае пытанне цесна звязана з сялянскім пытаннем, з пытаннем ліквідацыі адставання сельскай гаспадаркі, якое мы мелі як спадчыну старога капіталістычнага развіцця.

Складаная і цяжкая гэта работа яшчэ і таму, што мы ў нацыянальных раёнах і рэспубліках практычна маем вельмі слабыя пролетарскія кадры, маем мы там у большасці сялянскія масы з усякімі дробна-буржуазнымі ўласніцкімі, а часам і кулацкімі настроямі. Барацьба гэта складаная яшчэ і таму, што, як правіла, партыйныя арганізацыі ў нацыянальных рэспубліках і абласцях маладыя, недастаткова загартаваныя ў большэвізме і не заўсёды разбіраюцца ў складанай абстаноўцы нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Тав. Сталін у 1923 г. на нарадзе нацыянальных работнікаў пры ЦК ВКП(б) гаварыў наступнае:

> «Трэба памятаць, што нашы комуністычныя арганізацыі ў нацрэспубліках і абласцях могуць развівацца і стаць на ногі, зрабіцца сапраўднымі марксісцкімі кадрамі толькі ў тым выпадку, калі яны пераадаляваюць нацыяналізм. Нацыялізм — асноўная ідэйная перашкода на шляху вырошчвання марксісцкіх кадраў, марксісцкага авангарда».

Гісторыя нашай партыі гаворыць, што партыя большэвікоў расла і мацавалася, змагаючыся з меншавізмам, бо меншавізм ёсць ідэалогія буржуазіі, меншавізм ёсць праваднік буржуазнай ідэалогіі ў нашай партыі і што перамагаючы меншавізм можна стаць на ногі. Владзімір Ільіч Ленін некалькі раз пісаў аб гэтым. Толькі па меры таго, як большэвізм перамагаў меншавізм у яго арганізацыйных і ідэалагічных формах, ён рос і ўмацоўваўся, як сапраўдная кіруючая партыя. Тое-ж самае трэба сказаць аб нацыяналізме ў адносінах нашых комуністычных арганізацый на акраіне. Нацыяналізм адыгрывае для гэтых арганізацый тую-ж ролю, як меншавізм адыграў у мінулым для партыі большэвікоў. Толькі праз нацыяналістычнае прыкрыццё могуць пранікнуць у нашы арганізацыі на акраінах усякія буржуазныя, у тым ліку меншавіцкія ўплывы. Нашы арганізацыі ў рэспубліках могуць стаць марксісцкімі кадрамі толькі ў тым выпадку, калі яны змогуць устаяць супроць тых нацыяналістычных веянняў, якія ідуць з боку гэтых нацыяналістычных партый у нашы комуністычныя арганізацыі.

Гэтыя гістарычныя ўказанні т. Сталіна з'яўляюцца сапраўднай праграмай для нашай работы і на сёнешні дзень. Мы павінны правесці яшчэ аграмадную работу па пераадоленню ўсякіх нацыяналістычных ухілаў, тэндэнцый, якія ёсць яшчэ ў нашай рабоце.

За апошні час у нас быў ускрыт і ліквідован рад контррэвалюцыйных арганізацый «Беларускага нацыянальнага цэнтра» з вядомымі пасламі польскага сойма—Рак-Міхайлоўскім, Мятлой, Валошыным і інш. У гэтых арганізацыях актыўна працавалі і комуністы, як загадчыкі культпропамі Слуцкага і Жлобінскага райкомаў партыі, работнікі апарата Інстытута гісторыі партыі і інш. Гэтыя агенты сусветнага імперыялізма, стаўленікі інтэрвентаў маглі працаваць у нашых установах толькі з прычыны страты рэволюцыйнай пільнасці з боку многіх нашых комуністаў. Гэта магло здарыцца ў рэзультаце таго, што цэлы рад кіруючых работнікаў не праявілі належнай рашучай барацьбы па перамаганню ў сваёй практычнай рабоце ўсякіх нацыяналістычных плыней, тэндэнцый. Тое, што ў нашых культурных арганізацыях, у Наркомасветы, у БелАН элементы нацыяналізма расцвяталі пышным цветам і іх своечасова не заўважалі і пачалі іх ліквідаваць, толькі ў рэзультаце ўмяшання ЦК ВКП(б),—гаворыць аб тым, што ў нас не было належнай большэвіцкай узброенасці ў барацьбе з тымі недахопамі, якія былі выяўлены ў практычнай рабоце многіх нашых арганізацый.

Мы правялі параўнальна вялікую работу па ачыстцы нашых арганізацый ад усякіх нацыяналістычных элементаў. Мы вышэй узнялі большэвіцкую пільнасць у барацьбе з усякімі скажэннямі ленінскай нацыянальнай палітыкі. Гэта дазваляе КП(б)Б яшчэ больш мабілізаваць свае сілы, пільнасць, яшчэ больш узмацніць сваю работу па нацыянальна-культурнаму будаўніцтву.

Мы павінны ўзмацніць нашу барацьбу за большэвіцкае правядзенне беларусізацыі. Узмацненне нашай барацьбы з контррэволюцыйным беларускім нацыяналізмам, як галоўнай небяспекай у даны перыяд у БССР, ніколі не азначае, што ў нас знята з парадку дня небяспека вялікадзяржаўнага шавінізма. Наадварот, барацьба супроць праяўленняў мясцовага беларускага нацыяналізма прадугледжвае ўзмацненне барацьбы і супроць вялікадзяржаўнага рускага шавінізма і супроць шавінізмаў яўрэйскага, польскага і іншых. Тым больш, што справа «Беларускага нацыянальнага цэнтра» і рад іншых спраў у нас, у БССР і на Украіне, паказалі, што грані паміж мясцовым нацыяналізмам і вялікадзяржаўным шавінізмам амаль не існуе ў тых контррэволюцыйных справах, якія яны праводзяць супроць совецкай улады, супроць партыі. Мы ведаем, што ў цэлым радзе выпадкаў і беларускія нацыяналісты, і яўрэйскія шавіністы і вялікадзяржаўныя рускія шавіністы і шавіністы іншых нацыянальнасцей цалкам і поўнасцю блакуюцца адзін з другім і адзіным фронтам праводзяць сваю контррэволюцыйную работу супроць совецкай улады, супроць партыі.

Мы ў ходзе чысткі партыі выкрылі астаткі бундаўскіх тэорый, ідэалізацыю Бунда, разграмілі нацыяналістычныя элементы і ахвосце раней існаваўшых дробных контррэволюцыйных партый і ў Беларусі (Бунд, Паалей-Цыён, эсэры і інш.). У нас да апошняга часу мела месца ідэалізацыя Бунда, якая знайшла свой адбітак у работах раду комуністаў (Чарняўскі, Поташ, Ошэраў і інш.).

Аднак, мы на гэтым супакоіцца не можам. Абвастрэнне класавай барацьбы ў БССР, правядзенне суцэльнай калектывізацыі выклікае поўную актыўнасць у разгромленых, але яшчэ канчаткова недабітых класавых ворагаў і іх агентуры, якія прабуюць падарваць сталёвую маналітнасць нашых радоў. Таму мы павінны ўзмацніць нашу пільнасць у барацьбе супроць усякіх адхіленняў у правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Мы можам сёння сказаць на XV з'ездзе партыі, што пільнасць у большэвікоў Беларусі ўзнялася, што большэвікі Беларусі памятаюць аграмадную дапамогу Совецкага саюза ў справе ліквідацыі фактычнай эканамічнай і культурнай няроўнасці, у справе развіцця нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу беларускай культуры, яе перамогі, яе росквіту.

КП(б)Б будзе і ў далейшым верным праваднікам ленінскай нацыянальнай палітыкі ў нас, у БССР. Мы можам з поўнай упэўненасцю сказаць, што большэвікі Беларусі, пачынаючы з самага нізавога звяна нашай партыйнай арганізацыі да ЦК КП(б)Б, памятаюць урокі барацьбы супроць контррэволюцыйнага нацыяналізма ў 1933 г. і робяць адсюль адпаведныя ўрокі для сябе. Барацьба за пролетарскі інтэрнацыяналізм ёсць аснова асноў работы кожнага комуніста, на якім-бы участку ён ні працаваў.

Сапраўдная большэвіцкая работа, рашучы разгром усякіх нацыяналістычных элементаў, сталінская непрымірымасць да класавага ворага—вось што нам зараз асабліва неабходна, вось што можа забяспечыць далейшае павышэнне мабілізаванасці, боездольнасці, вось што можа даць нам новыя перамогі ў барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм **(апладысменты).**

## Аб Чырвонай арміі

Правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў нас цесна звязана з умацаваннем абароназдольнасці краіны. БССР, знаходзячыся на стыку, з капіталістычным светам, з'яўляецца фарпостам Совецкага саюза. Уся работа контррэволюцыйных беларускіх нацыяналістаў была накіравана на адрыў БССР ад вялікага Совецкага саюза, кабператварыць Беларусь у калонію імперыялістычных дзяржаў, у плацдарм барацьбы супроць Совецкага саюза.

Абарона совецкіх граніц у Беларусі ёсць адначасова абарона граніц Совецкага саюза. Таму пытанне аб Чырвонай арміі, аб дапамозе Чырвонай арміі, пытанне аб рабоце Асоавіяхіма, Чырвонага крыжа і цэлага раду іншых арганізацый набывае асаблівае значэнне.

Ваенная небяспека ўсё больш і больш насоўваецца. Прадбачыць, калі вайна будзе, ніхто не можа, але непасрэдная небяспека вайны не зжыта.

Прыход Гітлера да ўлады і ўстанаўленне фашысцкай дыктатуры ў Германіі, узмацненне японскай ваеншчыны—усё гэта гаворыць аб тым, што мы павінны быць гатовы да ўсякіх ваенных авантур і правакацый супроць краіны Советаў. У гэтым сэнсе мы павінны яшчэ больш умацаваць абароназдольнасць нашай краіны.

Наша Чырвоная армія за гэтыя гады значна ўмацавалася. Яна з'яўляецца самай моцнай арміяй у свеце. Яна не толькі ўзброена навейшай тэхнікай, але мае танкі, самалёты ў адпаведнай колькасці. З гэтага пункту погляду наша Чырвоная армія паднялася на непамерна большую вышыню, чым яна была раней, яна становіцца ў рады самых моцных, самых узброеных армій у свеце. Але наша Чырвоная армія і палітычна вырасла. Кожны чырвоны камандзір, палітработнік і чырвонаармеец з кожным годам палітычна і культурна растуць. Правядзенне чысткі сярод чырвонаармейскіх часцей, правядзенне дывізійных і акруговай партканферэнцыі паказалі, што мы маем моцныя большэвіцкія кадры ў Чырвонай арміі. У гэтым асаблівая сіла нашай Чырвонай арміі.

У будучай вайне наша армія будзе мець супроць сябе ўзброеныя да зубоў непрыяцельскія арміі. Нам трэба не толькі, каб наша армія была тэхнічна магутна ўзброена, але нам патрэбна, каб наша Чырвоная армія ўзначальвалася камандзірамі, палітработнікамі, высока культурна развітымі, уладаючымі замежнымі мовамі, каб яны былі сапраўднымі кіраўнікамі, вартымі рабоча-сялянскай арміі. У гэтых адносінах Чырвоная армія дабілася пэўных поспехаў. Але наш абавязак—аказаць яшчэ значна больш дапамогі Чырвонай арміі.

У той-жа час мы павінны больш клапаціцца аб арганізацыі нашага тылу, рэзерга. У краіне, якая будуе соцыялізм, тыл, рэзерв Чырвонай арміі павінны быць так сама моцны і згуртаваны, так сама падрыхтаваны да абароны краіны, як уся Чырвоная армія. Таму нашы калгаснікі, рабочыя, комсамольцы, я ўжо не гавару аб членах партыі, павінны быць так падрыхтаваны і арганізаваны, каб сапраўды ў любы момант маглі стаць у рады арміі.

Гэту задачу мы павінны з гонарам выканаць, паколькі мы з'яўляемся паграпічнай рэспублікай.

Мы на нашых дывізійных і акруговай партканферэнцыі бачылі, як палітычна і культурна растуць армейскія комуністы. У той-жа час гэтыя ваенныя канферэнцыі паказалі, што ваенныя работнікі, якія непасрэдна працуюць у Беларусі, не адрываюцца ад становішча справы ў Беларусі. Гэта таксама вельмі важная акалічнасць. Нам патрэбна ў далейшым яшчэ больш мацаваць сувязь паміж ваеннымі арганізацыямі і грамадзянскімі, каб ваенныя арганізацыі ўсяляк правяралі работу грамадзянскіх арганізацый, каб яны глядзелі, як нашы грамадзянскія совецкія, партыйныя арганізацыі працуюць у справе ўмацавання Чырвонай арміі. І наадварот, мы павінны правяраць, як нашы армейскія комуністы працуюць над сабой, як яны авалодваюць тэхнікай, марксісцка-ленінскай тэорыяй, каб у надыходзячых схватках з капіталістычнымі арміямі быць сапраўды пераможцамі.

Тое, што я гаварыў адносна Чырвонай арміі, непасрэдна адносіцца к рабоце пагранічных часцей. Безумоўна, што мы за гэты час нашы граніцы ўмацавалі вельмі і вельмі моцна. Але гэта ні ў якой меры не павінна аслабіць нашу ўвагу к пагранічнікам. Задачы пагранічнікаў, як і ўсёй Чырвонай арміі, вельмі складаныя. Пагранічнік абавязан вучыцца і аўладаць тэхнікай. І тут патрэбна больш дапамогі і сувязі з пагранічнымі часцямі.

## Вынікі чысткі

Праведзеная чыстка КП(б)Б у мінулым годзе адыграла вялікую ролю ў справе далейшай большэвізацыі КП(б)Б, у справе ўзмацнення агульнай нашай работы. Чыстка, праведзеная пры актыўнейшым удзеле шырокіх працоўных мас, на аснове разгорнутай большэвіцкай самакрытыкі, высока падняла класавую пільнасць, палітычную завостранасць, большэвіцкую непрымірымасць нашых партарганізацый і кожнага комуніста ў барацьбе з ворагамі рабочага класа, з апартуністамі ўсіх масцей і пераразджэнцамі, шавіністамі, двурушнікамі, разлажыўшыміся элементамі і парушальнікамі партыйнай і совецкай дысцыпліны.

Усяго па КП(б)Б праходзілі чыстку 38 500 членаў партыі і 14 600 кандыдатаў. Выключана з партыі ячэйкавымі камісіямі 6 тысяч чалавек (15,5 проц. у адносінах да ўсіх членаў партыі), кандыдатаў выключана 3 667 (26,7 проц. да ўсіх кандыдатаў). Увогуле выключана

9 769 членаў і кандыдатаў партыі (18,4 проц.), пераведзена з членаў у кандыдаты 4 266 чал., з кандыдатаў у спачуваючыя 3 108 чалавек. Лічбы гэтыя самі за сябе гавораць, што мы прарабілі вялікую работу па ачыстцы нашых радоў ад класава-чуждых, разлажыўшыхся элементаў. Амаль 40 проц. выключаных падае ў нас на класава-чужды элемент, двурушнікаў і перараджэнцаў.

Чыстка выклікала вялікі ўздым энтузіязму сярод рабочых і працоўных БССР. У рэзультаце на радзе прадпрыемстваў узмацнілася барацьба за выкананне промфінплана, за палепшанне якасці работы.

Трэба адзначыць, што чыстка ў нас праходзіла на вялікім палітычным узроўні. Агрмаднейшую ролю ў гэтых адносінах адыграла Рэспубліканская камісія, куды ўваходзілі лепшыя большэвікі-ленінцы, чыё кіраўніцтва забяспечыла няўхільнае правядзенне пастаноў ЦК і ЦКК ВКП(б) аб чыстцы, дзякуючы чаму ўся КП(б)Б была мабілізавана на ўстараненне выяўленых недахопаў, на ачыстку сябе ад гнілых, перараджэнскіх элементаў, на неадкладнае правядзенне ў жыццё вывадаў камісіі па чыстцы ў партыйных ячэйках і раённых арганізацыях.

Але ўсё-ж аднак, як падкрэсліў ужо снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б, сканчэнне чысткі не знімае з партарганізацый і паасобных членаў партыі абавязкаў ад далейшага ачышчэння радоў КП(б)Б ад прымазаўшыхся і чуждых элементаў.

## Вышэй сцяг барацьбы за генеральную лінію партыі

Мы за мінулы перыяд правялі значную барацьбу са славеснай дэкларацыйнасцю, з гніла-ліберальнымі адносінамі да дзеянняў класавага ворага. Мы правялі вялікую барацьбу па выкрыццю трацкісцкіх, апартуністычных, шавіністычных, нацыяналістычных, бундаўскіх элементаў. Але мы ні ў якай меры не можам і не павінны супакойвацца на гэтых дасягненнях. У нас яшчэ ёсць шмат гнілі, шмат чужога ў нашай арганізацыі.

Вось ёсць у нас такі комуніст Аўчыннікаў—дырэктар Вышэйшай сельска-гаспадарчай комуністычнай школы Беларусі. Быў як быццам не дрэнным комуністам. Быў нават старшынёй Горацкай раённай камісіі па чыстцы. І трэба сказаць, што правёў там не дрэнную работу, у прыватнасці пры дапамозе работнікаў апарату ЦК выкрыў і выявіў контррэволюцыйную шкодніцкую арганізацыю ў Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце. Але вось нядаўна ў Аўчыннікава памёр бацька. Бываюць такія выпадкі. Раз бацька памірае, сын едзе яго хаваць. Тут нічога дрэннага няма. Але тав. Аўчыннікаў умудрыўся прымаць удзел у пахаванні, якое арганізавалі быццам-бы сваякі па ўсіх царкоўных старых абрадах. І даны член партыі Аўчыннікаў, адказны работнік, якому партыя давярала кіраваць калектывам комуністаў больш, чым у 1000 чал., ідзе з папом, прымаючы ўдзел у рэлігійных пахаваннях.

Я не магу зараз ставіць пытанне аб Аўчынніказе такім чынам, што ён зусім прапаўшы чалавек для партыі. Але ва ўсякім выпадку гэты факт паказвае, што Аўчыннікаў, не гледзячы на тое, што ён член партыі з 1919 г., не гледзячы на тое, што ён быў на адказнай рабоце, не гледзячы на тое, што вучыўся ў нашых большэвіцкіх навучальных установах—у Свярдлоўцы, у ІЧП, ён яшчэ поўнасцю не парваў з усімі сялянскімі перажыткамі, што ў яго ў гэтым выпадку

аказалася ідэалогія мужыка—а раптам, калі не перахрысцішся—як-бы чаго не вышла. Ва ўсякім выпадку тав. Аўчыннікаў дапусціў буйнейшую памылку, і яму трэба грунтоўна папрацаваць, каб яе выправіць і даказаць практычнай работай сваю адданасць партыі.

Гэта акалічнасць павінна быць улічана і многімі нашымі комуністамі. У нас ёсць шмат нядрэнных комуністаў, але яшчэ канчаткова не зжыўшых астаткаў сялянскай ідэалогіі, дробна-буржуазнай стыхіі, у асяроддзі якой яны раслі і развіваліся.

Таму мы павінны быць у сваёй рабоце больш пільнымі і больш уважліва глядзець за кожным членам партыі, каб своечасова яму аказваць дапамогу.

Мы праводзім аграмадную работу, мы працуем, закасаўшы рукавы на социялістычнай будоўлі. Але ў пытанні падрыхтоўкі кадраў мы ўпускаем тое галоўнае, чаму нас вучыць т. Сталін. Мы часамі так працуем, што нават людзей блізка не ведаем.

Мы абавязаны, павінны ведаць сваіх работнікаў. Сакратар раённага камітэта партыі павінен ведаць свой раённы актыў, павінен ведаць старшынь калгасаў, соўгасаў, ён павінен правяраць іх работу, дапамагаць ім у рабоце.

Мы павінны стварыць такую абстаноўку, дзе-б мы маглі людзей вывучаць, дапамагаць ім лепш у практычнай рабоце.

Мы ўступаем у новую паласу работы. ЦК ВКП(б) у тэзісах па дакладах тт. Молатава і Куйбышава «Аб другой пяцігодцы» і ў тэзісах па дакладу т. Кагановіча паставіў цэлы рад задач арганізацыйнага парадку.

На XVI з'ездзе партыі т. Сталін гаварыў:

> «Сутнасць большэвіцкага наступлення заключаецца, нарэшце, у тым, каб мабілізаваць самую партыю для арганізацыі ўсёй справы наступлення; умацаваць і адтачыць партыйныя арганізацыі, выгнаўшы адтуль элементы бюракратызма і перараджэння; ізаляваць і адцясніць выразіцеляў правага і «левага» ухілаў ад ленінскай партыі, высунуўшы на першы план сапраўдных, стойкіх ленінцаў» [1].

Трэба сказаць, што мы яшчэ недастаткова праводзім гэтыя ўказанні правадыра партыі ва ўсёй рабоце. Галоўны недахоп нашай работы заключаецца ў тым, што мы хоць навучыліся пісаць доўгія рэзалюцыі, але яшчэ не навучыліся правільна і добра, як гэтага патрабуе ад нас ЦК партыі, гэтыя рэзалюцыі арганізацыйна падмацоўваць.

> «Наўрад ці хто-небудзь будзе сцвярджаць, што даволі даць добрую палітычную лінію, і справа скончана. Не, гэта толькі поўсправы. Пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, неабходна падабраць работнікаў так, каб на пастах стаялі людзі, якія ўмеюць ажыццяўляць дырэктывы, могуць зразумець дырэктывы, могуць прыняць гэтыя дырэктывы, як свае родныя, і ўмеюць праводзіць іх у жыццё. У адваротным выпадку палітыка траціць сэнс, ператвараецца ў маханне рукамі» **(Сталін).**

У нас-жа часта арганізатарская работа, якая з'яўляецца неадлучнай часткай у выкананні генеральнай лініі партыі, не на вышыні.

Тэзісы к XVII з'езду партыі па дакладу т. Кагановіча ставяць перад партыяй цэлую сістэму арганізацыйных пытанняў. Перш за ўсё неабходна перамагчы габінетна-канцэлярска-бюракратычныя ме-

[1]) Сталин. Вопросы ленинизма. Изд. 9-е, стр. 53?.

тады кіраўніцтва, укараніць канкрэтнасць, аператыўнасць у работу кіруючых органаў, ведаць дэталі справы.

Па-другое, неабходна ўмацаваць прынцыпы адзінаначалля і барацьбу з малейшымі парушальнікамі дысцыпліны партыі і дзяржавы.

Па-трэцяе, укараніць ва ўсе поры нашага апарата ленінскі прынцып найстражэйшай і сістэматычнай праверкі выканання.

Вось што піша Ленін па пытанню праверкі выканання ў адной са сваіх запісак т. Цюрупе, якая цалкам і поўнасцю адпавядае і данаму часу:

> **«Тав. Цюрупа! У нас, здаецца, астаецца карэннае разгалоссе. Галоўнае, па-мойму, перанесці цэнтр цяжару з пісання дэкрэтаў і загадаў (глупім мы тут да ідыёцтва) на выбар людзей і праверку выканання. У гэтым гвозд».**

І Ленін піша далей:

> **«... Апошняе і галоўнае—адсутнасць у адказных работнікаў усведамлення таго, што на чаргу дня стала цяпер барацьба з папяровым морам, недавер'е к яму і к вечным «рэарганізацыям», што першачарговая задача моманту не дэкрэты, не рэарганізацыі, а падбор людзей, устанаўленне індывідуальнай адказнасці за тое, што робіцца, праверка практычнай работы. Інакш ад бюракратызма і цяганіны, якія нас душаць, не вылезці» [1]).**

Вось як тав. Ленін яшчэ ў 1922 г. ставіў пытанне аб кантролі.

Гэтыя ўказанні Леніна маюць сваю сілу для нашай арганізацыі і па сёнешні дзень. І мы павінны па-большэвіцку ўзяцца за ажыццяўленне намечаных у тэзісах па дакладу тав. Кагановіча арганізацыйных мерапрыемстваў як па партыйнай, так і па совецкай, прафсаюзнай лініях, як адзіную цэльную праграму большэвіцкай перабудовы ў адпаведнасці з новай абстаноўкай і з новымі задачамі. Мы павінны рашуча зламіць супраціўленне перабудове з боку бюракратычных, косных элементаў, якія спрабуюць звесці ўсю справу да простай перасоўкі людзей у новыя апаратныя клетачкі.

Некаторыя таварышы думаюць: «Ну, слава алаху, ЦКК ліквідавалі, цяпер ніхто не будзе кантрольнымі справамі займацца, таму— што хочаш, то і рабі накошт усякіх этычных і іншых учынкаў». Хто так разважае, той нічога не разумее ў тэзісах па дакладу тав. Кагановіча аб рэарганізацыі кантрольных органаў партыі. Наадварот, стварэнне ўпаўнаважаных па кантролю і праверцы выканання, назначаемых Цэнтральным Камітэтам і саюзнымі органамі, а саюзныя органы выбіраюцца партыйным з'ездам,—гэта ставіць пытанне адносна сапраўднага большэвіцкага ўстанаўлення кантроля за выкананнем партыйных і совецкіх дырэктыў.

> «Гэтыя камісіі, як непасрэдна знаходзячыяся пры кіруючых органах, будуць больш глыбока, канкрэтна, аператыўна кантраляваць, дабяруцца да тых куткоў, дзе па сутнасці вырашаюцца справы, да тых нізавых участкаў, ад работы якіх залежыць абслугоўванне і дзяржавы ў цэлым, і матар'яльных і культурных патрэб працоўных мас» **(Кагановіч).**

І нам, таварышы, трэба з дня ў дзень біцца за тое, каб новыя арганізацыйныя формы былі напоўнены большэвіцкім зместам, сапраўды большэвіцкімі метадамі кіраўніцтва.

[1]) Ленин, т. XXVII, стр. 163, 1 4.

Для знішчэння ўсіх гэтых недахопаў і палепшання работы ўсіх органаў пролетарскай дыктатуры, як гаворыцца ў тэзісах па дакладу тав. Кагановіча, неабходна кіравацца наступнымі палажэннямі:

ПЕРШАЕ—перайсці ад «агульнага» і адцягненага кіраўніцтва к канкрэтнаму кіраўніцтву, ад «агульных» рэзалюцый к аператыўным рашэнням, якія грунтуюцца на вывучэнні і веданні дэталей і тэхнікі справы, к цеснай, жывой сувязі з нізавымі звеннямі вытворчасці і кіраўніцтва (цэх, участак, прадпрыемства, калгас, вёска, МТС, соўгас і т. п.);

ДРУГОЕ—узмацніць асабістую адказнасць кіраўнікоў за даручаную ім справу як па партыйнай, так і па совецкай лініі, ліквідаваць функцыяналку і абязлічку ў рабоце, устанавіўшы строгае адзінаначалле;

ТРЭЦЯЕ—устанавіць сістэматычную ўважлівую праверку выканання дырэктыў партыі і ўрада з тым, каб праверкай выканання займаўся асабіста кіраўнік арганізацыі, установы, прадпрыемства і каб праверка выканання забяспечвала ўмацаванне партыйнай і совецкай дысцыпліны;

ЧАЦВЕРТАЕ—забяспечыць перасоўку кваліфікаваных работнікаў з апарата і канцэлярыі непасрэдна на вытворчасць, скараціўшы апараты кіраўніцтва, і палепшыць пастаноўку размеркавання работнікаў, абавязаўшы кіраўніка ўстановы і прадпрыемства асабіста кіраваць гэтай справай.

Абавязковай умовай паспяховага ажыццяўлення гэтых задач з'яўляецца далейшае разгортванне самакрытыкі, соцспаборніцтва, актыўнасці і самадзейнасці партыйных, рабочых і калгасных мас і іх масавых арганізацый.

Таварышы! Вынікі барацьбы КП(б)Б за генеральную лінію партыі, барацьбы з апартунізмам у партыі, вынікі барацьбы супроць правага і «левага» апартунізма і прымірэнцтва, барацьбы супроць ухілаў у правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі, барацьбы супроць вялікадзяржаўнага шавінізма, як галоўнай небяспекі ў маштабе Совецкага саюза і ўсёй ВКП(б), і супроць мясцовага беларускага нацыяналізма, як галоўнай небяспекі ў даны момант у Беларусі; вынікі чысткі партыі, ачышчэнне радоў партыі ад перараджэнскіх двурушніцкіх, разлажыўшыхся элементаў, вынікі практычнай работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, асабліва на ўчастку сельскай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва—гавораць, што КП(б)Б з'яўляецца маналітнай, ідэйна-згуртаванай арганізацыяй і ідзе к XVII з'езду яшчэ больш згуртаванай, яшчэ больш кансалідаванай у барацьбе за ідэйны сцяг партыі, за ленінска-сталінскую прынцыповасць, за практычнае ажыццяўленне вялікіх задач другой пяцігодкі.

Вынікі мінулага 1933 года, гарадскія і раённыя канферэнцыі, якія закончыліся, прайшоўшы з вялікім уздымам, з вялікай самакрытыкай сваіх недахопаў, паказваюць, што КП(б)Б прышла к свайму XV з'езду і ідзе к XVII з'езду ВКП(б) з буйнымі поспехамі соцыялістычнага будаўніцтва, што КП(б)Б больш загартавана, больш пільна ў барацьбе з класавым ворагам, што ўзмацнілася барацьба з усякімі нацыяналістычнымі ўхіламі і іх прадстаўнікамі ў партыі, што наша КП(б)Б узмацніла сваю сувязь з шырокімі рабочымі і калгаснымі масамі.

КП(б)Б за час ад XIV да XV з'езда яшчэ больш сцэментавала свае рады на барацьбу за генеральную лінію партыі вакол ленінскага ЦК ВКП(б). КП(б)Б з небывалай яшчэ згуртаванасцю, небывалым энтузіязмам ідзе к XVII з'езду ВКП(б).

Але нельга ўпівацца поспехамі, нельга дапускаць, каб закружылася галава ад нашых поспехаў. Тым больш, што мы маем цэлы рад недахопаў у сваёй рабоце. Гэта мы ведаем, і мы павінны знішчыць іх у сваёй практычнай рабоце ў бліжэйшы час.

КП(б)Б мае ўсе магчымасці для таго, каб 1934 год зрабіць годам гіганцкага руху наперад як у галіне гаспадарчай, у галіне культурнай, так і ў галіне далейшага палепшання снабжэння і абслугоўвання культурна-бытавых патрэб рабочых.

Другая пяцігодка патрабуе гіганцкай напружанай работы. КП(б)Б мае ўсе магчымасці для таго, каб на аснове барацьбы супроць усякіх элементаў апартунізма і групаўшчыны, сямейственасці, закасаўшы рукавы, працаваць так, як гэта патрабуецца ад кожнага комуніста, працаваць па-большэвіцку, па-сталінску.

КП(б)Б павінна даказаць усёй ВКП(б), што яна на практычных участках сваёй работы будзе на адным з першых месц па ўсёй ВКП(б).

КП(б)Б у сваёй рабоце павінна будзе не дэкларацыямі, не славеснымі запэўненнямі даказаць сваю адданасць генеральнай лініі, а ўсебаковым палепшаннем практычнай работы на ўсіх участках соцыялістычнай будоўлі паказаць узоры аператыўнага, канкрэтнага кіраўніцтва.

Пільнасць, напружаная работа, самакрытыка, самаправерка і праверка другіх, сталінская непрымірымасць, уменне бачыць дзеянні класавага ворага, уменне граміць да канца ўсякія апартуністычныя спробы весці нашу КП(б)Б па няправільным шляху—вось што можа забяспечыць нам новыя перамогі ў ажыццяўленні пастаўленай перад намі задачы—пературарыць БССР у перадавую, узорную совецкую рэспубліку.

КП(б)Б у практычнай рабоце павінна будзе даказаць, што яна будзе яшчэ больш згуртаваным, больш арганізаваным атрадам ВКП(б), які не дазволіць нікому пасягаць не толькі на граніцы Совецкага саюза, але не дазволіць пасягаць на малейшы ўчастак нашай соцыялістычнай творчай работы.

КП(б)Б не на словах, а на справе будзе вартай кіраўніцтва свайго ленінскага ЦК ВКП(б), будзе вартай вялікага правадыра сусветнага пролетарыята нашага **Сталіна,** які на любым участку работы аказвае нам аграмадную дапамогу. І гэтаму лепшаму нашаму другу і настаўніку—тав. **Сталіну** мы абавязваемся не словамі, а справай тут, на граніцы з капіталістычным светам, быць вартымі яго імені, быць моцным згуртаваным атрадам, каб рушыць наперад і толькі наперад да завяршэння пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

**(Бурныя апладысменты. Усе ўстаюць).**

---

# Першыя вынікі перабудовы Бабруйскай партарганізацыі

Бабруйская райпартарганізацыя налічвае ў сваіх радах 1069 членаў КП(б)Б і 499 кандыдатаў, з іх: у горадзе—на прадпрыемствах і ў совецкіх установах—1293 чал, у сельскай гаспадарцы—соўгасах—26 чал., у калгасах і МТС—75 чал.

Арганізацыйная перабудова партарганізацыі пачалася з раённай партканферэнцыі (9-га студзеня 1934 г.). У аснову перабудовы былі пакладзены тэзісы па арганізацыйнаму пытанню да XVII партз'езда, якія ўказвалі:

«Для палепшання работы ўсіх органаў пролетарскай дыктатуры неабходна кіравацца наступнымі палажэннямі:

Першае—перайсці ад «агульнага» і абстрактнага кіраўніцтва да канкрэтнага кіраўніцтва, ад «агульных» рэзалюцый да аперацыйных рашэнняў, заснаваных на вывучэнні і веданні дэталей і тэхнікі справы, да цеснай, жывой сувязі з нізавымі звеннямі вытворчасці і кіраўніцтва (цэх, участак, прадпрыемства, калгас, вёска, МТС, соўгас і т. п.);

Другое—узмацніць асабістую адказнасць кіраўнікоў за даручаную ім справу як па партыйнай, так і па совецкай лініі, ліквідаваць функцыяналку і абязлічку ў рабоце, устанавіўшы строгае адзінаначалле;

Трэцяе—устанавіць сістэматычную, дакладную праверку выканання дырэктыў партыі і ўрада з тым, каб праверкай выканання займаўся асабіста кіраўнік арганізацыі, установы, прадпрыемства і каб праверка выканання забяспечвала ўмацаванне партыйнай і совецкай дысцыпліны;

Чацвертае—забяспечыць перасоўку кваліфікаваных работнікаў з апарата і канцэлярыі непасрэдна на вытворчасць, скараціўшы апараты кіраўніцтва, і палепшыць пастаноўку размеркавання работнікаў, абавязаўшы кіраўніка ўстановы і прадпрыемства асабіста кіраваць гэтай справай» (з тэзісаў да XVII з'езда ВКП(б) па арганізацыйных пытаннях).

На партыйнай канферэнцыі склад пленума раённага камітэта скарочан да 29 членаў, бюро РК—да 9. На пленуме былі зацверджаны толькі сакратар райкома і яго намеснік.

Адразу пасля канферэнцыі ўсе аддзелы райкома (аргаддзел, культпроп, агітмасавы, кадраў) былі ліквідаваны і замест іх створан інстытут адказных інструктароў па вытворча-тэрытарыяльнаму прызнаку: у горадзе—2 інструктары, з якіх—адзін кіруе партарганізацыямі фабрык і заводаў, а другі—партарганізацыямі ўстаноў і каапераціўных арганізацый. На вёсцы створаны 7 інструктарскіх участкаў, з улікам спецыялізацыі калгасаў, у тым ліку два інструктары для абслугоўвання тэрытарыяльных арганізацый у зоне дзейнасці МТС. Склад інструктароў падабраны з адказных работнікаў райкома і райКК—РСІ.

Работа інструктароў на вёсцы арганізавана наступным чынам: штодэкадна пры РК КП(б)Б сакратаром РК або яго намеснікам праводзяцца нарады інструктароў, дзе заслухоўваюцца інфармацыі аб праробленай рабоце, інструктары абменьваюцца вопытам сваёй работы і атрымліваюць канкрэтнае заданне на наступную дэкаду.

Заданні інструктарам даюцца ў канкрэтнай форме на невялікі адрэзак часу. Так, на першай нарадзе інструктары атрымалі заданне: праверыць правільнасць расстаноўкі партыйных і комсамольскіх сіл на ўчастках і дапамагчы нізавым арганізацыям у перабудове іх работы, згодна ўказанняў XVII партз'езда; арганізаваць праверку ходу падрыхтоўкі да вясны і падрыхтаваць партарганізацыю да адзінага партдня па пытанню падрыхтоўкі да сяўбы.

На другой нарадзе інструктары атрымалі заданне: праверыць давядзенне плана сяўбы да калгасаў і аднаасобнікаў і выправіць скрыўленні ў гэтым пытанні; арганізаваць праз нізавыя партарганізацыі і беспартыйны актыў масавы агульна-раённы пробны выезд калгаснікаў і аднаасобнікаў у поле на 25-е лютага; падрыхтаваць арганізацыі да адзінага партдня, на якім намечаны пытанні аб рабоце і партыйным кіраўніцтве комсамолам і аб выніках пробнага выезду ў поле.

На трэцяй нарадзе інструктары атрымалі заданне: праверыць і арганізаваць выкананне рашэнняў ЦК ВКП(б) аб насенных і страхавых фондах; дапамагчы арганізацыям выправіць недахопы, выяўленыя ў час пробнага выезду ў поле і правесці злёты перадавых аднаасобнікаў па пытаннях падрыхтоўкі да пасеўнай кампаніі і арганізацыі калгаснага прыліву.

У аснову работы інструктароў пакладзен вопыт палітаддзелаў МТС: быць непасрэдна ў калгасе, соўгасе, вёсцы, звязацца з жывымі людзьмі, выявіць лепшы беспартыйны актыў і згуртаваць яго вакол комуністаў, вучыць іх працаваць і ўздымаць ідэйна-палітычны ўзровень, строга кантраляваць як выконвае партарганізацыя рашэнні партыі і ўрада, рашэнні райкома, не падмяняючы пры гэтым сабою парторгаў, совецкіх і кааперацыйных работнікаў.

Інструктары 7—8 дзён у дэкаду працуюць непасрэдна на вёсцы, выбіраючы найбольш адсталыя ўчасткі работы з тым, каб сваім непасрэдным удзелам дапамагчы нізавым работнікам ліквідаваць сваё адставанне. У раённы цэнтр інструктары з'яжджаюцца толькі на пасяджэнне бюро райкома, да якога яны падрыхтоўваюць цэлы рад пытанняў аб рабоце калгасаў, сельсовета, соўгасаў і т. д. На другі дзень пасля бюро з інструктарамі праводзіцца нарада, і яны зноў выязджаюць на вёску.

Інструктары на сваіх участках маюць 4 сталых работнікаў, якімі яны кіруюць (кіраўнік гурткоў партыйнай вучобы, інструктар райза, інструктар райсаюза і інструктар раённай газеты). Зараз ужо фактычна працуюць на ўчастках, акрамя інструктароў РВК, 3 метадысты, якія асобна вядуць непасрэдную прапагандысцкую работу, у якасці кіраўнікоў гурткоў і т. д., 3 інструктары райза і 3 работнікі рэдакцыі раённай газеты.

Бюро РК КП(б)Б практыкуе па раду пытанняў правядзенне выяздных паседжанняў бюро (у складзе двух-трох членаў бюро), на якіх праводзіцца праверка выканання рашэнняў бюро РК КП(б)Б і непасрэдна на месцы аказваецца дапамога нізавым работнікам у практычным ажыццяўленні важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній. За люты месяц такіх паседжанняў праведзена 5—па пытаннях: хлебазакупкі лесазагатоўкі і вывазкі, рамонту інвентара, мясазагатовак і т. д.

Такое набліжэнне кіраўніцтва да нізавых звенняў дае магчымасць своечасова выяўляць рад скрыўленняў у правядзенні лініі партыі і хутчэй іх выпраўляць. Так, на ўчастку інструктара РК тав. Гурэвіча выяўлен калгас, арганізаваны выключна з кулацкіх і заможных элементаў; на ўчастку інструктара тав. Воранава ў калгасе «Шлях жыцця» выяўлены кулацкія элементы, якія прабраліся на кіруючыя пасады і разлагалі калгас; на ўчастку таго-ж інструктара ў калгасе «Комінтэрн», Казуліцкага сельсовета, выяўлены драпежніцкія адносіны да конскага пагалоўя, у выніку чаго значная частка коняй была выведзена са строю.

Роля інструктароў зводзіцца не толькі да таго, каб выяўляць недахопы ў рабоце і сігналізаваць аб іх райкому партыі, але галоўным чынам да непасрэднага выпраўлення гэтых недахопаў на месцы. Так, інструктар РК Гурэвіч дапамог калгасу «Чырвоны ўдарнік» у ачыстцы ад кулацка-заможных элементаў, пасля чаго ў гэты калгас уступіла некалькі бядняцкіх аднаасобных гаспадарак. Інструктар РК Воранаў правёў спецыяльную нараду конюхаў па пытанню падрыхтоўкі каня да пасеўнай кампаніі, коні разбіты па групах, пачалася чыстка коняй, слабейшым арганізован лепшы догляд, поўнасцю ліквідавана абязлічка як у доглядзе, так і ў скарыстанні каня.

Бабруйскі раён мае зусім нязначны процант калектывізацыі. На 1 студзеня было калектывізавана толькі 34 проц. аднаасобных гаспадарак. Гэта ставіць перад партыйнай арганізацыяй асабліва адказную задачу—на аснове арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацавання калгасаў, ачысткі іх ад кулацка-заможных элементаў, арганізаваць новы калгасны прыліў. Першыя крокі ў перабудове партыйнай работы ўжо далі свае станоўчыя вынікі: у калгасы Старцаўскага сельсовета за апошнія дзве дэкады лютага ўступіла 75 гаспадарак, у калгасы Міхалеўскага сельсовета—50 гаспадарак, значна выраслі калгасы Баравіцкага сельсовета і т. д.

У сувязі з тым, што папярэдняй рэарганізацыяй вясковых парт'ячэек паасобныя камуністы ў калгасах былі зусім адарваны ад партыйнага жыцця, райком партыі ўвёў для вясковай партарганізацыі два адзіныя партдні ў месяцы. Увесь раён падзелен на кусты (у межах аднаго, а ў паасобных выпадках—двух сельсоветаў). Такіх кустоў, куды ўсе камуністы калгасаў і тэрытарыяльных арганізацый збіраюцца на партыйны сход, у раёне арганізавана 26. Да кустоў прымацаваны члены райкома, якія выяжджаюць на гэтыя партдні. З часу перабудовы праведзены ўжо тры партдні: па пытаннях падрыхтоўкі да сяўбы, становішча жывёлагадоўлі, работы комсамола. Па практычных пытаннях у асноўным заслухоўваюцца даклады з месц і намячаюцца практычныя мерапрыемствы па ажыццяўленні гэтых пытанняў. Як правіла, на кожным партдні правяраецца выкананне пастановы папярэдняга партсходу. Акрамя практычных пытанняў на партсходах заслухоўваюцца агульна-палітычныя даклады. Так, на трох партсходах распрацаваны даклады т. Сталіна на XVII партз'ездзе, вынікі XVII партз'езда, аб міжнародным жаночым камуністычным дні. У большасці сходы праводзяцца адкрытыя, на іх прысутнічаюць комсамольцы і беспартыйны актыў (старшыні калгасаў, брыгадзіры, члены сельсоветаў, настаўнікі).

Гэта мерапрыемства ўмацоўвае партыйную арганізацыю на вёсцы і ўцягвае камуністаў у партыйнае жыццё. Рад камуністаў, якія раней амаль не выступалі на сходах, зараз актыўна абгаварваюць пытанні практычнай работы, выступаюць у спрэчках па агульна-палітычных

дакладах. Значна павысілася партыйная дысцыпліна ў сельскай арганізацыі; на сходах прысутнічаюць амаль 100 проц. комуністаў.

Для ўмацавання работы на вёсцы райком за апошні месяц мабілізаваў 40 комуністаў з горада ў якасці старшынь калгасаў, сельсоветаў, сельпо, парторгаў калгасаў. Да тых калгасаў, у якіх зусім няма комуністаў, прымацаваны ў якасці парторгаў комуністы з раённага партыйнага актыва, якія выяжджаюць на свае месцы і непасрэдна дапамагаюць праўленню калгаса.

У адпаведнасці з усёй перабудовай работы праведзена рэарганізацыя шэфскіх арганізацый. Да кожнага калгаса прымацован якінебудзь цэх, установа або завод у цэлым, адкуль як правіла вылучаецца і парторг у тыя падшэфныя калгасы, дзе няма комуністаў. Шэфы прыцягваюцца для канкрэтнай дапамогі ў рабоце калгасаў (праверка насенных фондаў, дапамога ў арганізацыі працы, у падрыхтоўцы кадраў, рамонце інвентара і т. д.).

Праз усе гэтыя звенні райком КП(б)Б мае магчымасць своечасова ведаць аб становішчы ў калгасах і прымаць патрэбныя меры дапамогі нізавым арганізацыям у выкананні гаспадарча-палітычных кампаній.

Зараз пачалася ўжо перабудова вытворчых партарганізацый. У першую чаргу была перабудавана работа буйнейшых прадпрыемстваў раёна: лесакамбінат з 3500 рабочых, і швейная фабрыка—1300 рабочых.

На камбінаце спачатку праведзена была перабудова работы ячэйкі біржы піламатар'ялаў і пасля, на вопыце гэтай ячэйкі,—рэарганізацыя ўсёй партыйнай арганізацыі.

Партыйны камітэт на лесакамбінаце, які цяпер яднае 350 комуністаў, да перабудовы складаўся з 34 членаў, бюро парткома—з 11 членаў і 4 кандыдатаў. Зараз выбран камітэт з 9 членаў, бюро парткома ліквідавана. У цэхах, замест бюро і сакратароў, абраны цэхавыя партыйныя арганізатары. У асноўных цэхах па зменах арганізаваны партыйныя групы на чале з групавымі партарганізатарамі. Гэтымі партгрупамі і парторганамі кіруе цэхавы партыйны арганізатар.

Палепшылася і стала больш аператыўным кіраўніцтва вытворчасцю. Раней сакратар цэхавай парт'ячэйкі самастойна не вырашаў раду бягучых аператыўных пытанняў, чакаючы склікання бюро ячэйкі, партыйныя сходы ў цэхах скліікаліся вельмі рэдка. Цяпер парторг не чакае паседжання бюро, а адразу сумесна з начальнікам цэха, майстрам, або брыгадзірам прымае меры да неадкладнага выпраўлення заўважаных недахопаў. Напрыклад, партарганізатар біржы піламатар'ялаў т. Руткоўскі заўважыў, што экспартныя дошкі валяюцца каля чыгункі, закідваюцца розным смеццем пры ачыстцы платформы і пераходзяць у ніжэйшыя гатункі. Тав. Руткоўскі разам з начальнікам цэха ліквідавалі на месцы гэты недахоп; дошкі ўкладваюцца цяпер у правільныя штабелі.

Пасля перабудовы ячэйка біржы піламатар'ялаў дабілася значных вынікаў ў выкананні промфінплана. У студзені (да перабудовы) промфінплан па ўкладцы экспартнай прадукцыі быў выканан на 89 проц., у лютым, пры заданні амаль у два разы большым студзеньскага, промфінплан выканан на 110 проц. Гэта перамога—вынік канкрэтнага кіраўніцтва як начальніка цэха, так і партарганізатара непасрэдна на вытворчасці.

Раней участкі не мелі свайго вытворчага задання, зараз маюць яго не толькі ўчасткі, але і кожны рабочы. На галоўным участку біржы пiламатар'ялаў арганізавана самастойная партгрупа.

Партыйныя сходы займаюцца цяпер больш канкрэтнымі вытворчымі пытаннямі. Значна ўзнялася актыўнасць комуністаў на партсходах. Узяць, напрыклад, комуніста Лагуна—лепшага ўдарніка біржы. Раней ён амаль ніколі не выказваўся на сходах, зараз актыўна ўдзельнічае ў абгаварэнні канкрэтных вытворчых пытанняў. Апошнія два партсходы прайшлі пры стопроцантным і актыўным удзеле комуністаў і вялікай колькасці беспартыйных рабочых у абгаварэнні пастаўленых пытанняў.

Перабудова партарганізацыі ўзняла адказнасць кожнага комуніста за даручаную яму справу, яго авангардную ролю на вытворчасці. Калі раней некаторыя комуністы (Кімараў і інш) не былі ўдарнікамі, то зараз усе яны не толькі выконваюць, але і значна перавыконваюць план.

У сувязі з перабудовай работы, райком партыі цвёрда праводзіць лінію на павышэнне адказнасці і аўтарытэта совецкіх, кааперацыйных арганізацый, прымушаючы іх самастойна вырашаць пытанні, выцякаючыя з іх работы, і падрыхтоўваюць на бюро РК пытанні прынцыповага характару. Акрамя таго, сакратар РК КП(б)Б, або яго намеснік, сістэматычна, у аператыўным парадку, заслухоўвае інфармацыі аб праверцы таго, як выкананы вынесеныя рашэнні, пасля чаго прымае адпаведныя практычныя меры (высылка людзей для дапамогі ў найбольш адстаючыя ўчасткі і т. д.). За люты месяц такія аперацыйныя нарады праведзены па пытаннях: закупкі хлеба, загатовак і вывазкі лесу, мабілізацыі сродкаў, лесазагатовак, школьнага будаўніцтва, шэфства над калгасамі і нарада аб рабоце чыгуначнага транспарта з удзелам начальніка палітаддзела Жлобінскага эксплаатацыйнага раёна, кіраўнікоў мясцовых чыгуначных арганізацый і кліентуры.

Такім чынам перабудова работы праходзіць па лініі стварэння сталай групы раз'яздных работнікаў для работы на месцы на чале з адказным інструктарам РК, больш чоткай дапамогі горада вёсцы (парторгі, шэфы), прымацавання кіруючых работнікаў раёна да кустоў, устанаўлення адзінага партдня з канкрэтнымі пытаннямі, павышэння адказнасці і самастойнасці ў рабоце совецкіх, гаспадарчых, кааперацыйных і профсаюзных арганізацый, сістэматычнай праверкі выканання рашэнняў і дырэктыў, узмацнення партыйнай і совецкай дысцыпліны.

Прароблены ужо далёка не вычэрпваецца ўся сума пытанняў перабудовы ўсёй партарганізацыі. Гэтыя першыя крокі павінны глыбока вывучацца, каб у практычнай рабоце па перабудове партарганізацыі было менш памылак, каб дабіцца такой пастаноўкі арганізацыйнай работы, якую патрабаваў у сваіх пастановах XVII з'езд нашай партыі.

На новым этапе нашай барацьбы за комунізм, у барацьбе за план другой пяцігодкі роля партыі і кожнага комуніста паасобку яшчэ больш узрастае. Яшчэ лепш арганізаваць энергію і ініцыятыву мас на выпраўленне недахопаў работы нашага дзяржаўнага апарата, на новыя вытворчыя перамогі, яшчэ цясней згуртаваць працоўныя масы вакол партыі, узняць актыўнасць і самаадданасць кожнага члена партыі ў барацьбе за справу социялізма—пад гэтым лозунгам павінна праводзіцца ўся перабудова партыйнай работы.

Конік

# Разгортванне тавараз вароту—чарговая актуальнейшая задача

З'езд спажыўкаацерацыі БССР, што нядаўна закончыўся, падвёў вынікі работы і намеціў шляхі перабудовы спажывецкай кааперацыі ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі. З'езд спажывецкай кааперацыі сабраўся ў выключна важны момант, калі перад ёю стаяць адказныя задачы—не адставаць ад тэмпаў развіцця перадавых участкаў народнай гаспадаркі, і тая акалічнасць, што пачатак работ гэтага з'езда па часу саўпаў з заканчэннем XVII з'езда ВКП(б) наклала пэўны адбітак на ўсю работу з'езда спажыўкааперацыі, які прайшоў пад адзнакай выканання рашэнняў XVII з'езда партыі.

XVII з'езд нашай партыі падвёў вынікі выканання першай пяцігодкі пабудовы фундамента соцыялістычнай эканомікі. Важнейшым вынікам гэтай пяцігодкі з'явіўся агромны рост жыццёвага ўзроўню працоўных, ліквідацыя беспрацоўя, рост фондаў заработнай платы, соцстраха і т. д. Побач з гэтым рос тавараварот. Імена на базе індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі мы здолелі перайсці да совецкага гандлю—да гандлю без капіталістаў і спекулянтаў.

У рэзультаце выканання першай пяцігодкі тавараварот па СССР вырас з 19 млрд. у 1930 г. да 49 млрд. у 1933 г.

Рост таваразвароту за першую пяцігодку быў абумоўлен тымі зрухамі, што адбыліся ў вытворчых адносінах і прадукцыйных сілах нашай совецкай краіны. Гэта значыць, што разгортванне таваразвароту ў нашай краіне адлюстроўвала гіганцкі рост соцыялістычнай вытворчасці. І сапраўды, аб'ём валавой прадукцыі соц. прамысловасці па БССР узрос з 241 млн. руб. у 1927-28 г. да 979 млн. р. у 1932 г., або на 406 процантаў.

Рост таваразвароту ў нашай краіне значна адставаў ад тэмпаў соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Гэта адставанне знайшло сваё выражэнне ў невыкарыстанні ўсіх магчымасцей вышукання дадатковых рэсурсаў як па лініі шырспажыву, так і па лініі мабілізацыі лішкаў сельска-гаспадарчых прадуктаў на вёсцы, у недастаткова хуткім давядзенні тавар на-прадуктовых рэсурсаў да спажыўца, што ва ўмовах таварнага дэфіцыта—выключна ненармальная з'ява.

Ліквідацыя гэтага адставання становіцца важнейшай задачай спажыўкааперацыі і ўсіх гандлюючых сістэм у другой пяцігодцы пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Задача троекратнага павелічэння спажывання на аднаго чалавека ў другой пяцігодцы, у параўнанні з узроўнем канца першай, шчыльнейшым чынам звязана з разгортваннем совецкага гандлю, якое сваёй асноўнай прадпасылкай

мае мабілізацыю ўсіх унутраных рэсурсаў і хуткае давядзенне таварных мас да рабочага і калгасніка без лішняга застравання іх у прамысловых і гандлёвых базах.

Наша партыя ў сваіх рашэннях і т. Сталін неаднакроць падкрэслівалі неабходнасць разгортвання совецкага гандлю:

> «Вытворчую змычку паміж горадам і вёскай трэба дапоўніць змычкай таварнай для таго, каб сувязь паміж горадам і вёскай стала трывалай і непарыўнай.
>
> Гэтага можна дабіцца толькі праз разгортванне совецкага гандлю» (з даклада **т. Сталіна** на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б)—студзень 1933 г.).
>
> «Як бачыце, разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца ўперад» (са справаздачнага даклада т. Сталіна на XVII з'ездзе партыі).

Калі прааналізаваць, як спажыўкаапераціыя БССР перабудавала сваю работу ў святле дырэктыў партыі аб разгортванні совецкага гандлю, то мы прыдзем, на жаль, к мала ўцешным вывадам. Даволі паглядзець на суадносіны паміж ростам таваразвароту (24 проц.) і ростам цэнтралізаванага завозу фандуемых тавараў (43 проц.), каб упэўніцца ў тым, што рост таваразвароту ідзе ў асноўным за лік павелічэння таварнай масы, выдзяляемай дзяржавай у цэнтралізаваным парадку. І, сапраўды, па цэлым радзе буйнейшых кааперацыйных арганізацый самазакупкі тавараў— адна з форм праяўлення ініцыятывы ў разгортванні совецкага гандлю—занялі вельмі мізэрнае месца. У звароце Жлобінскага райсаюза самазакупкі тавараў складаюць толькі 12—14 проц., у Лагойскім—не перавысілі 10 проц. Па іншых арганізацыях мабілізацыя дадатковых рэсурсаў, разварот совецкага гандлю наладжаны яшчэ горш.

Не прыходзіцца даводзіць, што такая практыка размеркавання цэнтралізаваных фондаў не стымулюе росту таварных рэсурсаў, з культывуе толькі ўтрыманства ў тавараправодзячым апараце, паралізуе яго ініцыятыву ў развіцці гандлёвай работы, у мабілізацыі дадатковых рэсурсаў.

Вузлавую задачу—даць стымул павелічэння фондаў шырспажыву на аснове разгортвання совецкага гандлю—спажыўкааперацыя ў асноўным не выканала. Такім чынам уся дзейнасць яе ў галіне таваразвароту носіць на сабе пячатку лявацкіх тэорый, бліскуча выкрытых т. Сталіным на XVII з'ездзе нашай партыі:

> «Прышлося перамагчы, далей, забабоны другога роду. Справа ідзе аб лявацкай балбатні, аб тым, што совецкі гандаль з'яўляецца нібыта пройдзенай стадыяй, што нам трэба наладзіць прамы прадуктаабмен і т. д.»

Адсюль усе якасці: замаражванне таваразвароту, штучнае затаварванне, пагардлівыя адносіны да патрэб спажыўца і т. д.

Нечуваная ганьба ва ўмовах таварнага дэфіцыта—наяўнасць у сістэме спажыўкааперацыі БССР замарожаных тавараў на 9 млн. руб. Зусім недапушчальны такі факт, што толькі ў адным Жлобінскім райсаюзе наяўная астача тавараў перавышае на 243 тыс. руб. або на 203 проц. устаноўленую норму. У Лагойскім астача тавараў на 1/І—34 г. складае 393 тыс. руб. супроць нормы ў 215 тыс. руб., прычым адных нехадавых тавараў на гэтую дату лічылася ў астачы на

43 тыс. руб. Справа тут ускладняецца тым, што гэтае нехадаўё сваёй крыніцай мае пазапланавыя закупкі.

Ёсць праслойка кааперацыйных работнікаў, якія лічаць неабходным «актывізавацца» у здабыванні таварных рэсурсаў па прынцыпу: «купляй усё, што трапіцца пад руку». Інакш кажучы, і тут сістэма патрэбкааперацыі вельмі нездавальняюча выконвае дырэктывы партыі аб вывучэнні попыту данага раёна, аб вывучэнні таварнага асартымента, які мае пашырэнне іменна ў даным раёне. А без канкрэтнага вывучэння гэтага попыту і крыніц яго пакрыцця няма і не може быць совецкага гандлю.

На гэтым фоне асабліва рэльефна выдзяляецца няўменне ў радзе выпадкаў правільна размеркаваць наяўныя рэсурсы тавараў, якое на практыцы іншы раз перарастае ў простае шкодніцтва. Узяць хоць-бы факт з завозам солі. У Осіповіцкім раёне была астача ў 10 вагонаў солі (квартальная патрэба—14 вагонаў), а яму заналражаюць 17 вагонаў солі. Лепельскаму-ж раёну занаражана толькі 12 вагонаў пры квартальнай патрэбе ў 20, Уваравіцкаму занаражана 11 вагонаў солі пры патрэбе ў 15 і т. д. Не прыходзіцца дзівіцца, што адны раёны былі перанасычаны, а другія аставаліся без солі.

У практыцы гандлюючых сістэм нярэдкі выпадкі няправільнага выкарыстання і выдаткавання дзяржаўных сродкаў. Саюзбавоўназбыт пад выглядам таго, што спажывецкія вытворчыя арганізацыі не выкупілі сваіх тавараў, рэалізаваў на сотні тысяч рублёў тавараў дэфіцытных з іншых фондаў.

Оршанскі райсаюз спажыўтаварыстваў (старшыня т. Песін) рэалізаваў не па прызначэнню веласіпеды, адпушчаныя для стымулявання закупкі хлеба.

Такім чынам паасобныя звенні таваправодзячага апарата ігнаруюць класава-вытворчыя прынцыпы гандлю—падпарадкаваць снабжэнне задачам паспяховага правядзення гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў партыі і ўрада.

У пытаннях якасці прадукцыі трэба проста падкрэсліць, што дзяржаўная, і асабліва саматужная прамысловасць, ігнаруе пастаўленую партыяй задачу палепшыць якасць сваёй прадукцыі.

Для ілюстрацыі ўзяць хоць-бы фабрыку «Чырвоны Кастрычнік» у Менску. Гэта фабрыка сістэматычна выпушчае бракаваныя, нізкай якасці валёнкі, а часта і зусім непрыгодныя.

Праведзеная ў снежні 1933 г. праверка якасці партыі валёнак, зданай БКС, устанавіла, што з 530 пар у другі сорт можна залічыць толькі 423 пары, а рэшта зусім непрыгодны тавар.

Або такі факт: у 3-м квартале мінулага году Віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» звярнула назад базе Саюзбавоўназбыта на паўтара мільёны рублёў розных тканін, якія аказаліся зусім нягоднымі для вытворчасці,—факт у вышэйшай меры абураючы.

Але ці толькі пастаўшчыкі вінаваты ў гэтым. У значнай меры вінаваты і НКЛегпром БССР і Белпромсовет; яны надзвычай нездавальняюча кіруюць справай палепшання якасці прадукцыі на прадпрыемствах дзяржаўнай і саматужнай прамысловасці.

Не ў меншай меры вінаваты, вядома, спажыўкааперацыя і прамысловыя збытавыя базы. Яны ў першую чаргу павінны быць заслонай супроць засылкі яўна нядобраякасных тавараў. Прымаючы нягодны тавар па прынцыпу «лопай што даюць», яны гэтым самым пакрываюць і амністыруюць бездакказную работу дзяржаўнай і саматужнай прамысловасці. Замест кантролю рублём, замест устанаўлення сапраўднай

матар'яльнай адказнасці пастаўшчыкоў за якасць прадукцыі—спажыўкаапераццы і, што горш усяго, прамысловыя спецыялізаваныя збытавыя базы праводзяць на практыцы палітыку дружбы з пастаўшчыкамі нядобраякаснай прадукцыі. І дагэтуль яшчэ з практыкі ўзаемаадносін спажывецкіх арганізацый з пастаўшчыкамі не выкарчаваны элементы ўзаемнай амністыі.

Усе гэтыя буйнейшыя заганы ў рабоце спажыўкаапераццы звязаны, бясспрэчна, з нездавальняючым кіраўніцтвам БКСаюза. Ні адна справа не можа быць арганізавана самацёкам, тым больш такая складаная галіна нашай соцыялістычнай гаспадаркі, як кааперацыя. Кіраўніцтва-ж БКСаюза аказалася не на вышыні пастаўленых перад ім задач. У аснове арганізацыі яго работы ляжалі старыя, асуджаныя партыяй, канцэлярска-бюракратычныя метады. А справа вядомая, што кіраўніцтва з габінета такім жывым арганізмам, як спажыўкааперацыя, асуджана загадзя на правал.

Неабходна адзначыць, што гэтаму ў значнай меры спрыяла няправільная арганізацыйная пабудова апарата БКСаюза, пры якой ніяк нельга было забяспечыць выкананне дырэктыў партыі.

XVII з'езд партыі вялікую ўвагу ўдзяліў арганізацыйным пытанням, у прыватнасці арганізацыйнай пабудове нашых апаратаў. І сапраўды, няправільная арганізацыя гаспадаркі і кіруючага ёю апарата ёсць тормаз на шляху нашага далейшага руху ўперад.

Адным з узораў няправільнай пабудовы апарата можа служыць БКСаюз. Функцыяналка з усімі яе атрыбутамі—абязлічка, безадказнасць—звіла сабе тут цёплае гняздо. Узяць хоць-бы планаванне. Планавы сектар БКСаюза плануе ўсё што хочаце, аднак такую «дробязь», як гандлёвыя точкі, плануе другая частка апарата—аргаддзел. Адсюль ніці планавання вядуць яшчэ ў адзін сектар—гандлёвае кіраўніцтва, якое ўжо плануе напрамак таварнага патоку. Такое планаванне таваранснабжэння па-за сувяззю з гандлёвай сеццю параджае безадказнасць у размяшчэнні таварнай масы па асобых точках і магчыма толькі ва ўмовах функцыянальнай пабудовы апарата.

Або ўзяць, напрыклад, участак грамадскага харчавання. Аказваецца, ёсць два гаспадары на свіней сістэмы грамадскага харчавання: Сельтаскіраўніцтва і Белкаапхарч. А хто з іх павінен забяспечыць свіней кормам—у БКСаюзе не ведаюць.

Аналагічных фактаў многа, але і прыведзеных даволі для ілюстрацыі шкодных вынікаў функцыяналкі.

* * *

Якія-ж асноўныя практычныя вывады павінна зрабіць адсюль спажыўкааперацыя? Перш за ўсё пакончыць з прынцыпам «бяры што даюць» і пачаць актыўную, упартую і сістэматычную барацьбу за канкрэтны тавар канкрэтнаму спажыўцу.

Цесна звязана з гэтым пытанне аб удзеле органаў спажыўкаапераццы ў складанні прамысловасцю вытворчых праграм. Пытанне гэта ўжо не тэарэтычнае, а дыктуецца задачамі сёнешняга дня.

Хто-ж, як не спажыўкааперацыя, якая прадстаўляе інтарэсы шматмільённых мас спажыўцоў—рабочых і калгаснікаў, павінна ўздзейнічаць на прамысловасць і дыктаваць ёй пэўныя патрабаванні асартымента і якасці і не толькі дыктаваць, але і правяраць як яны выконваюцца. Спажыўкааперацыя і гандлюючыя сістэмы абавязаны правяраць, як выконваюцца дырэктывы данай галіны прамысловасці.

дырэктывы партыі аб павелічэнні рэсурсаў шырспажыву і своечасова сігналізаваць аб прарывах. Імена гандлюючыя сістэмы абавязаны ўзяць пад свой непасрэдны нагляд работу фабрык і заводаў па вырабу тавараў шырспажыву.

Усе гэтыя пытанні сталі зараз альфай і амегай совецкага гандлю.

Перабудова работы аптовых гандлёвых і прамысловых баз таксама мае зараз выключнае значэнне. Замест таго, каб праводзіць адны толькі складскія аперацыі, яны павінны навучыцца больш гібкаму манеўраванню тварнымі фондамі і падбору неабходнага асартымента для розніцы.

Ліквідацыя суцэльнага транзіта ў нізоўку і арганізацыя вопыту прадыктаваны былі неабходнасцю ўзмацніць, а не аслабіць уздзеянне на прамысловасць. Таму аптовыя як гандлёвыя, так і прамысловыя базы павінны ў першую чаргу стаць заслонай супроць механічнай засылкі фондаў, набыўшай такія шырокія размеры пры суцэльным транзіце.

Чарговая задача спажыўкааперацыі і ўсіх гандлюючых сістэм— стварыць стымул для росту тварных рэсурсаў, што ва ўмовах разгалінаванай сеці арцельнай прамысловай каапераці БССР мае істотнае значэнне.

Бюракратычная цэнтралізацыя збыту прадукцыі прамысловай кааперацыі адрывала ў нядаўным мінулым гэту сістэму ад рынка, ад канкрэтнага спажыўца. 23-га ліпеня 1932 г. саюзныя ўрадавыя органы выносяць пастанову аб дэцэнтралізацыі збыту прадукцыі прамысловай кааперацыі. Гэтай пастановай кладзецца канец падобным скажэнням, прамкааперацыя звязваецца з рынкам, у кожнай арцелі расце вытворчая ініцыятыва. Задача гандлюючых сістэм—падхапіць гэту ініцыятыву і максімальна яе рэалізаваць. Само сабою зразумела адказнасць спажыўкааперацыі за выкарыстанне ўсіх сваіх вытворчых магчымасцей для росту тварнай масы. Замест выпадковых закупак прамысловая кааперацыя павінна звязацца дагаварамі непасрэдна з кожнай арцеллю. Спажыўкааперацыя мае ўсе магчымасці дапамагчы ёй у зборы рознага утылю для перааапрацоўкі ў тавар. Дапамагаючы арцелі сыравінай, спажыўкааперацыя атрымлівае лішні рычаг уздзеяння на ўзровень цэн і т. д. Тут можна праявіць шмат ініцыятывы. Урэшце будуць узрастаць нашы тварныя рэсурсы, без чаго немысліма вырашэнне праблем совецкага гандлю і разгортвання таваразвароту.

---

С. Белоў і М. Айвазаў

# За большэвіцкае правядзенне веснавой сяўбы 2-га года другой пяцігодкі

Совецкая Беларусь, як і ўвесь Совецкі саюз, уступае ў вясенне-пасеўную кампанію з радам адметных асаблівасцей у параўнанні з мінулым годам.

На працягу мінулага года ў калгасах накапіўся багацейшы вопыт барацьбы за большэвіцкія калгасы і заможнае жыццё калгаснікаў. Тысячы і дзесяткі тысяч калгаснікаў і калгасніц выраслі і загартаваліся ў барацьбе з кулацтвам, контррэволюцыйнай нацдэмаўшчынай. Вопыт гэтай барацьбы павінен быць цалкам выкарыстан супроць разбітага, але недабітага кулацтва. У надыходзячую вясенне-пасеўную кампанію ўступаюць палітаддзелы МТС пасля сваёй гадавой работы. На працягу гэтага года палітаддзелы цалкам апраўдалі сваё гістарычнае прызначэнне, паказаўшы ўзоры больш яркага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай. Можна без усякага перавелічэння сцвярджаць, што няма ні адной галіны сельскай гаспадаркі ў калгасах зоны МТС, дзе палітаддзелы не заваявалі-б моцнага ўплыву, не забяспечылі-б большэвіцкага кіраўніцтва. Багацейшы вопыт гадавой палітаддзельскай работы павінен быць дакладна вывучан, абагулен і стаць набыткам як усёй партыйнай арганізацыі, так і шырокіх калгасных мас.

Урэшце, асноўная асаблівасць падрыхтоўкі і правядзення веснавой сяўбы ў тым, што «гэты сельска-гаспадарчы год пачынаецца ва ўмовах іншых адносін калгаснікаў да калектыўнай працы. У гэтым сутнасць справы». Гэтыя іншыя адносіны калгаснікаў да калектыўнай працы сказваюцца ўжо на падрыхтоўцы калгасаў да веснавой сяўбы.

XVII з'езд ВКП(б) і XV з'езд КП(б)Б выклікалі бурную хвалю працоўнага энтузіязма сярод калгаснікаў і калгасніц. Трэба толькі гэты працоўны энтузіязм замацаваць, накіраваць яго ў правільнае русло. Гістарычныя рашэнні XVII з'езда Ўсесаюзнай комуністычнай партыі, даклад правадыра нашай партыі і сусветнага пролетарыята т. **Сталіна** з'яўляюцца дакументамі, якія ўзбройваюць кожнага калгасніка і калгасніцу на далейшую паспяховую барацьбу.

**Гэтыя асаблівасці надыходзячай вясенне-пасеўнай кампаніі гавораць за тое, што мы маем усе ўмовы, усе магчымасці для таго, каб большэвіцкім правядзеннем веснавой сяўбы пачаць бурны ўздым усіх галін сельскай гаспадаркі Совецкай Беларусі.**

Паглядзім, у якім-жа становішчы знаходзіцца падрыхтоўка да вясенне-пасеўнай кампаніі, у якой меры райкомы партыі, палітаддзелы, зямельныя органы выкарыстоўваюць усе магчымасці і ўмовы,

каб веснавую сяўбу правесці яшчэ з большымі поспехамі ў параўнанні з мінулым годам.

У размяшчэнні планаў яравога кліна па раёнах МТС і паасобных калгасах значная розніца ў параўнанні з мінулым годам, калі канчатковы план яравога кліна быў спушчан у раёны ў канцы сакавіка-пачатку красавіка, а ў калгасы папаў яшчэ пазней. У радзе раёнаў і калгасаў план даведзен быў без уліку канкрэтных асаблівасцей кожнага з іх. Выходзілі з механічнага размеркавання лічб, зацверджаных Масквой.

У гэтым годзе пасеўныя планы прапрацаваны былі з усімі раёнамі і ў больш раннія тэрміны (студзень). Аднак, пры прапрацоўцы планаў яравой сяўбы па МТС сустрэлася вялікае напружанне. Агульная лічба ў 1.371.000 га яравога кліна па калгаснаму сектару і 980.000 га па аднаасобнаму не магла не прывесці да нізкага процанта папару (1—2) у радзе раёнаў і МТС. Паасобныя МТС, як Буда-Кашалёўская, зусім не маюць паравога кліна, Слуцкая—1,1 проц., Узденскі раён—2,4, Капыльскі—3,7, Старадарожскі—0,2.

Не гледзячы на ўважлівую прапрацоўку НКЗ БССР планаў яравога кліна, усё-ж дапушчан быў рад памылак.

Агульны стан яравога кліна па БССР, асабліва калгаснага сектара, выклікае рад сур'ёзнейшых апасенняў за далейшую ўраджайнасць калгасных палёў. 6.6 процантаў папару ў сярэднім па калгаснаму сектару Беларусі прыводзіць да таго, што ў радзе МТС і раёнаў азімы пасеўны клін прыдзецца размяшчаць па недапушчальных папярэдніках. Некаторыя раёны і МТС бачаць выхад у зніжэнні плана яравога кліна.

Гэта напружанасць можа і павінна быць змякчона сапраўды большэвіцкім асваеннем новых зямель. У бягучым годзе па БССР павінна быць планава асвоена 115.000 га. План асваення новых зямель у мінулым годзе па сутнасці быў сарваны: з 60.000 га паднята толькі 23.000. Таму зараз трэба з усёй большэвіцкай настойлівасцю ўзяцца за выкананне плана. Справай гонару для кожнага райкома, райза, палітаддзела і МТС павінна стаць выкананне плана ўзрыва цаліны.

Другі сродак змякчэння напружанага становішча з яравым клінам—гэта далейшая большэвіцкая работа сярод аднаасобнікаў і калектывізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі. Трэба сказаць, што за апошні час рад раёнаў і палітаддзелаў не надавалі справе калектывізацыі таго вялікага значэння, якое яна для нас мае. Паасобныя раёны пашлі па лініі самацёку. Работа з аднаасобнікам, падрыхтоўка яго да веснавой сяўбы, да ўступлення ў калгас была вельмі і вельмі нязначнай. І толькі ў перыяд прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б мы маем у гэтай галіне некаторае ажыўленне.

За гэты кароткі адрэзак часу ў калгасы зоны 8 МТС— Телушскай, Буда-Кашалёўскай, Дамanавіцкай, Чаўскай, Старобінскай, Капыльскай, Магілеўскай, Расонскай—улілося 936 гаспадарак. Найбольш узорны прыклад работы па калектывізацыі сельскай гаспадаркі паказвае палітаддзел Хойніцкай МТС. Ён здолеў узначаліць тую хвалю, якая наглядаецца ў перыяд прапрацоўкі рашэнняў з'ездаў сярод аднаасобнікаў. За гэты перыяд у калгасы зоны Хойніцкай МТС улілося 250 гаспадарак, тым часам як у калгасы не яе зоны ўступіла толькі 60 гаспадарак. У калгас «Чырвоны араты» (вёска Навасёлкі) у першы дзень прапрацоўкі даклада т. Сталіна ўступіла 29 гаспадарак і на другі дзень—34. Ясна, што палітаддзел здолеў узначаліць

гэтую справу і разгарнуць шырокую работу сярод аднаасобнікаў. Па іншых раёнах і МТС (Лёзненская, Полацкая) за гэты перыяд амаль няма прыліву, а ў паасобных калгасах нават адліў. Тут, як відаць, паклаліся на самацёк. Работа сярод аднаасобніка, падрыхтоўка яго да ўступлення ў калгас не вядзецца.

У час падрыхтоўкі да вясенне-пасеўнай кампаніі трэба шырока разгарнуць работу, здолець па-большэвіцку арганізаваць і павесці аднаасобніка ў калгасы.

Поўнае выкананне планаў ворыва новых зямель, прыліў аднаасобных гаспадарак у калгасы безумоўна палегчыць размяшчэнне планаў азімай сяўбы. Землі ўліўшыхся ў калгасы аднаасобных гаспадарак створаць спрыяючыя ўмовы для ўстанаўлення севазваротаў. За гэта павінны асабліва змагацца адстаючыя ў калектывізацыі раёны.

Без большэвіцкай барацьбы за выкананне плана ворыва новых зямель, без далейшага прыліву аднаасобнікаў у калгасы, устанаўленне правільных севазваротаў у 1934 г. будзе сарвана. **Гэта цвёрда павінны памятаць усе РК і палітаддзелы, земорганы і калгасы.** Таму асваенне 115.000 га новых зямель з'яўляецца **вялікай палітычнай задачай,** выкананне якой—справа гонару ўсёй партарганізацыі БССР.

* * *

5/III у «Праўдзе» апублікован гадавы вытворчы план калгаса. Гэты план з'яўляецца яркім узорам таго, як трэба планаваць работу. У яснай, чоткай форме паданы прынцыпы соцыялістычнага планавання. Таму зараз-жа трэба падрыхтавацца да складання вытворчага плана ў калгасе, каб своечасова давесці яго да брыгады, да кожнага калгасніка і калгасніцы, бо інакш—грош яму цана. Работу трэба арганізаваць так, каб усе людзі ў брыгадзе былі поўнасцю выкарыстаны і правільна расстаўлены разам са сродкамі вытворчасці. У гэтым уся сутнасць. Пры расстаноўцы павінны быць улічаны здольнасці кожнага калгасніка і калгасніцы, што палегчыць перамогу ў вясенне-пасеўнай кампаніі. Кожны з іх пры выхадзе ў поле павінен цвёрда ведаць, што ён будзе рабіць, за што адказваць, бо ў гэтым і толькі ў гэтым залог поспехаў.

Як-жа рыхтуюцца калгасы да веснавой сяўбы, ці сустракаюць яе ва ўсеўзбраенні?

Возьмем падрыхтоўку да складання вытворчых планаў. Упарта паўтараецца леташняя памылка, калі рад калгасаў зацягнуў складанне планаў да самай сяўбы. Сёлета гэтага нельга цярпець. Мала находзе сказаць, што калгас ёсць буйная гаспадарка і не можа працаваць без плана. Гэта будзе пустой балбатнёю. Уважлівая падрыхтоўка да сяўбы, да складання і распрацоўкі брыгаднага пасеўнага плана—справа ўсяго калгаса, усіх калгаснікаў і калгасніц. Таму старшыні калгасаў павінны зараз-жа па-баявому і аперацыйна заняцца вытворчым планаваннем, правільнай расстаноўкаю людзей і сродкаў вытворчасці.

Побач з рамонтам трактарнага парка, палітаддзелы і райкомы ўдзялілі вялікую ўвагу сельгасінвентару як у МТС, так і ў калгасах.

У Лёзне сеялак адрамантавана 78 проц., плугоў 76 проц. У Капылі сельгасінвентар МТС на 1 сакавіка поўнасцю адрамантаван, па калгасах плугоў адрамантавана 100 проц., сеялак 83,9 проц., боран 100 проц., вупражы 100 проц. Па ўсіх калгасах праводзіцца масавая праверка аховы, змазкі сельгасінвентара і поўнай гатоўнасці яго да сяўбы. Вопыт масавага праверачнага выезду ў поле паказаў гатоў-

насць гэтых калгасаў. У радзе-ж іншых калгасаў сельгасінвентар знаходзіцца ў агіднейшым стане. Устаноўлены факты, калі інвентар яшчэ з мінулага году валяецца ў полі і занесен снегам.

Напрыклад, у калгасе «Соц. паказчык» Крычаўскага раёна (старшыня Сцепанаў) інвентар раскідан па двары, іржавее, занесен снегам. Гэтаму калгасу не будзе з чым выехаць у поле. Таму зараз асабліва востра перад усімі калгасамі, перад кожным калгаснікам і калгасніцай стаіць баявая задача: прыняць актыўнейшы ўдзел у праверцы гатоўнасці да сяўбы, поўнай спраўнасці сельгасінвентара.

На палях Беларусі будзе сёлета працаваць магутны парк—больш як з 4.000 трактароў. І ўсё-ж рэзультат і поспех веснавой сяўбы будзе вырашаць конь.

Гутаркі аб тым, што трактар ўсё нам зробіць, што час каня ўжо мінуў—кулацкая балбатня. Іншыя думаюць: раз партыя, совецкая ўлада дала такі магутны трактарны парк, то можна аб кані і не клапаціцца. Такія настроі іграюць на руку кулаку, які моцна агітуе, што трактар усё зробіць, час каня прашоў, што няма патрэбы рыхтаваць да веснавых работ здаровага, у добрым целе каня. Калгаснікі і калгасніцы павінны нанесці руйнуючы ўдар па гэтай кулацкай агітацыі і настроях у сваім асяроддзі, не змяншаць, а павялічваць клопаты аб кані, памятаючы, што перамога ў веснавой сяўбе будзе залежаць ад яго добрай падрыхтаванасці.

Сотні калгасаў уразумелі гэту простую ісціну. Конюхі калгасаў імя Молатава, «Перамога», «Трэці рашаючы» (Віцебшчына) не шкадуючы ні сіл, ні часу, клапоцяцца аб кані. Усюды адчуваецца гаспадарчае вока. У стайні парадак, няма скразняка, шчыліны заканапачаны, корм не валяецца пад нагамі, выдаецца рэгулярна і па нормах. Каня акуратна чысцяць шчоткай. Ад такога догляду ён сыты, здаровы, чысты. Ясна, што такі конь будзе працаваць у вясенне-пасеўную без адказу.

А ці ўсюды гэта так?

Возьмем зноў калгас «Соц. паказчык», які мае 31 рабочага каня і адну галаву маладняка: 15 з іх у целе ніжэй сярэдняга адкорму, 17 сярэдняга. У чым-жа прычына?

Многія прабуюць апраўдаць напружанасцю работы, недахватам коняй, кармоў і радам іншых прычын. Але ці так усё гэта? Пачнем з таго-ж калгаса. Стайня халодная, вакол шчыліны—прастор для скразнякоў. Коні застуджваюцца, хварэюць. А хіба-ж нельга ацяпліць стайню, заканапаціць шчыліны хоць-бы саломай? Безумоўна, можна. Ужо чаго-чаго, а саломы заткнуць шчыліны хопіць у кожным калгасе. Гной са станкоў не вымятаецца, за кормам не глядзяць, у рэзультаце ён трапляе каню пад ногі, топчацца. Як толькі адлега— у станках мокра, коні стаяць у брудзе. Коняй ніколі не чысцяць шчоткай.

А рэзультат сумны—коні ўшывыя, заражаны экземай. Але ніхто і не думае аб рашучых мерах, коні як і раней стаяць усе разам.

У калгасе «КІМ», Капыльскага раёна, 9 кабыліц з 12 ужо абартавалі. Ясна, што такі конь не работнік. А паправіць справу пры жаданні можна. Трэба толькі палепшыць догляд, поўнасцю і з толкам выкарыстаць кармы, роўнамерна нагружаць здаровых коняй, а хворых, слабасільных на час аслабаніць ад работы. Трэба таксама праверыць стан браніяваных кармоў як грубых, так і канцэнтратаў, памятаючы, што калгас ні ў якім разе не мае права выкарыстаць гэтыя кармы да пачатку вясенне-пасеўнай кампаніі.

Рад палітаддзелаў здолеў ужо мабілізаваць калгасы на падрыхтоўку каня. Лёзненская МТС для ўсяго конскага пагалоўя калгасаў сваёй зоны забраніявала кармавыя фонды; на 1 сакавіка 76 проц. коняй—сярэдняй упітанасці, 560 коняй пастаўлена на папраўку. Капыльская МТС, за выключэннем 5 калгасаў, поўнасцю забяспечыла на ўсю веснавую сяўбу конскае пагалоўе як канцэнтратамі, так і грубымі кармамі. Пераважная большасць коняй сярэдняй і добрай упітанасці. Па 5 адзначаных калгасах прымаецца рад тэрміновых мер: праводзіцца абмен бульбы на грубыя і канцэнтраваныя кармы для коняй і інш.

Зараз павінна быць шырока, усёй калгаснай масай, разгорнута праверка гатоўнасці каня і наяўнасці браніяваных кармоў.

* * *

У гэтым годзе насенныя фонды ў большасці калгасаў БССР своечасова і поўнасцю былі засыпаны, аднак рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб праверцы насення на ўсходжасць як след не выконваецца Капыльская, Лёзненская, Буда-Кашалёўская, Бягомельская і рад іншых МТС паказалі недапушчальную ўсходжасць: пшаніца, ячмень, авёс—50—60 проц. Праверкай насення выяўлена вялікая засмечанасць паасобных зернавых культур. Зараз прыходзіцца гэтае насенне прапускаць праз трыер.

З міжкалгасным абменам справа таксама нездавальняюча. Паводле няпоўных даных на 20 лютага, па Лагойскай МТС абменена толькі 26 проц., Танежыцкай 40,8 проц., Старобінскай 34,5 проц., Полацкай 28 проц., Мсціслаўскай 24 проц. насення. Гэтыя лічбы сведчаць аб тым, што палітаддзелы і райкомы не выкарысталі ўсіх магчымасцей для шырокага міжкалгаснага абмену яравых зернавых культур, што трэба тэрмінова выправіць.

Не лепш з выкананнем плана сартавога абмену з дзяржаўных фондаў. Вялікая засмечанасць, нізкая ўсходжасць насення выклікае сур'ёзны непакой за будучы ўраджай. Зараз ужо кожнаму калгасніку і калгасніцы вядома, што ад пратручвання, чыстаты і высокай ўсходжасці насення залежыць высокі ўраджай. Каб дабіцца высокіх якасцей насеннага матар'ялу, патрэбна старанная, уважлівая падрыхтоўка яго да сяўбы.

За гэтую справу павінны ўзяцца ў першую чаргу самі калгаснікі: арганізаваць прасушку вільготнага зярна, пералапачванне яго, праверку на ўсходжасць. Трэба прыцягнуць сюды і спецыялістаў аграномаў, старых калгаснікаў, якія маюць вялікі вытворчы вопыт і веды ў насенні.

Не меншую ўвагу трэба ўдзяліць захаванасці насеннай бульбы. Пры праверцы калгасаў Капыльскай МТС ва многіх устаноўлена добрае захоўванне бульбы, толькі ў адным выяўлена 300 пудоў мёрзлай па віне брыгадзіра, які засыпаў бульбу мокрую. Гэтага брыгадзіра аддалі пад суд. У калгасе «Большэвік» Лёзненскай МТС выяўлена 500 пуд. мёрзлай бульбы. Гэтыя факты вымагаюць неадкладна арганізаваць праверку захаванасці бульбы па ўсіх калгасах.

Нарэшце ад падрыхтаванасці людзей, ад правільнай расстаноўкі і размеркавання сіл у калгасе, з улікам здольнасці кожнага калгасніка і калгасніцы, будзе залежаць і паспяховае правядзенне веснавой сяўбы.

Сёлета як ніколі шырока разгорнута была сець розных курсаў пры МТС і райза. За зімні перыяд праз іх прашло 28 551 чал. калгаснікаў і калгасніц. Што-ж далі гэтыя курсы? У першую чаргу пад-

нялі агульны культурны ўзровень, асабліва калгасніц, упершыню шырока ахапілі аграноміяй вялікія масы калгаснікаў.

У капіталістычных краінах, як і раней, агранамічная навука даступна толькі памешчыцкім ды кулацкім гаспадаркам, селянін-жа не мае ніякай магчымасці прымяніць яе да свайго кавалка зямлі,— у Совецкім саюзе агранамічная навука з кожным гадам усё больш і больш укараняецца ў шырокіх слаях калгаснікаў і калгасніц. Зімовыя курсы дапамагалі тысячам калгаснікаў і калгасніц паступова аўладаць аграноміяй і прымяняць яе ў сваёй штодзеннай практычнай рабоце. Першачарговая задача ўсіх скончыўшых курсы—скарыстаць набытыя веды ў калгаснай вытворчасці, перадаючы іх у практычнай рабоце таварышам, якія яшчэ не прашлі тэтых курсаў.

Асаблівасці і ўмовы падрыхтоўкі да сёлетняй веснавой сяўбы гавораць за тое, што мы можам дабіцца высокіх паказчыкаў. Возьмем тэрміны сяўбы. Штогод краіна траціла ад іх зацяжкі мільёны цэнтнераў зярна. Значыць, на адным толькі правядзенні ў тэрмін веснавой сяўбы з добрай якасцю мы можам мець дадатковыя хлебныя рэсурсы, адсюль—дадатковыя кілограмы зярна на працадзень калгасніка і калгасніцы, а гэта значыць новы крок да заможнага, культурнага жыцця. Своечасовае і добраякаснае правядзенне веснавой сяўбы—справа гонару кожнага калгаса, кожнага калгасніка і калгасніцы. Ганьба для іх—зацяжка сяўбы, бо ўсе магчымасці і ўмовы для правядзення яе ў найкарацейшы тэрмін у нас ёсць. Сёлета не можа быць такога калгаса, калгасніка ці калгасніцы, якія-б не былі ўцягнуты ў соцспаборніцтва.

Для гэтага патрэбна шырокая масавая работа. Соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам паміж калгасамі, брыгадамі, звеннямі, індывідуальным спаборніцтвам павінны быць ахоплены ўсе калгаснікі і калгасніцы. **Урэшце, пры правядзенні веснавой сяўбы і падрыхтоўцы да яе трэба шырока разгарнуць соцспаборніцтва як паміж самімі палітаддзеламі, так і паміж палітаддзеламі і раённымі камітэтамі партыі, што на жаль яшчэ не практыкуецца ў нашай рабоце.**

Праверка і пробныя выезды калгасаў у поле паказалі, што рад райкомаў партыі некалькі адсталі ад палітаддзелаў. Так, у Капыльскім раёне 20 лютага палітаддзел правёў агляд гатоўнасці калгасаў да сяўбы, тым часам як агляд калгасаў не зоны МТС яшчэ не пачынаўся. Таму спаборніцтва палітаддзелаў з раённымі камітэтамі партыі павінна вышэй узняць усю нашу работу як па падрыхтоўцы, так і правядзенню сяўбы.

Аднак, арганізацыйнае афармленне соцспаборніцтва, праверка рэзультатаў яго, такія магутныя рычагі як заахвочванне лепшых ударнікаў, прэміі, чырвоная і чорная дошкі, адметныя сцяжкі—набытак далёка не ўсіх калгасаў. На гэтую справу трэба звярнуць зараз максімум увагі.

Таксама аб стварэнні ўмоў для чоткай і бесперабойнай работы палявых брыгад у полі, асабліва для жанчын-калгасніц—падрыхтоўка ясель, калгасных сталовак, падвозка харчоў у поле—аб усім гэтым ужо зараз павінна паклапаціцца праўленне калгаса.

З калгаса «Профінтэрн», Путчынскага сельсовета, калгасніцы паведамляюць, што ў іх для работы жанчын у калгаснай вытворчасці зроблена ўжо не мала: падрыхтован ясельны фонд у 130 пуд. зерневых і 100 пуд. бульбы, памяшканне. Яслі ў гэтым годзе будуць пашыраны, створаны ўмовы для забяспечання калгаснікаў і калгасніц харчаваннем з калгаснай сталоўкі.

Бясспрэчна, што падрыхтоўка і правядзенне веснавой сяўбы будзе праходзіць у абставінах жорсткай класавай барацьбы. Кулацкія недабіткі, рэшткі разгромленай контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны вядуць барацьбу, накіраваную на зрыў паспяховага правядзення веснавой сяўбы. Было-б недапушчальнай і грубай памылкай лічыць, што падрыхтоўка і правядзенне веснавой сяўбы пройдзе гладка, без кулацкага супраціўлення. Рэволюцыйная класавая пільнасць нашых партыйных і комсамольскіх арганізацый, шырокіх слаёў калгаснікаў і калгасніц павінна быць узнята на больш высокую ступень. Умець своечасова выкрыць манеўры класавага ворага, яго новыя метады барацьбы супроць калгаснага ладу, супроць дыктатуры пролетарыята—задача кожнага комуніста, кожнага чэснага калгасніка і калгасніцы.

Аб абвостранай класавай барацьбе сведчыць рад такіх фактаў: у Рэчыцкім, Лёзненскім, Барысаўскім і іншых раёнах аднаасобнікі рэжуць жывёлу, разбазарваюць насенне. Кулак агітуе аднаасобніка рэзаць жывёлу і разбазарваць насенне, бо і без іх, моў, прымуць у калгас. Гэтай кулацкай барацьбе супроць калгасаў паасобныя нашы партыйныя арганізацыі своечасова не даюць рашучага адпору.



Па-новаму ў гэтым годзе павінна быць пастаўлена партыйна-масавая работа. Работа партыйных калгасных ячэек, кандыдацкіх груп, комсамольскіх ячэек, парторгаў павінна быць перанесена ў поле, брыгаду, звяно.

Перабудова партыйнай арганізацыі спрыяла расшырэнню сеці партыйных адзінак, наблізіла комуністаў да калгаснай вытворчасці, аднак малалікасць нашай вясковай партыйнай арганізацыі часта затрудняе разварот партыйна-масавай работы ў час сяўбы.

Так, на 1380 калгасаў па 25 МТС налічваецца толькі 371 партыйная адзінка, з іх: 66 партыйных ячэек, 44 кандыдацкія групы, 261 парткомсамольскае ядро, плюс 265 комуністаў-адзінак. Значыць, комуністаў маем толькі ў 636 калгасах з 1380. Не лепш і ў калгасах не зоны МТС. Непасрэдна ў полі, брыгадзе па гэтых 25 МТС з агульнай колькасці комуністаў працавала толькі 254 чал., прычым на 2500 брыгад парторгі былі толькі ў 111 брыгадах. **Стан партыйнай сеці, з якою мы ўступаем у веснавую пасеўную кампанію, патрабуе безадкладнага перагляду ўсіх нашых партыйных сіл і новай расстаноўкі іх.**

Леташні вопыт паказаў, што наяўная колькасць комуністаў не заўсёды правільна была расстаўлена, рашаючыя ўчасткі калгаснай вытворчасці вельмі часта заставаліся без партыйнага кіраўніцтва. Гэтых памылак не павінна быць сёлета. Райкомам партыі, палітаддзелам трэба зараз-жа прыступіць да правільнай расстаноўкі наяўнай невялікай колькасці партыйных сіл: **кінуць іх на рашаючыя ўчасткі сяўбы—у брыгаду.** У гэтым і толькі ў гэтым—зарука поспеху сяўбы. Перастаноўка і пераразмеркаванне партыйных сіл патрабуе ад палітаддзелаў гібкага і чоткага кіраўніцтва імі непасрэдна ў полі, у брыгадзе. Задачы ў рабоце комуністаў значна выраслі. Апрача ўдарнай работы на вытворчасці, у брыгадзе, комуніст павінен узначаліць і павесці за сабой усіх калгаснікаў і калгасніц на барацьбу за большэвіцкае правядзенне веснавой сяўбы, за высокую якасць работ.

Дасягнуць гэтага можна толькі пры ўмове шырокага развароту

партыйна-масавай работы ў брыгадзе, звяне, ахопу ўсіх калгаснікаў і калгасніц соцыялістычным спаборніцтвам. **Штодзенныя кароткія вытворчыя нарады ў брыгадзе, звяне, брыгадная газета, палітгадзіна, чытка газет,** якія ў мінулым годзе адыгралі вялікую ролю ў павышэнні працоўнай дысцыпліны, павінны і ў гэтую пасеўную кампанію таксама, як і на працягу ўсяго года, заняць пачэснае месца. Задача кожнага комуніста і комсамольца па-большэвіцку арганізаваць і ўзначаліць гэтую работу.

Асоба неабходна спыніцца на ролі райза. Практыка мінулых год паказвае, што райза з аперацыйнага штаба ператвараюцца ў простых рэгістратараў ходу веснавой сяўбы. Прычына ў тым, што большасць РК і РВК на практыцы заціраюць ролю райза. Фактычна змазваюць іх работу, забіваючы ініцыятыву. Такія факты маюць месца ў большасці раёнаў. З другога боку, што асабліва трэба падкрэсліць, кадры кіраўнікоў райза слабыя, бо да ўкамплектавання іх скрозь і ўсюды падыходзілі фармальна, не ўлічваючы ведаў сельскай гаспадаркі. Здаралася, што на такі сур'ёзны ўчастак садзілі чалавека, які не толькі не мог кіраваць сельскай гаспадаркай у раёне,—яму нельга было даверыць кіраўніцтва нават брыгадай. Зусім правільна крытыкаваў правадыр нашай партыі т. Сталін на XVII з'езде партыі работу зямельных органаў. Як саюзны НКЗ, так і НКЗ Беларусі сваім канцэлярска-бюракратычным кіраўніцтвам паказвалі прыклад, як не трэба кіраваць.

Не гледзячы на рад указанняў ЦК партыі аб вывучэнні кадраў зямельных работнікаў, у гэтым напрамку абсалютна нічога не робіцца. НКЗ Беларусі канкрэтна не ведае раёнаў, не знаём з кіраўнікамі райза. Справа даходзіць часам да кур'ёзных фактаў, асабліва калі прыходзіцца даваць якія-небудзь указанні аб плане веснавой сяўбы, вывазцы ўгнаення і т. д. Чым раней зямельныя органы прыступяць да практычнай рэалізацыі ўказанняў правадыра партыі, тым будзе лепш для іх, бо калі яны гэтага не зробяць, партыя праз іх галаву возьмецца за перабудову зямельнага апарата, каб забяспечыць паспяховае выкананне плана веснавой сяўбы. Было-б смешна думаць, што патрэбны яшчэ нейкія ўказанні вышэйшых арганізацый аб перабудове работы зямельных органаў пасля ясных, чоткіх і канкрэтных указанняў т. Сталіна ў справаздачы на XVII з'ездзе і т. Кагановіча. Уся справа залежыць зараз выключна ад работнікаў зямельных органаў, ад перабудовы іх работы.

Нельга забываць таго, што справа ідзе не аб фармальнай перастаноўцы людзей з аднаго месца на другое, а аб карэннай змене зместу работы так, каб НКЗ Беларусі і ўся яго сістэма несла поўную адказнасць за даручаную справу. РК і РВК павінны дапамагчы ў камплектаванні і рэарганізацыі работы райза, ствараючы ім неабходныя ўмовы і аўтарытэт, калі яны гэтага заслугоўваюць, кінуўшы старую практыку ператварэння райза ў простых рэгістратараў.

На гэты ўчастак работы неабходна перакінуць лепшых работнікаў раёна і цэнтра.

У заключэнне яшчэ раз трэба падкрэсліць, што ўсе ўмовы для паспяховага правядзення сяўбы ў нас ёсць. Трэба толькі, каб раённыя камітэты партыі, начпалітаддзелаў МТС і земорганы арганізавалі калгасную масу, дабіліся высокай якасці работы, укаранення аграрэхнічных мерапрыемстваў у кожным калгасе, брыгадзе, да канца разграміўшы падрыўную кулацкую агітацыю.

Стырнэ і Жукаў

# За здаровы трактарны парк

Тав. Сталін гаворыць: «наяўнасць трактарнага парка, трактароў, і машын абавязвае здавалася-б зямельныя органы трымаць гэтыя каштоўныя машыны ў парадку, своечасова іх рамантаваць, выкарыстаць іх на рабоце больш-менш зносна. Што-ж робіцца імі ў гэтай галіне? На жаль, вельмі мала. Ахова трактароў і машын нездавальняючая. Рамонт таксама нездавальняючы, бо да гэтага часу яшчэ не хочуць зразумець, што аснову рамонту складае багучы і сярэдні рамонт, а не капітальны».

Гэта ўказанне т. Сталіна як нельга лепш характарызуе стан трактарнага парка БССР. Праз капітальны рамонт сёлета прыходзіцца прапускаць вялікі процант трактароў. Гэта рэзультат бюракратычна-канцэлярскай работы органаў Наркамзема, Упоўнаркамсоўгасаў, безадказных, **а часам яўна шкодніцкіх адносін паасобных дырэктароў МТС, механікаў і механізатараў, якія пераводзілі трактары ў капітальны рамонт нават і тады, калі ў гэтым не было патрэбы.**

Вось некаторыя прыклады:

Шклоўская МТС прызначыла ў капітальны рамонт 40 трактароў, у сапраўднасці-ж толькі 32 трактары патрабавалі капітальнага рамонту, а 8 сярэдняга. Горацкая МТС паказала 37, на справе-ж капітальнага рамонту патрабуюць 26 трактароў, сярэдняга—11. Чэрыкаўская МТС паказала 57, з іх толькі 46 трактароў патрабуюць капітальнага, 11 сярэдняга. Той-жа малюнак у Бешанковіцкай, Дзяржынскай і радзе іншых МТС і соўгасаў.

Наркамзем і Упоўнаркамсоўгасаў не праверылі фактычнага становішча кожнага трактара, кожнай машыны і пры складанні плана рамонту абмежаваліся звесткамі з МТС і соўгасаў, хоць многія з іх былі зусім няправільны, як гэта адзначана вышэй. Рад работнікаў МТС і соўгасаў, каб атрымаць чым больш запасных частак і матар'ялаў, давалі звесткі аб капітальным рамонце трактара, пры фактычнай патрэбе ў сярэднім і бягучым. Не мала вінаваты ў гэтым Наркамзем і Упоўнаркамсоўгасаў, якія бюракратычна аднесліся да своечасовай мабілізацыі і расстаноўкі тэхнічнай сілы.

У пастанове Совета Працы і Абароны СССР ад 21 верасня 1933 г. за № 827, ясна сказана:

«Капітальны рамонт трактароў праводзіцца не раней гадавога тэрміну работы новага трактара ці гадавога тэрміну пасля выхаду трактара з капітальнага рамонту, з тым каб агульная колькасць праводзімых капітальных рамонтаў трактарнага парка за календарны год не перавышала 50 проц. яго наўнасці на пачатак календарнага года. Сярэдні рамонт трактароў праводзіцца не часцей двух раз паміж капітальнымі рамонтамі. Бягучы рамонт праводзіцца па меры неабходнасці, але не радзей аднаго разу пасля 600 гадзін работы».

Здавалася-б, што работнікі і кіраўнікі органаў Наркамзема і Ўпоўнаркамсоўгасаў, а таксама дырэктары МТС і соўгасаў павінны былі кіравацца гэтай пастановай урада і выканаць яе як належыць. Аднак капітальны рамонт праходзіць у нас не 50, а 82,7 проц. трактароў, а на долю сярэдняга прыпадае нязначная колькасць—11,8 проц.

Трактарны парк БССР значна зношан, дзякуючы безгаспадарчым, варварскім адносінам да эксплаатацыі машын. Належнага бягучага і сярэдняга рамонту ў перыяд палявых работ і на працягу цэлага года, у адпаведнасці з часам і нагрузкай на кожны трактар, большасць МТС не выконвала. Вось чаму такі вялікі процант машын трактарнага парка патрабуе цяпер капітальнага рамонту, які трэба правесці ў найкарацейшы тэрмін. Паводле даных на 15 сакавіка 1934 г. капітальны рамонт прашло 87,7 проц., сярэдні 63,5 проц., а ўсяго разам адрамантавана 85,2 проц. трактароў. Упоўнаркамсоўгасаў на гэтую дату правёў капітальны рамонт 78,9 проц. трактароў, сярэдні—77,0 проц. Аналіз даных па асобных зонах і кожнай МТС дае яшчэ горшы малюнак.

Па бульбяна-гародніх раёнах на 15-III праведзен агульны рамонт на 95,4 проц. Менскі, Гомельскі, Магілёўскі, Заслаўскі, Буда-Кашалёўскі, Клічаўскі, Рагачоўскі і Телушскі раёны закончылі рамонт на 100 проц. Аднак і па гэтай зоне адстаюць МТС: Барысаўская—69,6 проц., Путчынская 57,1 проц., Оршанская—80,8 проц. Па зернавой зоне план выканан на 92,0 проц. Плешчаніцкі, Слуцкі, Старадарожскі, Старобінскі, Лельчыцкі і Любаньскі раёны план рамонту закончылі на 100 проц. Па гэтай зоне ганебна адстаюць МТС: Глуская—66,7 проц., Пухавіцкая 73,3 проц., Лагойская—71,4 проц. Асабліва-ж ганебна і нават злачынна адстаюць ільнаводныя раёны, дзе план выканан толькі на 81,7 проц. У гэтай зоне толькі адна Бялыніцкая МТС выканала рамонт трактароў на 100 проц. Злачынна зрываюць рамонт Лёзненская МТС—58,0 проц., Дубровенская—27,5 проц., Суражская—65,4 проц., Сенненская—61,8 проц. і Шклоўская—75,0 проц.

Тлумачыцца гэта, па-першае, тым, што кіраўнікі партыйных арганізацый, РВК, МТС і палітаддзелы МТС адстаючых раёнаў не хочуць зразумець, што іх адставанне ў рамонце трактарнага парка зрывае падрыхтоўку да веснавой пасеўнай кампаніі, што яны цягнуць усю рэспубліку назад, хоць магчымасці маюць ніколькі не горшыя ў параўнанні з раёнамі, якія выканалі рамонт на 100 проц. Гэтым самым БССР адстае ў сваіх тэмпах у соцспаборніцтве з Заходняй областцю, якая на 15-III выканала план рамонту на 94,9 проц., Чарнігаўская—на 91,1.

Па-другое, Наркамзем, Трактарацэнтр і Упоўнаркамсоўгасаў не ведаюць сапраўднага стану трактарнага парка, асабліва ў адстаючых раёнах. Блытаніна ў планаванні рамонту трактароў па Наркамзему выразна аб гэтым сведчыць.

Паводле звестак Наркамзема СССР, у цэнтральным друку—«Праўде» і «Известиях» апублікаваны адны проценты выканання плана рамонту трактароў па БССР, а па звестках Наркамзема БССР у мясцовым друку і ў зводках, прадстаўляемых у ЦК КП(б)Б, СНК БССР і іншыя арганізацыі БССР, значацца зусім другія лічбы.

Так, у зводцы № 13 Наркамзема СССР, апублікаванай у «Праўде» ад 21/II-34 г., указана, што ў БССР па сістэме Наркамзема БССР план капітальнага рамонту трактароў на 15/II-34 г. выканан на 100 проц. і сярэдняга на 16,3 проц. У зводцы-ж Наркамзема БССР, прадстаўленай у ЦК КП(б)Б, СНК БССР і іншыя арганізацыі, лічылася 54 проц. капітальнага рамонту і 61—сярэдняга. Такім чынам НКЗ

СССР кіруецца адным планам рамонту трактароў, а НКЗ БССР другім. Блытаніна НКЗ БССР з планаваннем прывяла да таго, што пасобныя МТС не забяспечаны неабходнымі крэдытамі і грашовымі сродкамі для рамонту трактароў, не могуць выкупіць запчасткі, а з МТМ адрамантаваныя трактары (Смалявіцкая, Пухавіцкая і рад іншых МТС).

Да 15 лютага Наркамзем зусім не кіраваў рамонтам 102 трактароў калгасаў не зоны МТС, хоць яны і былі адзначаны ў планах. Работнікі рамонтнага кіраўніцтва НКЗ успомнілі пра іх толькі тады, калі ЦК партыі пачаў праверку. Але дзе і хто рамантуе адзначаныя 102 трактары Наркамзем не можа пакуль што высніць. Блытаніна з планам рамонту, наяўнасць у НКЗБ трох планаў сведчыць аб тым, што Наркамзем, Трактарацэнтр і Ўпоўнаркамсоўгасаў з самага пачатку рамонтнай кампаніі пусцілі гэтую справу на самацёк, арганізацыяй і праверкай ходу рамонту, расстаноўкаю рабочай сілы і спецыялістаў па МТМ і МТС, соцыялістычнымі метадамі работы канкрэтна і аперацыйна не займаліся. У рамонтных майстэрнях былі прастоі з-за адсутнасці запчастак і рабочай сілы (Полацкая, Оршанская, Даманавіцкая і інш.). У сувязі з гэтым БССР, у параўнанні з іншымі перадавымі абласцямі і рэспублікамі СССР, значна адставала ў тэмпах рамонту трактарнага парка.

Але цяпер, калі НКЗ СССР павялічыў процант трактароў капітальнага рамонту да 65, НКЗ БССР і Ўпоўнаркамсоўгасаў у адпаведнасці з дырэктывамі ЦК КП(б)Б узяліся сапраўды па-баявому кіраваць гэтай справай. Ёсць ужо зрух, але недастатковы. Трэба ўпартай штодзеннай аперацыйнай работай дабіцца своечасовага завяршэння рамонту трактарнага парка ў тэрміны, устаноўленыя ЦК і СНК БССР.

Забяспечыць запаснымі часткамі і матар'яламі, наладзіць фінансаванне рамонтных майстэрань і ўстанавіць найстражэйшы кантроль выканання і канкрэтнага аперацыйнага кіраўніцтва—вось чаго з самага пачатку кампаніі патрабаваў Цэнтральны Камітэт КП(б)Б ад сістэмы зямельных органаў, ад партыйных і советскіх арганізацый, ад сакратароў парткомаў, райкомаў, начальнікаў палітаддзелаў, дырэктароў МТС і МТМ. Але яны не ўлічвалі гэтых указанняў, не спускаліся непасрэдна ў майстэрні да станка, трактара, трактарыста, абмяжоўваючыся кіраўніцтвам наогул.

Каб закончыць рамонт у тэрмін, мы мелі даволі матар'ялаў і запчастак, за выключэннем некаторых больш складаных, якія не выпрацоўваюцца на заводах БССР. А што атрымалася? Многія МТМ і МТС скардзіліся на тое, што няма запчастак, няма бабіта, бо часта МТС і соўгасы пасылалі свае трактары ў рамонт, пакідаючы ў сябе пра запас патрэбныя для рамонту матар'ялы (соўгас імя Блюхера, «Гробава», «Васільеўка» і інш.).

А што з бабітам? Паводле афіцыяльных даных Белдзяржснаба і Соўгасснаба на 15/II-34 г. бабіта «Б. І.» атрымана, разам з астачай ад летняга рамонту, 3 539 кгр., бабіта «Б. 2»—1909 кгр., а разам па НКЗБ бабіта «Б. І.» і «Б. 2»—5 448 кгр., а па Ўпоўнаркамсоўгасаў атрымана бабіта «Б. І.» 1 039 кгр. Такім чынам бабіта было даволі, каб закончыць рамонт усяго трактарнага парка, і ўсё-ж не адзінічны выпадкі, калі бабіта ў МТМ і МТС не хапае, майстэрні прастойваюць.

Узяць хоць-бы такія факты: Магілеўская МТС выдаткоўвала бабіт эканомна, гаспадарча—на заліўку аднаго трактара ішло не больш 2 кгр. 400 грам, тым часам Чэрыкаўская МТМ траціла па 3 кгр.

200 гр. і нават па 3 кгр 925 гр. на трактар. У чым-жа справа? У тым, што Магілеўская МТС, яе тэхнічныя кіраўнікі пад кіраўніцтвам палітаддзела дабіліся пры заліўцы падшыпнікаў і іншых частак максімальна малога адыходу на ўгар, захоўвалі бабіт як золата, да кожнага грама адносіліся па-гаспадарску, не дапускалі раскрадвання. А ў Чэрыкаўскай МТМ абязлічылі выдаткаванне, не цікавіліся зберажэннем бабіта, дапусцілі раскрадванне, не рацыяналізавалі работу. Адыход даходзіць часам да 700 і больш грам на трактар. Падобная «работа» наглядаецца ў Оршанскай, Пясецкай і іншых МТМ.

Было і так, што бабіт і некаторыя запчасткі прападалі пры перасылцы на пошце і чыгунцы. Чэрыкаўскай МТМ 7/I-34 г. было адгружана запасных частак і бабіта на 2 500 р., але і к 1/II гэты багаж не атрыман. У лістападзе 1933 г. было выслана па пошце Клімавіцкай МТС 10 кгр. бабіта, але ў дарозе ён прапаў, як і пасылкі на адрас Гарадоцкай МТС—15 кгр. бабіта, соўгаса «Х-годдзе СССР». Любаньскага раёна,—15 кгр. Такіх выпадкаў шмат. Яны сведчаць аб дрэннай рабоце нашых савецкіх органаў, паштовай сістэмы, чыгуначнага транспарта.

Яшчэ і так здаралася, што МТМ і МТС куплялі бабіт на прыватным рынку. Чэрыкаўская МТМ пасылала людзей у некалькі гарадоў, затраціла каля 1 500 р. на камандыроўкі, у рэзультаце куплена 12 кгр. крадзенага бабіта. У Оршанскай МТМ старшы токар Лепін арганізаваў вакол сябе 10 трактарыстаў, якімі раскрадзена да 30 кгр. бабіта. Гэты крадзены бабіт прадавалі потым у тую-ж самую майстэрню па 25—30 р. кгр. Магілеўскі Свінатрэст і яго 39 свінасоўгасаў купілі на прыватным рынку каля 400 кгр. бабіта па 25—30 р. за кілограм.

Пакупка бабіта на прыватным рынку не можа быць расцэнена інакш, як разбазарваннем дзяржаўных грошай і патураннем раскрадванню гэтага каштоўнейшага матар'яла. Вінаватых у раскрадванні і пакупцы крадзенага бабіта і іншых матар'ялаў неабходна прыцягнуць да суровай адказнасці, як за раскрадванне соцыялістычнай маемасці і сродкаў. Закупка крадзенага бабіта павялічвае накладныя выдаткі на рамонт трактарнага парка і яго ўтрыманне.

Магілеўскі Свінатрэст паслаў у Чэрыкаўскую МТМ свайго механізатара Магільнікава для дапамогі ў рамонце трактароў. Гэты «механізатар» у студзені атрымаў ад Соўгасснаба 4 кгр. бабіта і прадаў яго другой МТМ. У Магілеўскім Свінаводтрэсце Магільнікаў атрымаў тону газы для Чэрыкаўскай МТМ, якая мела пільную патрэбу ў газе для прамыўкі частак і матораў, а таксама абкаткі трактароў пасля рамонту. Газу Магільнікаў завёз не адрасату, а ў Чэрыкаўскую шавецкую арцель, дзе прадаў яе і зрабіў сабе боты. Астатнія грошы, выручаныя ад прадажы бабіта і газы, прапіў з трактарыстамі гэтай-жа МТМ.

Характэрна, што кіраўнікі МТМ і палітаддзела даведаліся пра гэта не раней як праз дэкаду.

Дзе-ж кіраўніцтва? Дзе большэвіцкае вока? Дзе класавая пільнасць і аперацыйнае штодзеннае ўнікненне ў непасрэдную работу майстэрні? Паданыя факты выяўлены брыгадамі ЦК КП(б)Б. А колькі яшчэ не выяўлена...

Некаторыя кіраўнікі зацяжку з рамонтам трактароў стараюцца тлумачыць тым, што не хапае запчастак і матар'ялаў, кваліфікаванай рабочай сілы, грошай, прадуктаў і інш. Але ці ў гэтым справа? Рад МТМ і МТС, як адзначана вышэй, знаходзяцца ў аднолькавых умовах па снабжэнню, аднак пры эканомным і правільным скары-

станні запчастак і матар'ялаў закончылі ці канчаюць рамонт трактароў. Справа не ў аб'ектыўных, а суб'ектыўных прычынах.

Тав. Сталін у сваім выступленні на XVII з'ездзе ВКП(б) вельмі ясна падкрэсліў, што «гэтыя труднасці з'яўляюцца труднасцямі нашай работы, труднасцямі нашага арганізацыйнага кіраўніцтва. Яны гняздзяцца ў нас саміх, у нашых кіруючых работніках, у нашых арганізацыях, у апаратах нашых партыйных, совецкіх, гаспадарчых, прафсаюзных, комсамольскіх і ўсякіх іншых арганізацый».

Справа ў тым, каб асвоіць усю магутнасць тэхнічнай узброенасці сельскай гаспадаркі, аўладаць трактарам, машынай, іх выкарыстаннем і рамонтам, перабудаваць усё наша партыйнае і совецкае кіраўніцтва знізу да верху. Правільна арганізаваць работу кожнай машыны, кожнага трактарыста, павышаць кваліфікацыю людзей, якім машына даручаецца, захоўваць і аберагаць яе як соцыялістычную грамадскую і дзяржаўную маемасць. Змагацца за тое, каб стары трактар працаваў не горш новага. Замацаваць і кваліфікаваць трактарыста, механіка, брыгадзіра ў кожнай МТМ і МТС, ачысціць іх ад класава-чуждых і кулацкіх элементаў, бо засмечанасць і цякучасць у гэтых кадрах усё яшчэ вялікая. За 1932-33 гг. па аднаму толькі бульбяна-гароднаму Трактарацэнтру з 2 500 трактарыстаў выбыла 1 052 чал., зняты з работы за тэхнічную непадрыхтаванасць 116 чал., вычышчана, як класава-чуждыя, толькі ў 1933 г.—64 чал.

XV з'езд КП(б)Б намеціў падрыхтаваць у 1934 г. высокакваліфікаваныя кадры: 4 036 трактарыстаў, 332 трактарыста-механіка, 11 390 ч. рабочых да розных машын (малатарань, бульбакапалак), шофераў 250 чал. З'езд даручыў НКЗ намеціць план падрыхтоўкі кадраў масавай тэхнічнай кваліфікацыі на ўсю другую пяцігодку, у поўнай адпаведнасці з запатрабаваннямі ўкараняемай у сельскую гаспадарку тэхнікі. Гэта перш за ўсё значыць, што на трактар, рухавік, малатарню, бульбакапалку, ільнацерабілку трэба падабраць праверадых і падрыхтаваных у тэхнічных і практычных адносінах людзей, цалкам і поўнасцю адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва, каб яны паказвалі ўзоры большэвіцкай работы па аўладанню і выкарыстанню перадавой сельска-гаспадарчай тэхнікі і дапамагалі ў гэтым калгаснікам і рабочым соўгасаў. Правільна арганізаваць вытворчую работу, устанавіць сістэматычны кантроль, змагацца за высокую якасць, цвёрдыя тэрміны выканання. Арганізацыя працы павінна быць пабудавана на соцыялістычных метадах соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Усё гэта дасць магчымасць калгасніку, калгасніцы ацаніць грамадную каштоўнасць і важнасць машыны ў сельскай гаспадарцы.

Кіраўніцтва трактарным паркам павінна быць пабудавана так, каб дырэктар, старшы механік, брыгадзір сістэматычна правяралі работу трактара, машыны, трактарыста і рабочага. Перакладаць адказнасць на каго-б там ні было, спасылацца на аб'ектыўныя прычыны партыя нікому не дазволіць.

А ёсць красамоўныя факты. Дырэктар Даманавіцкай МТМ т. Іваноў так тлумачыць адставанне ў рамонце трактароў: «Я тут не вінават. Я ўсё зрабіў для паспяховай работы МТМ: прапанаваў пад адказнасць старшага механіка т. Верасаева скончыць у бліжэйшы тэрмін рамонт трактарнага парка. Што-ж паробіш, калі Верасаеў не арганізоўвае работу, не падымае працдысцыпліну». Ясна, што такі дырэктар дабіцца поспехаў не зможа. Тав. Сталін у сваёй прамове такіх людзей называў балбатунамі, бюрократамі, безадказнымі лю-

дзьмі. Старшы механік Верасаеў адзін не можа справіцца з арганізацыяй рамонту. Тут патрэбна аперацыйнае кіраўніцтва дырэктара, партыйных, профсаюзных арганізацый і палітаддзела.

Бюро ЦК КП(б)Б 2 і 17 лютага г. г., разглядаючы пытанне аб ходзе рамонту трактароў, адзначыла нядбайныя адносіны наркаматаў, загадчыкаў сістэмамі Наркамгаса і Ўпоўнаркамсоўгасаў і абавязала ўсе РК партыі, дырэктароў МТМ, МТС і соўгасаў, сакратароў парткомаў пад іх асабістую адказнасць закончыць рамонт к устаноўленаму партыяй і ўрадам тэрміну. Наркамзему і Ўпоўнаркамсоўгасаў прапанавана арганізаваць дапамогу МТМ і МТС і патрабаваць рашучай перабудовы работы, прыцягваючы да суровай адказнасці вінаватых у зрыве своечасовага рамонту трактарнага парка. ЦК КП(б)Б указаў шляхі і метады перабудовы работы і патрабаваў ад сакратароў РК, начальнікаў палітаддзелаў, старшынь РВК, кіраўнікоў профсаюзных арганізацый спусціцца непасрэдна ў майстэрні, на завод, каб на месцы канкрэтна кіраваць ходам рамонту трактароў, кіруючыся ў сваёй рабоце ўказаннямі тт. Сталіна, Кагановіча і рашэннямі XVII партз'езда.

Апошні пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся 1 сакавіка 34 г., адзначыў шматлікія факты нядобраякаснага рамонту трактароў некаторымі МТС і МТМ (Віцебская МТМ заліла 30 матораў нядобраякасным бабітам, Оршанская паставіла лопнуўшыя гільзы, балты з сарванай разьбою), што сведчыць аб няўважлівых адносінах дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў да якасці рамонту. Пленум абавязваў НКЗ і Ўпоўнаркамсоўгасаў узмацніць тэхнічны кантроль і праверку якасці рамонту. Трактары кожнай МТС павінны быць правераны спецыяльнымі брыгадамі з лепшых механікаў другіх МТС і МТМ. Побач з гэтым пленум ЦК прапанаваў НКЗ і Ўпоўнаркамсоўгасаў правяраць у кожнай МТС работу па капітальнаму і сярэдняму рамонту на падставе дэфектных ведамасцей або актаў прыёмкі і ў адпаведнасці з гэтым уносіць у план неабходныя змены.

Пленум таксама адзначыў, што мясцовая прамысловасць дае надзвычай высокі процант браку запчастак (да 10 і вышэй). Пленум абавязваў усе заводы, якія выпрацоўваюць запчасткі, выканаць свае заданні ва ўстаноўленыя для кожнага календарныя тэрміны, але не пазней 15—20 сакавіка 34 г.

Устанавіць найстражэйшае аператыўнае кіраўніцтва, планавасць і справаздачнасць у ходзе рамонту трактароў і матораў з тым, каб кожную пяцідзёнку бачыць вынікі работы паасобных МТМ і МТС. Вінаватых у прадстаўленні няправільных звестак, у очкаўціращельстве прыцягнуць да суровай адказнасці. Кожны кіраўнік, кажны комуніст, кожны рабочы павінен змагацца за тое, каб трактарны парк Беларусі вышаў у поўнай гатоўнасці ў поле, каб выкарыстаць цалкам яго магутнасць на соцыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі.

Л. Рудзіцкі

# Ленін і Сталін аб умацаванні дыктатуры пролетарыята

10 год прашло са дня смерці геніяльнага правадыра сусветнага пролетарыята — В. І. Леніна. Ператураныя ў рэальную справу пабудовы соцыялістычнага грамадства ідэі Леніна знайшлі магутнае аднаўленне і новы ўздым у дзейнасці т. Сталіна. Усе пытанні тэорыі і практыкі дыктатуры пролетарыята за апошнія 10 год з няўхільнай паслядоўнасцю распрацоўваліся т. Сталіным, і пад яго кіраўніцтвам большэвіцкая партыя прывяла рабочы клас і ўсіх працоўных нашай краіны да перамогі соцыялізма.

Гэту перамогу прадбачыў, яе абгрунтаваў, ёй паклаў пачатак Ленін, гэту перамогу завяршае т. Сталін, кіруючы пасля Леніна будаўніцтвам соцыялістычнай краіны—бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята. У творах і выступленнях т. Сталіна маркса-ленінская тэорыя дзяржавы пераходнага перыяду—тэорыя рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята—знайшла непасрэднае праламленне і далейшае геніяльнае развіццё.

У дні дзесятай гадавіны са дня смерці В. І. Леніна варта спыніцца на некаторых яго выказваннях, якія на даным этапе набываюць асаблівае значэнне. Гутарка ідзе аб шляхах умацавання дыктатуры пролетарыята, праз актыўна ўздзейную ролю якое будзе поўнасцю ажыццёўлена гістарычная задача ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў наогул і пабудавана соцыялістычнае грамадства.

Пытанне аб шляхах умацавання пролетарскай дыктатуры—гэта па сутнасці карэннае пытанне, якому нашы правадыры аддавалі велізарную ўвагу на ўсіх этапах соцыялістычнага будаўніцтва. Усякага роду апартуністычныя разважанні аб адміранні дзяржавы, якія разглядаюць гэту праблему, адкідаючы ў бок указанні Леніна—Сталіна аб задачах максімальнага і ўсебаковага ўмацавання пролетарскай дыктатуры; усякага сорту «лявацкія» заскокі, якія ідуць па лініі адмаўлення **арганізацыйна-практычнага** ўмацавання ўсіх звенняў нашай дзяржавы — на руку класавым ворагам.

Яшчэ ў 1918 г. у сваіх «Чарговых задачах совецкай улады» Ленін выказаў рад надзвычай актуальных і для сучаснага перыяду палажэнняў. «Ва ўсякай соцыялістычнай рэволюцыі,—пісаў ён,—пасля таго, як вырашана задача заваёвы ўлады пролетарыятам і па меры таго як вырашаецца ў галоўным і асноўным задача: экспрапрыяваць экспрапрыятараў, высоўваецца на першы план карэнная задача стварэння вышэйшага, чым капіталізм, грамадскага укладу, іменна: павышэнне прадукцыйнасці працы, а ў сувязі з гэтым (і для гэтага) яе **вышэйшая арганізацыя»** [1]) (падкрэслена мною.—Л. Р.).

Ленін падкрэсліў тады значэнне **арганізуючай** сілы пролетарскай улады, якую трэба ўпарта ўмацоўваць і загартоўваць. «Трэба разам з тым,—пісаў ён,—ідучы к павышэнню прадукцыйнасці працы, улічыць асаблівасці пераходнага ад капіталізма к соцыялізму часу, якія патрабуюць, каб былі пакладзены асновы **соцыялістычнай арга-**

1) **Ленін**, т. XV, выд. I, стар. 193.

**нізацыі** спаборніцтва, а з другога боку—патрабуюць ужывання прымусу так, каб лозунг дыктатуры пролетарыята не апаганьваўся **практыкай кіселепадобнага стану** дыктатуры пролетарыята»[1]) (падкрэслена мною.—Л. Р.).

У сістэме совецкай улады, як дзяржаўнай формы дыктатуры пролетарыята, закладзены такія палітычныя і арганізацыйныя магчымасці, якіх не мела і не мае ні адна ўлада ў свеце.

Узмацненне работы профсаюзаў, кааперацыі, комсамола і ўсіх грамадскіх і дзяржаўных органаў пролетарскай дыктатуры набывае зараз асабліва значэнне. Улада пролетарыята, які, паводле выражэння Маркса, сам з'яўляецца агромнай прадукцыйнай сілай, прывяла працоўных нашай краіны да гістарычнага этапу ажыццяўлення пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Толькі свядомыя ворагі рабочага класа і апартуністы розных колераў імкнуцца змазаць той факт, што без аб'яднанага ўплыву ўсіх рычагоў і звенняў пролетарскай дзяржавы мы не мелі-б дасягненняў на разнастайных участках соцыялістычнага будаўніцтва. Магутныя гіганты індустрыі, агромныя палацы соцыялістычнай навукі і культуры, росквіт калгасаў і разгром кулацтва—усё тое, чаго мы дабіліся за час першай пяцігодкі і за мінулы год, сведчыць аб палітычнай і арганізацыйнай магутнасці дыктатуры пролетарыята.

Шляхі ўмацавання дыктатуры пролетарыята адлюстраваны ў вельмі паказальных даных аб разгортванні совецкай дэмакратыі. Статыстычныя матар'ялы аб выбарах у советы за апошнія гады могуць быць лепшым пацверджаннем умацавання пролетарскага дэмакратызма, могуць паказаць, як умацаванне асноўных звенняў дыктатуры пролетарыята непасрэдна звязана з агульным уздымам соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

Калі ў час выбарчай кампаніі 1927 г. па Совецкім саюзе налічвалася 67.278.201 чал. выбаршчыкаў пры актыўнасці ў 50,7 проц., то ў 1929 г. гэтая лічба вырастае да 72.536.735 чал. пры актыўнасці ў 62,3 проц. Лік выбаршчыкаў у перавыбарчай кампаніі 1930-31 г. дасягае 80 млн. асоб.

Такі-ж малюнак разгортвання нашай дэмакратыі мы можам наглядаць пры аналізе даных па БССР. Ад 2 млн. 399 тыс. выбаршчыкаў у 1927 г. з актыўнасцю ў 47,9 проц. да 2 млн. 449 тыс. выбаршчыкаў у час перавыбараў 1929 г. з 60 проц. актыўнасці; ад 69 проц. удзелу гарадского насельніцтва і 58,8 проц. сельскага да 77,4 проц. гарадского і 66,4 проц. сельскага насельніцтва ў 1931 г.—вось шлях узрастання актыўнасці шырокіх працоўных мас горада і вёскі.

Надзвычай паказальным з'яўляецца рост актыўнасці выбаршчыкаў па БССР за чатыры апошнія выбарчыя кампаніі.

| Гады | Агульная | Проц. росту да папярэд. года | У сельскай мясцов. | Процант росту да папярэд. года | У гарадах | Процант росту да папярэд. года. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 . . | 46,9 | 100,0 | 46,5 | 100,0 | 49,1 | 100,0 |
| 1927 . . | 47,9 | 102,1 | 46,4 | 99,8 | 61,3 | 124,8 |
| 1928 . . | 60,0 | 125,3 | 58,8 | 126,7 | 69,0 | 112,8 |
| 1929 . . | 67,6 | 112,0 | 66,3 | 112,7 | 74,4 | 112,2 |

[1]) **Ленін**, т. XV, выд. I, стар. 195.

Простае параўнанне прыведзеных даных паказвае, як праз удзел працоўных нашай рэспублікі ў выбарах у Советы ўсё ўзрастае сіла пролетарскай дыктатуры. Характэрным з'яўляецца рост актыўнасці выбаршчыкаў з боку працоўнага сялянства.

Даныя па БССР за 1931 г. паказваюць узросшы ўдзел у перавыбарах советаў калгаснага сялянства. Так, у апошнюю перавыбарчую кампанію 1931 г. удзел калгаснікаў дасягнуў 78,7 проц. Гэты процант значна перавысіў сярэдні ўдзел аднаасобнага працоўнага сялянства, якое дало 65,7 проц. актыўнасці.

Гэты працэс шырокай палітычнай актыўнасці працоўнага сялянства сведчыць аб тым, як працэс ператварэння старога ўкладу жыцця вёскі і стварэнне новых грамадскіх узаемаадносін непасрэдна звязан з умацаваннем дыктатуры пролетарыята і з нябачаным у гісторыі развіццём сапраўднай дэмакратыі — дэмакратыі для працоўных.

Як зло высмеяла гісторыя «прароцтвы» паноў з лагера трацкізма аб перараджэнні совецкай улады, якое нібы будзе выклікана «затапленнем ніжэйшых паверхаў» нашай дзяржаўнай сістэмы дробнабуржуазнаю стыхіяй сялянства. Правільнасць і паслядоўнасць генеральнай лініі партыі вызначыла актыўна ўздзейную ролю пролетарскай дзяржавы ў справе карэннага гістарычнага павароту гэтай стыхіі на цвёрды шлях, шлях соцыялізма.

Жыццё пацвердзіла правільнасць геніяльнага прагноза Леніна, што толькі рабочы клас пад кіраўніцтвам партыі зможа павярнуць працоўнае сялянства да лепшай будучыні, толькі пролетарыят, як гаварыў Ленін, можа «весці і кіраваць, захапляць за сабой»[1]).

Рост палітычнай актыўнасці калгаснага сялянства, уключэнне яго ў больш высокія формы совецкага дэмакратызма паказвае шлях, па якім яно пойдзе далей, паступова ператвараючыся ў работнікаў соцыялістычнага бяскласавага грамадства.

Не менш характэрнымі з'яўляюцца лічбы аб росце совецкага актыва па БССР. У 1930 г. наша рэспубліка мела 155.416 чал. сельскага актыва, у 1931 г. гэтая колькасць узрасла да 172.119 чал. Такім чынам, на кожны с-с. у 1931 г. прыпадае 117 чал. замест 105 у 1929 г. Дакладных даных па гарадах у БССР няма. Ёсць толькі лічба 5.096 членаў горсоветаў, якая, безумоўна, мае вялікае значэнне пры характарыстыцы нашай совецкай сістэмы.

На жаль, гэтыя даныя далёка няпоўныя і не могуць цалкам характарызаваць усю актыўнасць мас і шырыню іх удзелу ва ўсіх органах і звеннях пролетарскай дыктатуры[2]).

Трэба падкрэсліць, што адсутнасць да гэтага часу дакладнага ўліку колькаснага і якаснага складу ўсіх масавых совецкіх органаў пазбаўляе магчымасці больш дэталёва аналізаваць шляхі ўмацавання дыктатуры пролетарыята і ўсе формы актыўнасці працоўных мас. Неабходна **паставіць неадкладнай задачай** усіх советаў і іх органаў правядзенне сістэматычнага ўліку совецкага актыва і яго работы ва ўсіх звеннях нашай дзяржаўнай улады.

[1]) Ленінскі зборнік III, стар. 513.

[2]) Паводле даных аргаддзела ЦВК БССР ад 1|VII-33 г. па БССР налічваецца 1474 сельсоветы і 31 горсовет.

Уздым росту пролетарскай дэмакратыі ёсць вынік найглыбейшых соцыяльных зрухаў, выкліканых карэннымі зменамі ў развіцці нашай эканомікі.

Некалькі лічбаў аб паступальным росце ўдзелу працоўных жанчын у органах совецкага прадстаўніцтва паказваюць, як працэс індустрыялізацыі нашай краіны і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ператварае працоўную жанчыну ў раўнапраўнага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва, які побач з працоўным мужчынай актыўна змагаецца за справу соцыялізма.

Рост актыўнасці працоўных жанчын у палітычным жыцці ідзе побач з гаспадарчым развіццём нашай краіны. Працоўная жанчына ва ўмовах Совецкага саюза, паводле слоў т. Сталіна, з'яўляецца агромнаю сілай, якую трэба высунуць наперад.

Прыводзім зводку росту актыўнасці жанчын-выбаршчыкаў па сельскіх мясцовасцях БССР за некалькі год.

| Гады | 1924/25 | 1925/26 | 1926/27 | 1929 | 1931 |
|---|---|---|---|---|---|
| Процант яўкі . . | 16,8 | 25,0 | 26,4 | 42,4 | 54,6 |

Гэтая актыўнасць знайшла выразнае адлюстраванне ў павелічэнні складу працоўных жанчын у сельсоветах. Так, калі ў 1927 г. працоўная сялянка займала 7,2 проц., а ў 1929 г.—19,6 проц., то ў 1931 г. гэты процант дасягнуў 24. У бліжэйшых перавыбарах советаў мы будзем, безумоўна, наглядаць яшчэ больш высокае ўцягненне працоўных жанчын у работу советаў, якое цалкам адпавядае магутнаму ўздыму нашай соцыялістычнай гаспадаркі.

Вось як гістарычны пералом у развіцці сельскай гаспадаркі, як магутны працэс калектывізацыі нашай вёскі садзейнічае сапраўды таму, аб чым гаварыў Ленін: «З таго моманту як зніштожана прыватная ўласнасць на зямлю і фабрыкі і скінута ўлада памешчыкаў і капіталістаў, задачы палітыкі для працоўнай масы і працоўных жанчын робяцца простымі і яснымі і цалкам для ўсіх даступнымі» [1]).

Гэтае палажэнне Леніна цяснейшым чынам, звязана, непасрэдна выцякае і з'яўляецца далейшым развіццём геніяльнага прагноза Энгельса, выказанага ім яшчэ ў 80-х гадах мінулага стагоддзя. «Вызваленне жанчыны,—пісаў ён,—робіцца магчымым толькі тады, калі яна зможа ў буйным грамадскім маштабе ўдзельнічаць у вытворчасці, а праца на-даму зойме яе толькі ў нязначнай ступені [2]). Гэта гістарычнае прадбачанне цалкам ажыццяўляецца ў нашай соцыялістычнай краіне пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра т. Сталіна.

Пролетарская дыктатура з'яўляецца тым рычагом, які дае ўсё неабходнае для паспяховай і пераможнай пабудовы соцыялізма. Канцэнтрацыя ў руках рабочага класа, арганізаванага ў сваю дыктатуру, усіх асноўных сродкаў вытворчасці, злучаная з накіроўваючай воляй комуністычнай партыі, стварыла ўсе ўмовы для поўнай ліквідацыі капіталістычных элементаў і пабудовы соцыялізма на пра-

---

1) **Ленін, т. XXIV, стар. 470.**

2) **Энгельс, „Возникновение семьи", Гиз, 1932, стр. 163.**

цягу другой пяцігодкі. Улада пролетарыята садзейнічала карэннаму ператварэнню нашай эканомікі. Партыя большэвікоў, узброеная маркса-ленінскай тэорыяй, на кожным гістарычным этапе, на кожным пераvале правільна і паслядоўна аналізавала законы далейшага развіцця, няўхільна ведучы нашу краіну і ўсіх працоўных да стварэння новых вытворчых адносін, да пераробкі свядомасці людзей на аснове магутнага ўздыму соцыялістычнай індустрыі і росту пролетарскай культуры.

На даным этапе ўсе сілы дыктатуры пролетарыята павінны быць накіраваны на ажыццяўленне задач, вызначаных другой пяцігодкай, г. зн. на поўную пабудову і ўзмацненне соцыялістычнага ладу. Пастановы XVII партыйнай канферэнцыі, заваструўшыя ўвагу на немінучасці абвастрэння класавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў паасобных раёнах і на паасобных участках соцыялістычнай будоўлі, знайшлі поўнае пацверджанне ва ўмовах БССР, дзе ворагі пролетарыята асабліва напружваюць сілы, каб захаваць рэштні сваіх пазіцый, арганізуючы шалёнае супраціўленне нашаму пераможнаму соцыялістычнаму наступленню. Зусім зразумела, што канчатковае падаўленне буржуазна-кулацкіх элементаў будзе ажыццёўлена на аснове ўсебаковага ўмацавання органаў пролетарскай дыктатуры.

«Моцная і магутная дыктатура пролетарыята,—сказаў т. Сталін на студзеньскім пленуме ЦК,—вось што нам патрэбна зараз для таго, каб развеяць ушчэнт апошнія рэштні паміраючых класаў і разбіць іх зладзейскія махінацыі».

Дыялектыка класавай барацьбы на даным этапе з ўсёй відавочнасцю паказвае глыбокі сэнс гэтага выказвання т. Сталіна. Выходзячы з гэтага палажэння, трэба разглядаць пытанне аб шляхах умацавання дыктатуры пролетарыята.

У свой час у творы «Заметкі эканаміста» т. Бухарын выказаў думку аб тым, што «мы павінны запытаць сябе, ці не патрэбна нам зрабіць некалькі крокаў у бок ленінскай дзяржавы-комуны» [1]).

Гэтае палажэнне ўжо тады з'яўлялася скажэннем вучэння Леніна-Сталіна аб пролетарскай дзяржаве і шляхах яе развіцця. Пасля захопу ўлады рабочы клас нашай краіны пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пашоў па шляху соцыялістычнага будаўніцтва непараўнальна далей, чым магла пайсці Парыжская комуна, якую мае на ўвазе т. Бухарын у сваім выказванні.

«Комуна была дыктатура няпоўная і нетрывалая» [2]). Яна не здолела, як гэта патрэбна было дыктатуры новага тыпу, ажыццявіць гістарычныя патрабаванні пролетарыята—ператварыць існуючыя капіталістычныя вытворчыя адносіны ў соцыялістычныя, гвалтоўна пазбаўляючы капіталістаў усіх сродкаў вытворчасці і панавання. Комунаю не кіравала такая загартаваная і выпрабаваная ў класавых баях сіла, як наша комуністычная партыя, якая добра ўлічвала і ўлічвае адказнейшы ўрок, паказаны Леніным на вопыце барацьбы парыжскіх комунараў.

Не назад да Парыжскай комуны трэба ісці, а далей—уперад, добра памятаючы тое, што пісаў Ленін аб яе памылках. «Прыдушыць буржуазію і яе супраціўленне ўсё яшчэ неабходна. Для Комуны гэта было асабліва неабходна, і адна з прычын яе паражэння заключаецца

[1]) **Бухарин** „Заметки экономиста", Гиз. 1928 г., стр. 54.
[2]) **Сталін**—„Пытанні ленінізма", стар. 273.

ў тым, што яна не даволі рашуча гэта рабіла» [1]) (падкрэслена мною.— Л. Р.).

Гэтая недастатковая рашучасць Комуны ў прыдушэнні класавых ворагаў і тое, што яна не здолела ўмацаваць створаны ёю новы дзяржаўны апарат—адна з галоўных прычын яе кароткага існавання і пагібелі. Спасыланне т. Бухарына на Комуну не было выпадковым. Пад прыкрыццём гучнай фразы аб кроках да «дзяржавы-комуны» т. Бухарын высунуў тады сваю славутую права-апартуністычную канцэпцыю ўрастання кулацтва ў соцыялізм на аснове мірнага эвалюцыйнага развіцця пролетарскай дыктатуры, якая дасягне «арганічнага самараспускання» у эканоміцы.

Права-апартуністычныя ўстаноўкі т. Бухарына, якія ён часам прыкрываў «левай» фразеалогіяй, атрымалі належны адпор з боку т. Сталіна. Пад яго кіраўніцтвам партыя выкрыла рэвізіяністкую сутнасць тэорыі т. Бухарына, якая фактычна адмаўляла неабходнасць давядзення класавай барацьбы ва ўмовах дыктатуры пролетарыята да поўнай ліквідацыі класаў і пабудовы соцыялізма.

Разважанні т. Бухарына аб «кроках да дзяржавы-комуны» цалкам звязаны з яго блытанымі палітычна шкоднымі ўстаноўкамі па пытанню адміравання пролетарскай дзяржавы.

Стоячы на чале «левых» комуністаў, т. Бухарын у 1918 г. выступаў супроць жорсткай дысцыпліны, супроць узмацнення адзінаначалля і цэнтралізма, вельмі неабходных ва ўмовах абароны ад нападаў міжнароднай буржуазіі. Тады т. Ленін раўняў яго з дробна-буржуазным рэволюцыянерам, які глядзіць на задачы пролетарскай дыктатуры, павярнуўшыся тварам да мінулага, а не да будучага. Тав. Бухарын не бачыў тады неабходнасці стварэння і ўмацавання новага дзяржаўнага апарата, які перамогшы пролетарыят павінен проціпаставіць нападам буржуазіі і пры дапамозе якога патрэбна ажыццявіць задачу стварэння новага соцыялістычнага грамадства.

Праз некалькі год гэта неразуменне ролі органаў пролетарскай дзяржавы на працягу ўсяго пераходнага перыяду т. Бухарын праявіў у сваёй кнізе «Эканоміка пераходнага перыяда», даўшы няправільную схему адміравання дзяржавы дыктатуры пролетарыята. Гэтая схема сустрэла крытычную заўвагу Леніна.

«Спачатку,—пісаў т. Бухарын, разважаючы аб шляхах адміравання дзяржавы,—адамрэ армія і флот, як прылада найбольш вострага знешняга прымусу, потым сістэма карных і рэпрэсіўных органаў, далей прымусовы характар працы». Тав. Ленін на палях твору Бухарына адзначыў; «Ці не наадварот: спачатку «далей», затым «потым» і, урэшце, «спачатку» [2]).

Напамінанне аб гэтых старых разважаннях т. Бухарына мае пэўны палітычны сэнс, бо яго літаратурная спадчына, на жаль, жывіла і зараз жывіць апартуністычную практыку тых, хто імкнецца скажаць генеральную лінію партыі ва ўмовах разгортвання наступлення на капіталістычныя элементы. Права-лявацкія палажэнні твораў т. Бухарын аб «дзяржаве-комуне», яго тэорыя «перацэнтралізацыі» дзяржаўнага апарата, блытаніна ў пытанні адміравання дзяржавы

---

[1]) **Ленін**, „Дзяржава і рэволюцыя", ДВБ, стар. 35.
[2]) **Ленінскі зборнік** XI, стар. 400.

падхопліваюцца тымі, хто, як указана Леніным, імкнецца апаганьваць лозунг дыктатуры пролетарыята.

За апошнія некалькі год мы мелі магчымасць наглядаць рад вылазак, ідучых па лініі імкненняў размагніціць, аслабіць дзейнасць органаў пролетарскай дзяржавы. Гэтыя спробы пад тым ці іншым соўсам не спыняюцца і зараз, яны будуць мець месца, пакуль існуючая класава-варожая ідэалогія будзе адлюстроўваць жаданне ліквідуемых капіталістычных элементаў аслабіць дыктатуру пролетарыята.

«Знішчэнне **класаў**,—пісаў Ленін,—справа доўгай, цяжкай, упартай **класавай** барацьбы, якая **пасля звяржэння ўлады капітала**, пасля разбурэння буржуазнай дзяржавы, **пасля** ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята **не знікае** (як ваабражаюць пашлякі старога соцыялізма і старой соцыял-дэмакратыі), а толькі змяняе свае формы, робячыся ва многіх адносінах яшчэ **больш жорсткай»** [1]).

Зусім відавочнай у святле гэтых указанняў Леніна з'яўляецца задача максімальнага ўзмацнення ўсіх звенняў пролетарскай дзяржавы.

* * *

Дзякуючы паслядоўнай ленінскай палітыцы, наша партыя і рабочы клас пад кіраўніцтвам т. Сталіна дасягнулі агромных поспехаў у галіне індустрыялізацыі краіны. Гэтыя дасягненні забяспечылі соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі і рашучы ўздым калгаснага руху. На базе суцэльнай калектывізацыі працоўнае сялянства ў цесным саюзе з гарадскім пролетарыятам ліквідавала кулацтва як клас.

Пераход серадняка на рэйкі калектывізацыі, арганізацыя новых форм гаспадаркі, ператварэнне ўчарайшага аднаасобніка, саюзніка рабочага класа, у яго моцную апору—цэнтральную фігуру сельскай гаспадаркі—не здымае задачу далейшай барацьбы за соцыялістычную пераробку селяніна-калгасніка. Уступіўшы ў калгас, працоўны селянін робіць рашучы крок па шляху адмаўлення ад сваёй дробна-ўласніцкай прыроды. Але глыбока памылковымі і палітычна шкоднымі з'яўляюцца довады некаторых таварышоў, што паміж калгаснікам і рабочым можна паставіць знак роўнасці, што калгас, як соцыялістычная форма арганізацыі сельскай гаспадаркі, фактычна перарабляецца ў соўгас, а г. зн. у агульна-дзяржаўнае паслядоўна соцыялістычнае прадпрыемства.

Так, т. Ішчэнка ў сваім артыкуле адзначае: «правільна, што калгаснік—пераходная ступень паміж дробна-ўласніцкім селянінам і соцыялістычным вытворцай. Але адсюль зусім яшчэ не вынікае, што калгаснік—гэта асобы клас у адрозненне ад пролетарыята» [2]).

Тав.-жа Карнееў у сваёй брашуры робіць вывад аб такім шляху развіцця калгасаў на працягу другой пяцігодкі, калі «магчым пераход у размеркаванні ад атрымання даходаў у калгасах да грамадска-працоўнага пайка, атрымліваемага ад соцыялістычнай дзяржавы [3]).

Прыведзеныя палажэнні поўнасцю супярэчаць указанням т. Сталіна аб задачах арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, аб задачах такога кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам з боку дзяржаўных і партыйных органаў, якое-б максімальна забяспечыла рост гас-

---

1) Ленін, т. XXIV, выд. II, стар. 325.
2) „Под знаменем марксизма", № 4—5, за 1934 г.
3) Карнееў—„Другая пяцігодка і знішчэнне класаў", Партвыд. 1932 г., стар. 29.

падарчых і маемасных рэсурсаў калгасніка, якое-б садзейнічала таму, каб паводле гістарычных указанняў т. Сталіна зрабіць калгасы большэвіцкімі і ўсіх калгаснікаў заможнымі працаўнікамі калгасных палёў.

Незалежна ад суб'ектыўных жаданняў указаных аўтараў,—іх «тэорыйкі» на руку кулацкім элементам, якія пад лозунгам «калгас—гэта завод, або соўгас» будуць імкнуцца прапаведваць так званыя «утрыманскія» ідэі сярод калгаснікаў, прыкрываючыся рознымі контррэвалюцыйнымі развäжаннямі накшталт таго, што «усёроўна як у калгасе ні працуй,—гаспадарка тут не наша, а дзяржаўная».

Палітычна няправільным і шкодным з'яўляецца атаждзеcтвленне калгасніка з рабочым, калгаса—як соцыялістычнай формы гаспадаркі—з соўгасам, фабрыкай, заводам. У 1929 г., закранаючы на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў пытанне аб прыродзе калгасаў, тав. Сталін сказаў: «Калгасы, як тып гаспадаркі, ёсць адна з форм соцыялістычнай гаспадаркі. У гэтым не можа быць сумнення».

Аднак, характарызуючы прыроду калгаса, тав. Сталін у цэлым радзе сваіх выказванняў папярэджваў, што соцыялістычная форма гаспадаркі сама па сабе без большэвіцкай працы, без паслядоўнага кіраўніцтва не забяспечвае развіцця нашай соцыялістычнай гаспадаркі.

«Калгас ёсць соцыялістычная форма **гаспадарчай** арганізацыі,—сказаў т. Сталін,—так сама як і советы з'яўляюцца соцыялістычнай формай **палітычнай** арганізацыі. Як калгасы, так і советы з'яўляюцца агромнай заваёвай нашай рэволюцыі, агромнай заваёвай рабочага класа. Але калгасы і советы прадстаўляюць толькі **форму** арганізацыі, праўда, соцыялістычную, але ўсё-ж **форму** арганізацыі. Усё залежыць ад таго, які **змест** будзе ўліты ў гэту форму» (прамова «Аб рабоце ў вёсцы»).

Атаждзествляючы калгасніка з пролетарыем, а калгас з паслядоўна соцыялістычным прадпрыемствам, дзе ўсе сродкі вытворчасці належаць совецкай дзяржаве, т. т. Ішчанка і Карнееў змазваюць адказнейшую задачу далейшай пераробкі ўчарайшага селяніна аднаасобніка, фактычна адмаўляюць кіруючую ролю пролетарыята ў адносінах да калгаснага сялянства. Апартуністычны сэнс указаных развäжанняў заключаецца ў спаўзанні на ідэю самацёку, ў адхіленні задач максімальнага ўзмацнення актыўна ўздзеючай ролі ўсіх звенняў пролетарскай дзяржавы ў справе ліквідацыі дробна-буржуазных індывідуалістычных пражыткаў калгаснага сялянства.

* * *

Шляхі поўнай ліквідацыі капіталістычных элементаў вызначаюцца максімальным разгортваннем і ўзмацненнем усіх сіл пролетарскай дыктатуры. Яна—дыктатура, ажыццяўляемая арганізаванымі ў советы пролетарыямі, з'яўляецца тым рычагом, без уздзеяння якога немагчым ніякі рух уперад, ніякае развіццё новых форм соцыялістычнага жыцця.

«Дыктатура пролетарыята ёсць зброя пролетарскай рэволюцыі, яе орган, яе важнейшы апорны пункт, выкліканы да жыцця для таго, каб, па-першае, **прыдушыць** супраціўленне звергнутых эксплаататараў і **замацаваць** свае дасягненні; па-другое, давесці да канца пролетарскую рэволюцыю, **давесці рэволюцыю да поўнай перамогі соцыялізма»** [1]).

У гэтым класічным азначэнні тав. Сталіным даецца кароткае і разам з тым вычарпальнае тлумачэнне галоўных задач, што ставяцца

[1]) **Сталін**, „Пытанні ленінізма" стар. 28.

дыктатурай пролетарыята. Давесці рэволюцыю да поўнай перамогі соцыялізма немагчыма без канчатковага прыдушэння супраціўлення звергнутых эксплаататараў. Прыдушыць гэта супраціўленне здольна толькі такая дыктатура пролетарыята, якая замацуе ўсе свае дасягненні, якая не паслабіць іх самасупакаеннем і самавасхваленнем, абмяжоўваючыся перамогамі сёнешняга дня. Баявы, разгорнуты наступ пролетарскай дыктатуры на капіталістычныя элементы, мерапрыемствы жорсткага прыдушэння і рэпрэсій, якія яна накіроўвае супроць класавых ворагаў,—не здымаюць ні на мінуту арганізатарскіх задач, задач стварэння новых гаспадарчых і культурных адносін паміж працоўнымі.

Па гэтым шляху, вызначаным Леніным, уздымаючы яго ўказанні на новую вышыню, развіваючы іх далей, вядзе нас т. Сталін.

«Вялікая замена працы паднявольнай,—пісаў Ленін,—працай на сябе, працай планамерна арганізаванай у агромным, агульнадзяржаўным маштабе, патрабуе таксама—акрамя «ваенных» мер прыдушэння супраціўлення эксплаататараў—агромных **арганізацыйных,** арганізатарскіх намаганняў з боку пролетарыята і бяднейшага сялянства... Задача арганізацыйная,—падкрэсліваў Ленін,—пераплятаецца ў адно непарыўнае цэлае з задачай бязлітаснага ваеннага прыдушэння» [1]).

Да ўказаных думак Ленін неаднакроць звярачаўся. Сусветна-гістарычная задача ажыццяўлення новага тыпу грамадскай арганізацыі працы магчыма толькі пры злучэнні ў адно цэлае ўказанага двуадзінага шляху развіцця дыктатуры пролетарыята.

Два галоўныя, карэнныя напрамкі класавай барацьбы і ўмацавання дыктатуры пролетарыята, вызначае Ленін у сваіх заметках аб дыктатуры пролетарыята.

**Першы.** «Прыдушэнне супраціўлення эксплаататараў (і ўсякага роду рэцыдывы звароту да капіталізма і да капіталістычных традыцый)».

**Другі.** «Сістэматычнае кіруючае **ўздзеянне** (таксама барацьба, але асобага роду, перамаганне вядомага, праўда, зусім іншага супраціўлення і зусім іншага роду перамаганне) на **ўсіх** працоўных апрача пролетарыята» [2]).

У святле прыведзеных думак нашых правадыроў варта напомніць аб тым азначэнні дыктатуры пролетарыята, якое ў свой час высунуў пан Троцкі.

«Дыктатура пролетарыята,—пісаў рэнегат Троцкі,—не ёсць вытворча-культурная арганізацыя новага грамадства, а рэволюцыйна-баявы парадак барацьбы за яе» [3]).

У гэтым азначэнні мы маем выразнае скажонае процістаўленне асноўных бакоў дыктатуры пролетарыята. Пад прыкрыццём гучнай фразы сваім **«не ёсць»... «а»** пан Троцкі адмаўляў усякую магчымасць творчай, будоўнай ролі пролетарскай дыктатуры. Ужо тады Троцкі рэвізаваў ленінскае разуменне дыктатуры, якое, «азначае таксама арганізацыю працы больш высокую, чым папярэдняя».

Як вядома, у прыведзенным выкрутасным азначэнні дыктатуры пролетарыята ў пана Троцкага няма нічога выпадковага з пункту погляду яго тэорыі немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне— тэорыі, звязанай з ідэяй аб непрымірымасці класавых супярэчнасцей

[1]) **Ленин,** т. XXII, стр. 161.
[2]) Ленінскі зборнік III, стар. 494.
[3]) **Л. Троцкий** „Литература и революция", стр. 140.

паміж пролетарыятам і працоўным сялянствам. Адсюль у Троцкага вынікае своеасаблівы «рэволюцыйна-баявы парадак» барацьбы за дыктатуру пролетарыята, ідэя рэпрэсіўнага націску, які павінен быць накіраваны на асноўнага, па думцы Троцкага, антыпода пролетарыята— серадняка.

Троцкі адмаўляў магчымасць існавання пролетарскай дыктатуры і пабудовы соцыялізма ў адной краіне без непасрэднай дзяржаўнай падтрымкі міжнароднай пролетарыята. Гэтай адпраўной ідэяй ён абгрунтаваў тэорыю «тэрмідарыянскага» перарадження нашай дзяржавы, якая, паводле яго характарыстыкі, з'яўляецца дзяржавай «далёка не пролетарскага тыпу». На яго пазіцыі, безумоўна, спаўзаюць усе тыя, хто бачыць шляхі ўмацавання дыктатуры пролетарыята выключна ў голым адміністраванні, у метадах камандавання ў адносінах працоўнага сялянства.

«Соцыялізм ёсць знішчэнне класаў,—пісаў Ленін,—каб знішчыць класы трэба, па-першае, скінуць памешчыкаў і капіталістаў. Гэту частку задачы мы выканалі, але гэта толькі частка і прытым **не** самая цяжкая. Каб знішчыць класы, трэба, па-другое, знішчыць розніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць **усіх—работнікамі...** Гэта задача, якую нельга вырашыць звяржэннем якога-б там ні было класа, яе можна вырашыць толькі **арганізацыйнай** (падкрэслена мною.—Л. Р.) пераробкай усёй грамадскай гаспадаркі, пераходам ад аднаасобнай, аднасобленай, дробнай таварнай гаспадаркі да грамадскай гаспадаркі... Такі пераход,—падкрэсліваў Ленін,—можна толькі запаволіць і затрудніць паспешнымі і неасцярожнымі адміністрацыйнымі заканадаўчымі мерамі» [1]).

Пад кіраўніцтвам т. Сталіна рашучы адпор атрымалі «лявацкія» скажэнні генеральнай лініі партыі, якія сваім адміністрацыйным «захапленнем» у справе калектывізацыі шкодзілі саюзу рабочага класа з працоўным сялянствам, а гэтым самым аслаблялі сілу нашай пролетарскай дзяржавы.

Добра памятна, што якраз у гэты перыяд мела хаджэнне «славутая» тэорыя ліквідацыі сельсоветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі. Рэхаў, Доценко, Каўрайскі, Навакоўскі і інш. для пацверджання сваіх права-лявацкіх установак па гэтаму пытанню спасылаліся на выказванні Энгельса ў яго творы «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы», дзе ён дае геніяльнае прадбачанне аб грамадстве, якое «па-новаму арганізуе вытворчасць на аснове свабоднай і роўнай асацыяцыі вытворцаў і адправіць усю дзяржаўную машыну туды, дзе ёй будзе сапраўднае месца».

Сэнс «глыбокадумных» разважанняў ліквідатараў сельсоветаў тады быў выкрыт партыяй. Пад кіраўніцтвам т. Сталіна партыя паказала, чаго варты імкненні ліквідатараў, якія ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы ставяць пытанне аб знішчэнні нізавых звенняў пролетарскай дзяржавы. Цытуючы з твораў Энгельса **паасобныя** месцы аб адміранні дзяржавы, памянёныя асобы сказілі **ўвесь** глыбокі змест маркса-ленінскай тэорыі адмірання дзяржавы.

Адмаўленне неабходнасці максімальнага ўзмацнення актыўнаўздзеючай ролі пролетарскай дыктатуры і ўсіх яе рычагаў пад лозунгам так званай «перацэнтралізацыі дзяржаўнага апарата», розныя разважанні аб магчымасці ліквідацыі сельсоветаў, аб непатрэбнасці

---

1) Ленін, „Экономіка і палітыка ў эпоху дыктатуры пролетарыята“, Партвыдат, 1932 г., стар. 8.

разгортвання работы дэпутацкіх груп на прадпрыемствах, секцый саветаў і выканкомаў—усё гэта запазычана з арсенала правага апартунізма і анархіствуючых «левакоў».

Розніца ў спосабах абгрунтавання тэорый гэтых двух антыленінскіх плыней носіць толькі знешне разнастайны выгляд, але сутнасць іх зводзіцца да аднаго—адмаўлення неабходнасці давядзення класавай барацьбы да канца, адмаўлення неабходнасці існавання дыктатуры пролетарыята, да поўнай і канчатковай ліквідацыі класаў.

Усякага роду разважанні аб адміранні дзяржавы пераходнага перыяда, а г. зн. рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята ўжо **на даным этапе** немінуча прыводзяць да тэорыі зніжэння, аслаблення ролі комуністычнай партыі. Партыя з'яўляецца неад'емнай, неадрыўнай часткаю пролетарскай дыктатуры, таму зусім зразумела, што ўзмацненне ролі партыі ажыццяўляецца пры агромным магутным уздыме ўсёй сістэмы пролетарскай дыктатуры. «Партыя,—пісаў т. Сталін,—ёсць сродак дыктатуры пролетарыята. Але з гэтага вынікае, што са знікненнем класаў, з адміраннем дыктатуры пролетарыята павінна адмерці і партыя» [1]).

Пры механістычным разуменні дыялектыкі дыктатуры пролетарыята немінучае спаўзанне ад тэорыі «адмірання дзяржавы» на даным этапе да махровага апартуністычнага разважання аб ужо наступаючым «адміранні партыі». Да такога пункту погляду могуць скаціцца тыя, хто будзе працягваць свой ланцуг разважанняў і блытаніну ў разуменні дыялектыкі пролетарскай дзяржавы.

Прадбачанне т. Сталіна аб будучым адміранні дыктатуры пролетарыята, з якім звязана адміранне комуністычнай партыі, трэба аднесці да часоў поўнага комунізма. Роля комуністычнай партыі, як авангарда пролетарыята, як найбольш загартаванай часткі перадавога атрада работнікаў соцыялістычнай будоўлі, павінна ўзрасці яшчэ вышэй на працягу другой пяцігодкі і за яе межамі.

«Комуністычная партыя растворыцца поўнасцю ў рабочым класе толькі тады, калі комунізм перастане быць аб'ектам барацьбы—і ўвесь рабочы клас стане комуністычным».

Так гаворыцца ў пастанове II кангрэса Комінтэрна, якая была складзена пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна.

За апошні час ў радзе літаратурных выступленняў наглядаўся своеасаблівы рэцыдыў ліквідатарскіх тэорый у пытанні адмірання дзяржавы. У 1929-30 гг. ліквідатары сельсоветаў абмяжоўваліся абгрунтаваннем тэорыі адпадзення нізавых звенняў совецкай сістэмы, у навейшых-жа пісаннях робіцца спроба паставіць гэта пытанне значна шырэй.

«Адміранне дзяржавы—гэта працэс працяглы. Ён пачынаецца з **першага** дня пролетарскай рэволюцыі, з **першага** дня захопу ўлады пролетарыятам і арганізацыі сваёй уласнай дзяржавы і канчаецца на вышэйшай фазе комуністычнага грамадства» [2]) (падкрэслена мною.—Л. Р.).

Тав. Гарын у сваім артыкуле, прысвечаным XVII партканферэнцыі, запэўніваў чытачоў, што «адміранне дзяржавы, зразумела, адбываецца, **цэлы рад** функцый дзяржавы **адпадае** [3]) (падкрэслена мною.—Л. Р.).

[1] **Сталін**, „Пытанні ленінізма", стар. 96.

[2]) **Я. Берман**. „Дыктатура пролетарыята ў другой пяцігодцы", Партвыдат, 1932, стар. 49.

[3]) **М. Гарын**. Артыкул у часопісе „Большэвік Беларусі", № 5 за 1932 г., стар. 33.

Не гледзячы на тое, што памянёныя таварышы ў сваіх артыкулах гавораць таксама аб задачах умацавання дыктатуры пролетарыята, іх сцверджанні з'яўляюцца непераканаўчымі ў святле глыбока памылковага і няправільнага разумення дыялектыкі пролетарскай дзяржавы.

Разглядаючы нашу пролетарскую дзяржаву, як «поўдзяржаву» ў тым сэнсе, што праз яе ажыццяўляецца гістарычная задача ліквідацыі класаў і падрыхтоўваюцца ўмовы для будучага адмірання дзяржавы, Ленін і Сталін неаднакроць падкрэслівалі, што для давядзення дыктатуры да поўнага і канчатковага знішчэння класаў патрэбна існаванне магутнай пролетарскай дзяржавы.

Тав. Берман, і ўсе, хто стаіць на яго пункце погляду, змяшалі, звалілі ў адну кучу сучасны перыяд **падрыхтоўкі ўмоў** для будучага адмірання дзяржавы з эпохай комунізма, калі, як указвае Ленін у «Дзяржаве і рэволюцыі», будуць створаны «эканамічныя асновы поўнага адмірання дзяржавы».

Да гэтага часу нас вядзе рэволюцыйная дыктатура пролетарыята, якую мы павінны максімальна ўзмацняць праз уздым і палепшанне працы ўсіх яе звенняў, праз усё большае ўцягненне шырокіх працоўных мас у справу дзяржаўнага кіраўніцтва.

«Мы за адміранне дзяржавы,—гаварыў т. Сталін на XVI партыйным з'ездзе,—і мы разам з тым стаім за ўзмацненне дыктатуры пролетарыята... Вышэйшае развіццё дзяржаўнай улады ў мэтах **падрыхтоўкі ўмоў** для адмірання дзяржаўнай улады—вось марксісцкая формула», Толькі людзі,—падкрэслівае т. Сталін,—якія ўхіляюцца ад марксізма-ленінізма, не разумеюць гэтай жыццёвай дыялектычнай «супярэчнасці».

«Адміранне» дзяржавы,—напамінаў т. Сталін на студзеньскім пленуме ЦК,—прыдзе не праз аслабленне дзяржаўнай улады, а праз яе **максімальнае ўзмацненне**, якое неабходна для таго, каб дабіць рэшткі паміраючых класаў і арганізаваць абарону супроць капіталістычнага абкружэння, якое яшчэ далёка не знішчана і не хутка яшчэ будзе знішчана».

Так трэба разумець маркса-ленінскае вучэнне аб адміранні дзяржавы, развітае і дапоўненае т. Сталіным. Інакшая пастаноўка пытання немінуча прыводзіць да скату на антыленінскія пазіцыі, да аслаблення дыктатуры пролетарыята.

У сваім геніяльным па змесце справаздачным дакладзе на XVII партыйным з'ездзе т. Сталін, даючы неперавышаны аналіз дасягнутых перамог і далейшых шляхоў умацавання дыктатуры пролетарыята і будаўніцтва соцыялізма, з вычарпальнай яснасцю паказаў, чаго варты розныя гора-тэарэтыкі, якія разважаюць аб адміранні пролетарскай дзяржавы ўжо на даным этапе.

«Тэзіс аб нашым прасоўванні к бяскласаваму грамадству, даны як лозунг, яны зразумелі, як стыхійны працэс, і яны прыкідвалі: калі бяскласавае грамадства, то значыць, можна аслабіць класавую барацьбу, можна аслабіць дыктатуру пролетарыята і наогул пакончыць з дзяржавай, якая ўсёроўна павінна адмерці ў бліжэйшы час. І яны прыходзілі ў цялячае захапленне ў чаканні таго, што неўзабаве не будзе ніякіх класаў,—значыць не будзе класавай барацьбы, значыць не будзе клопату і хвалявання, значыць можна скласці зброю і пайсці на бакавую спаць у чаканні прыходу бяскласавага грамадства».

Тав. Сталін з уласцівай для яго сілай правадыра пролетарыята папярэдзіў, што мабілізаванасць і большэвіцкая ўзброенасць усёй

партыі змогуць і надалей даць рашучы адпор усякім спробам звесці пролетарыят з паслядоўнага ленінскага шляху.

Шляхі ўмацавання дыктатуры пролетарыята, указаныя Леніным, у нашу эпоху ўзняты на новую вышыню яго лепшым паслядоўцам т. Сталіным. Шэсць умоў т. Сталіна, яго ідэя стварэння палітаддзелаў МТС указанні аб ахове соцыялістычнай уласнасці—з'яўляюцца адзінай геніяльнай праграмай, якая накіроўвае ажыццяўленне пабудовы соцыялістычнага грамадства. У гэтай сувязі пастанова па дакладу т. Кагановіча на XVII партыйным з'ездзе аб партыйным і совецкім будаўніцтве дае канкрэтны большэвіцкі план ажыццяўлення ўказанняў Леніна-Сталіна аб умацаванні ўсіх звенняў партыйнага і совецкага апарата.

«Сучасны перыяд соцыялістычнага будаўніцтва,—гаворыцца ў пастанове,—характарызуецца яшчэ большым ускладненнем задач, яшчэ большым павышэннем запатрабаванняў, прад'яўляемых кіраўніцтву. Асноўныя задачы другой пяцігодкі... ставяць з усёй вастрасцю пытанне аб павышэнні якасці працы ва ўсіх галінах, **у першую чаргу якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва»** (падкрэслена мною.— Л. Р.).

У адпаведнасці з лозунгам т. Сталіна «па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць» пастанова намячае рад важнейшых мерапрыемстваў, у аснову якіх пакладзены ленінскія ідэі. Пастанова патрабуе—пераходу ад «агульнага» кіраўніцтва да канкрэтнага, ад «агульных» рэзалюцый да аперацыйных рашэнняў, да ведання дэталей і тэхнікі справы, да ўзмацнення асабістай адказнасці кіраўнікоў за даручаную ім справу як па партыйнай, так і па совецкай лініі, да сістэматычнай і дэталёвай праверкі выканання дырэктыў партыі і ўрада. У пастанове прыводзіцца рад палажэнняў, непасрэдна выцякаючых з указанняў Леніна, даных у апошнія гады яго жыцця.

27 лютага 1922 г. у «Праекце дырэктывы наконт работы СПА і СНК» Ленін пісаў: «Барацьба з балотам бюракратызма і цяганіны, праверка людзей і праверка работы; бязлітаснае выгнанне лішніх чыноўнікоў, скарачэнне штатаў, змяшчэнне комуністаў, якія не вучацца справе кіраўніцтва ўсур'ёз—такава павінна быць лінія наркомаў і СНК... [1]).

Вельмі цікава і надзвычай характэрна, што пан Троцкі ў тыя часы катэгарычна адмаўляў мэтазгоднасць мерапрыемстваў Леніна. Апалагет дзяляцкага адміністравання—Троцкі зводзіў глыбока прынцыповыя ўказанні Леніна аб палепшанні справы арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва да голага тэхніцызма ў рабоце дзяржаўнага апарата.

«Праверка выканання,—пісаў там Троцкі,—аб якой гаворыць праект пастановы, як аб галоўнай практычнай задачы, не з'яўляецца на самай справе галоўнай задачай»... І ў якасці рэцэптаў палепшання справы кіраўніцтва гэты апостал бюракратызма раіў абмежавацца наступным: «Патрэбна навучыць перапісчыцу лепш перапісваць (без сказенняў), тэлефаністак не блытаць нумары, бухгалтароў—своечасова і правільна запісваць прыбытак і выдатак»... [2]).

Ні аднаго слова аб уцягненні працоўных мас у справу дзяржаўнага кіраўніцтва, ні аднаго слова аб цяснейшай сувязі арганізацыйнай і палітычнай справы ў Троцкага няма. Гэта не дзіўна і не вы-

[1]) Ленін „Аб палепшанні дзяржапарата і барацьба з бюракратызмам і валакітай“ ГИЗ, 1930 г., стар. 56.

[2]) Ленін „Аб палепшанні дзяржапарата“, стар. 70.

падкова:—рэнегат Троцкі ніколі не разумеў усёй глыбіні ленінскай тэорыі дыктатуры пролетарыятá, ён заўсёды імнуўся яе сказіць і рэвізаваць яе змест.

Надаючы выключнае значэнне арганізацыйнай рабоце, т. Кагановіч у сваіх тэзісах цалкам выходзіў з гістарычнага выступлення Леніна на XI з'ездзе партыі:

«Любое палітычнае пытанне можа быць арганізацыйным і наадварот. Нельга механічна аддзяляць палітычнае ад арганізацыйнага. Палітыка вядзецца праз людзей, а калі будуць пісаць паперкі другія людзі, то нічога не выйдзе [1]).

Агромнае значэнне тэзісаў т. Кагановіча заключаецца ў іх бальшэвіцкай мэтаімкненасці і накіраванасці да максімальнага ўзмацнення ўсёй сістэмы пролетарскай дыктатуры ў адпаведнасці з патрабаваннямі нашай гістарычнай эпохі.

Воля рабочага класа і яго авангарда—комуністычнай партыі—гучыць у словах т. Сталіна, на якія з усёй паслядоўнасцю спасылаецца т. Кагановіч:

«Хіба хто-небудзь будзе сцвярджаць, што даволі даць добрую палітычную лінію—і справа скончана. Не, гэта толькі поўсправы. Толькі пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, неабходна падабраць работнікаў так, каб на пастах стаялі людзі, якія могуць ажыццяўляць дырэктывы, якія могуць прыняць гэтыя дырэктывы як свае родныя і могуць праводзіць іх у жыццё.

У праціўным выпадку палітыка траціць сэнс і ператвараецца ў маханне рукамі».

*Шляхі яшчэ большага палітычнага ўмацавання дыктатуры пролетарыята такім чынам неаддзельны, неадрыўны ад павышэння ўсіх паказчыкаў арганізацыйнай работы.*

Да XVII партыйнага з'езда рабочы клас і ўсе працоўныя СССР прышлі з велізарнымі дасягненнямі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Праграма бальшэвіцкага дзеяння вызначаная ў пастановах XVII з'езда, будзе ажыццёўлена на аснове яшчэ большага творчага ўздыму пролетарыята, які пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ідзе к поўнай перамозе соцыялістычнага ладу.

Энтузіязм пролетарыяў нашай краіны надасць сілы міжнароднаму пролетарыяту і ўздыме яго волю ў рэволюцыйнай барацьбе з сусветнай буржуазіяй і яе фашысцкай і соцыял-фашысцкай зграяй.

10 год без Леніна, але па-ленінскім шляху, пад сцягам ленінізма вядзе нас партыя на чале з т. **Сталіным.**

Вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна аб рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята і шляхах яе ўмацавання, адлюстраванае ў рашэннях XVII з'езда ВКП(б), з'явіцца тым маяком, які асветліць пролетарыяту і ўсяму працоўнаму чалавецтву шлях да вялікай будучыні—бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

---

[1]) **Ленін т. XXII, стар. 264.**

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

# РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Сусветны эканамічны крызіс

У справаздачным дакладзе XVII з'езду аб рабоце дэлегацыі ВКП(б) у ВККІ тав. Мануільскі ў першую чаргу падкрэсліў, што ўвесь ход сусветных падзей апошніх трох з паловай год цалкам і поўнасцю пацвердзіў правільнасць тых палажэнняў аб ходзе сусветнага эканамічнага крызіса і нарастання рэволюцыйнага руху ў краінах капіталізма, якія былі выказаны т. Сталіным на XVI з'ездзе партыі ў 1930 г. Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVI з'ездзе ўказваў, што стабілізацыі капіталізма прыходзіць канец, што эканамічны крызіс будзе немінуча перарастаць у крызіс рэволюцыйны, што рэволюцыйны ўздым мас будзе нарастаць з новаю сілай. Гэтыя палажэнні поўнасцю пацвердзіліся жыццём. XII пленум ВККІ ужо мог канстатаваць канец капіталістычнай стабілізацыі. Пасля XII пленума ВККІ мы маем нарастанне рэволюцыйнага руху мас, мы маем перарастанне ў радзе краін эканамічнага крызіса ў агульнанацыянальны рэволюцыйны крызіс. Далейшае развіццё кітайскай рэволюцыі, далейшае разгортванне ў Іспаніі буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, перарастаючай у рэволюцыю пролетарскую, нядаўняя ўсеагульная стачка ва Францыі і ў асабліваасці барыкадныя бойкі аўстрыйскага пролетарыята, як указвае перадавая «Праўды» ад 19/ІІ, «з'яўляюцца першым этапам новай паласы гіганцкіх класавых боек пролетарыята супроць фашызма за ўладу Советаў».

На тым-жа XVI з'ездзе т. Сталін указваў, што буржуазія будзе шукаць выхаду з крызіса, з аднаго боку, праз далейшую фашызацыю, «выкарыстаўшы для гэтага ўсе рэакцыйныя сілы, у тым ліку і соцыял-дэмакратыю», шукаць выхаду з крызіса шляхам далейшага наступлення на рабочы клас, з другога боку, гаварыў т. Сталін на XVI з'ездзе, буржуазія будзе шукаць выхаду з крызіса ў новых імперыялістычных войнах, асабліва ў контррэволюцыйнай вайне супроць краіны Советаў.

Гітлераўскі пераварот у Германіі, падзеі ва Францыі і Аўстрыі, з аднаго боку, нападзенне Японіі на Кітай і пагроза вайны Японіі супроць СССР,—поўнасцю пацвердзілі правільнасць прагноза данага т. Сталіным на XVI з'ездзе. Увесь ход сусветных падзей, як устанавіў XIII пленум ВККІ, паказвае аб такой спеласці аб'ектыўных прадпасылак рэволюцыйнага крызіса, што ў сучасны момант свет ужо шчыльна падыходзіць да новага туру рэволюцый і войн.

Якія-ж адметныя рысы сучаснага эканамічнага крызіса ў краінах капіталізма?

Тав. Сталін у дакладзе на XVII з'ездзе ўказваў, што важнейшай адметнаю рысай сучаснага эканамічнага крызіса з'яўляецца яго зацяжны характар, які тлумачыцца ў першую чаргу тым, што гэты крызіс адбываўся ва ўмовах агульнага крызіса капіталізма, «калі ка-

піталізм не мае ўжо і не можа мець ні ў асноўных дзяржавах, ні ў калоніях і залежных краінах той сілы і трываласці, якія ён меў да вайны і Кастрычніцкай рэволюцыі, калі прамысловасць капіталістычных краін атрымала ў спадчыну ад імперыялістычнай вайны хранічную недагрузку прадпрыемстваў і мільённыя арміі беспрацоўных, ад якіх яна не ў сілах вызваліцца». Зацяжны характар эканамічнага крызіса тлумачыцца і тым, што ён ахапіў усе капіталістычныя краіны, і што прамысловы крызіс пераплёўся з крызісам аграрным, што аграрны крызіс узмацніўся і ахапіў усе галіны сельскай гаспадаркі, што пануючыя манапольныя картэлі стараюцца захаваць высокія цэны на тавары.

Гаворачы аб становішчы сусветнага эканамічнага крызіса на сучасным этапе, т. Сталін у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) сказаў, што

> «капіталізму ўдалося некалькі палегчыць становішча прамысловасці за лік рабочых, за лік фермераў, за лік сялян калоній і эканамічна слабых краін»

У адносінах прамысловасці зараз

> «мы маем справу з пераходам ад пункту найбольшага ўпадку прамысловасці, ад пункту найбольшай глыбіні прамысловага крызіса к дэпрэсіі, але к дэпрэсіі не звычайнай, а к дэпрэсіі асобага роду, якая не вядзе да новага ўздыму і росквіту прамысловасці, але і не варочвае яе да пункту найбольшага ўпадку».

Як трэба разумець гэтую характарыстыку сучаснага эканамічнага крызіса?

Дэпрэсія, да якой пераходзіць прамысловасць капіталістычных краін на сучасным этапе, у корані адрозніваецца ад звычайнай «нармальнай» дэпрэсіі, якая вяла звычайна капіталізм да новага прамысловага ўздыму. Карэннае гэта адрозненне заключаецца ў тым, што гэтая дэпрэсія будзе працякаць на аснове паглыбляючагася агульнага крызіса капіталізма: хранічнай недагрузкі прадпрыемстваў, шматмільённай арміі беспрацоўных, паглыбляючагася аграрнага крызіса, ва ўмовах канца стабілізацыі капіталізма, калі свет шчыльна падышоў да новага тура рэволюцый і войн. Асобы характар пачынаючайся дэпрэсіі заключаецца ў тым, што яна не вядзе да новага ўздыму, але і не варочаецца да пункту найбольшага ўпадку.

Пераход к дэпрэсіі, такім чынам, не азначае новай стабілізацыі капіталізма, не азначае палепшання становішча працоўных мас і таму не з'яўляецца перашкодай для наспявання рэволюцыйнага крызіса.

Буржуазія змагаецца за капіталістычны выхад з крызіса. Па-першае, яна перакладае выдаткі крызіса на плечы працоўных **сваёй** краіны шляхам зніжэння заработнай платы, пагоршання соцыяльнага заканадаўства, павелічэння падатковага цяжару, падаючага на плечы працоўных, і рознымі іншымі сродкамі ўзмацнення эксплаатацыі працоўных сваёй краіны і калоній.

Як толькі пачаўся сучасны эканамічны крызіс ў 1929 г., буржуазія ўсіх краін тэрмінова разгарнула наступленне на эканамічны ўзровень працоўных сваіх краін і калоній, з найвялікшай настойлівасцю зніжала заработную плату, закрываліся прадпрыемствы, выкідваліся тысячы і дзесяткі тысяч рабочых, узмацнялася інтэнсіфікацыя працы, пагаршалася і знішчалася зусім соцыяльнае заканаўдаўства і т. д. і т. п.

За лік гэтых мерапрыемстваў буржуазіі ўдалося дабіцца к 1933 г. перасілення пункту найвялікшай глыбіні прамысловага крызіса. Але разам з тым, як устанавіў XIII пленум ВККІ:

«Эканамічная палітыка фінансавай алігархіі ў мэтах перасілення крызіса (аграблення рабочых і сялян, субсідыі капіталістам і памешчыкам) не ў стане аднавіць стабілізацыю капіталізма, а, наадварот, садзейнічае далейшаму распаду механізма капіталістычнай эканомікі (расстройства грашовай сістэмы, бюджэта, дзяржаўныя банкроцтвы, далейшае паглыбленне аграрнага крызіса), рэзкаму абвастрэнню асноўных супярэчнасцей капіталізма».

У гэтых умовах у буржуазіі расце няўпэўненасць у магчымасці выйсці з сучаснага эканамічнага крызіса за лік узмацнення эксплаатацыі працоўных гэтай краіны і, наадварот, павялічваецца неабходнасць у спробах шукаць выхаду з сучаснага крызіса за лік іншых краін, на шляхах імперыялістычнай вайны.

Тав Сталін у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) сказаў:

«Узмацненне барацьбы за знешнія рынкі, знішчэнне апошніх рэштак свабоднага гандлю, забаронныя таможанныя пошліны, гандлёвая вайна, вайна валют, дэмпінг і многія іншыя аналагічныя мерапрыемствы, дэманструючыя крайні нацыяналізм у эканамічнай палітыцы, абвастрылі да крайнасці адносіны паміж краінамі, стварылі глебу для ваенных сутычак і паставілі на чаргу вайну, як сродак новага перадзелу свету і сфер уплыву ў карысць больш моцных дзяржаў».

Буржуазія пачала барацьбу з крызісам мерапрыемствамі па перакладванню выдаткаў крызіса на плечы працоўных сваёй краіны і сваіх калоній. Такім шляхам капіталізму ўдалося некалькі палегчыць становішча прамысловасці за кошт рабочых. Але з прычыны таго, што гэтых мерапрыемстваў недастаткова для росквіту прамысловасці і з прычыны росту супярэчнасцей у лагеры імперыялізма, буржуазія аказваецца вымушанай падрыхтоўваць новую вайну, а гэта азначае, што тую эканомію, якую буржуазія атрымлівае ў рэзультаце ўзмацнення эксплаатацыі працоўных сваёй краіны, яна кідае ў галіны прамысловасці, звязаныя з падрыхтоўкай вайны, аднача́сова яшчэ больш узмацняючы эксплаатацыю працоўных. З другога боку, паколькі ў рэзультаце курса на вайну, прадукты ваеннай прамысловасці набываюць вялікі попыт, ваенная прамысловасць становіцца самай выгаднай галіною прамысловасці, таму капіталы ў сілу натуральных законаў свайго руху імкнуцца ў ваенную прамысловасць.

Аднак няправільна было-б тлумачыць дэпрэсію толькі ваенна-інфляцыйнай кан'юнктурай.

«Некаторыя схільны прыпісаць гэтую з'яву,—гаворыць тав. Сталін,—уплыву выключна штучных фактараў накшталт ваенна-інфляцыйнай кан'юнктуры. Не можа быць сумнення, што ваенна-інфляцыйная кан'юнктура іграе тут не малую ролю... Але было-б грубай памылкай тлумачыць усё ваенна-інфляцыйнай кан'юнктурай. Такое тлумачэнне няправільна хоць-бы таму, што ахарактарызаваныя мною некаторыя зрухі ў прамысловасці назіраюцца не ў паасобных і выпадковых раёнах, а ва ўсіх, або амаль ва ўсіх прамысловых краінах, у тым ліку ў краінах з цвёрдай валютай. Відавочна, што побач з ваенна-інфляцыйнай

кан'юнктурай тут мае месца таксама дзеянне ўнутраных эканамічных сіл капіталізма».

Некаторае ажыўленне ў галіне прамысловасці капіталістычных краін дасягнута як далейшым наступленнем на жыццёвы ўзровень працоўных мас, так і шляхам падрыхтоўкі капіталістычных краін да новай вайны.

Відавочна, што па меры далейшага развіцця сучаснага становішча, па меры далейшага нарастання небяспекі імперыялістычных войн, роля ваенна-інфляцыяністкага фактара будзе павялічвацца. Гэта можна бачыць асабліва відавочна на прыкладзе сучаснай Японіі, аб чым гаварыў т. Сталін у сваім справаздачным дакладзе.

Такі-ж малюнак можна наглядаць у сучаснай Германіі. Прамысловасць Германіі ў 1933 г. дае рад паказчыкаў некаторага палепшання. Але з якіх элементаў складаецца гэтае палепшанне? Перш за ўсё яно захапляе галіны прамысловасці, звязаныя з падрыхтоўкай вайны. Так, напрыклад, вытворчасць сталі ў Германіі ў 1933 г. у параўнанні з 1932 г. павялічылася на 48 проц. Галоўным спажыўцом сталі ў Германіі зараз з'яўляюцца ваенныя заводы. Вядомы хімічны завод Ленверк у 1933 г. павялічыў колькасць занятых рабочых на тысячу чалавек. Гэта павелічэнне адбылося ў сувязі з пераходам завода Ленверка на вытворчасць сінтэтычнага бензіна, а, як вядома, бензін з'яўляецца адным з важнейшых фактараў сучаснай ваеннай тэхнікі.

Развіваючы дэмагогію аб неабходнасці абараняць нацыянальны гонар Германіі ад Версальскага дагавора і Лігі нацый, гітлераўскі ўрад у агромнай меры ўзмацніў націск на рабочы клас, заклікаючы яго да новых, большых афяр у імя інтарэсаў бацькаўшчыны, пад сцягам абароны бацькаўшчыны і т. д. Агульная сума заработнай платы ў Германіі ў 1933 г. у параўнанні з 1932 г. была зніжана на 90 млн. марак. На тым-жа заводзе Ленверк сярэдняя тыднёвая плата работніцы ў 1933 г. у параўнанні з 1932 г. упала з 32 марак да 19 марак. У апошні час германская буржуазія праводзіць узмоцненую кампанію сярод рабочых, заклікаючы іх да далейшага «добраахвотнага» зніжэння заработнай платы. На адным заводзе эмаліраванай пасуды сярод рабочых нядаўна распаўсюджваліся падпісныя лісты, абавязваючыя рабочых к зніжэнню заработнай платы на 20 проц. на працягу 2 год, пасля якіх кожны рабочы атрымае мастацкі выкананую картку, якая будзе сведчыць аб яго саўдзеле ва аўладанні даным прадпрыемствам.

Усе гэтыя махінацыі робяцца фармальна добраахвотна, але калі які-небудзь рабочы адмаўляецца, то ён безадкладна выкідваецца з прадпрыемства і, акрамя таго, на яго галаву сыплюцца ўсякія дадатковыя рэпрэсіі, як на асобу, падазроную па сваіх сімпатыях к марксізму, к комунізму і т. п.

Такім чынам, самы пераход буржуазіі на шлях вайны стварае новы стымул для далейшай яшчэ больш жорсткай эксплаатацыі працоўных сваёй краіны. Гэтыя мерапрыемствы будуць даваць новую «эканомію» на выдатках вытворчасці, і гэта новая эканомія па законах руху капітала будзе перш за ўсё накіроўвацца ў прадпрыемствы ваеннай прамысловасці, узмацняючы імперыялістычныя супярэчнасці і паскараючы, такім чынам, блізкасць ваенных імперыялістычных сутычак.

Тав. Сталін сказаў у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе партыі:

> «У абстаноўцы гэтай ваеннай свістапляскі, ахапіўшай цэлы рад краін, СССР прадаўжаў стаяць за гэтыя гады цвёрда і непахісна на сваіх мірных пазіцыях, змагаючыся з пагрозай вайны, змагаючыся за захаванне міру, ідучы насустрач тым краінам, якія стаяць так або інакш за захаванне міру, выкрываючы і зрываючы маску з тых, хто падрыхтоўвае, правакуе вайну».

СССР зацікаўлен у захаванні міру. СССР зацікаўлен у захаванні міру таму, што вайна немінуча будзе тармазіць ажыццяўленне вялікіх планаў будаўніцтва соцыялізма. Але іменна таму, што СССР зацікаўлен у захавані міру, мы павінны з найвялікшай энергіяй узмацняць абароназдольнасць СССР. Не падлягае ніякаму сумненню, што, калі-б пад кіраўніцтвам нашай партыі не была праробленa такая гіганцкая работа па ўмацаванню абароназдольнасці СССР, аб якой дакладваў т. Варашылаў на XVII з'ездзе партыі, нашы граніцы былі-б ужо не адзін раз парушаны імперыялістычнымі драпежнікамі.

У апошні час ураду СССР удалося заключыць пакты аб ненападзе і падпісаць дагаворы аб вызначэнні агрэсара з вялікай колькасцю капіталістычных краін, у тым ліку амаль з усімі краінамі, мяжуючымі з СССР, і з такімі імперыялістычнымі дзяржавамі, як Польшча, Германія, Францыя, Англія. СССР прызнан ПАЗШ. Дзяржавы, якія яшчэ не прызналі СССР, узмоцнена абгаварваюць формулы прызнання СССР у бліжэйшы час, відавочна адчуваючы, што сваім далейшым непрызнаннем СССР яны будуць ставіць сябе ва ўсё больш і больш нявыгаднае або проста смешнае становішча.

СССР будзе і надалей ажыццяўляць сваю палітыку міру, выкарыстоўваючы ў гэтых адносінах самыя малейшыя магчымасці,— як гаварыў тав. Сталін у сваёй гутарцы з панам Дзюранці,—выкарыстоўваючы самыя маленькія бугорчыкі, якія могуць прыпыніць рух кола вайны. Але наша партыя і ўсе працоўныя нашай краіны павінны цвёрда памятаць закон, устаноўлены т. Сталіным на XVI з'ездзе нашай партыі, што

> «кожны раз, калі капіталістычныя супярэчнасці пачынаюць абвастрацца, буржуазія звяртае свае погляды ў бок СССР: ці нельга вырашыць тую ці іншую супярэчнасць капіталізма або ўсе супярэчнасці разам за кошт СССР».

Фашысцкі пераварот у Германіі прывёў да перагруповак ва ўзаемаадносінах паміж імперыялістычнымі дзяржавамі. Фашысцкая Германія выступае за рэвізію Версальскага дагавора, за зварот Германіі Эльзас-Латарынгіі і Саарскай вобласці... Французскія імперыялісты аказваюцца зацікаўленымі ў тым, каб Польшча, устанавіўшы добрыя адносіны з СССР, пагражала Германіі з тылу, адцягваючы такім чынам пагрозу нападу Германіі на Францыю.

Наш урад нязўхільна вядзе палітыку міру, ён без вагання прымае ўсе прапановы ад капіталістычных краін, якія ў той ці іншай форме хоць-бы ў самай малой ступені ідуць у напрамку палепшання ўзаемаадносін з СССР. За гэтай мірнай палітыкай савецкага ўрада ляжаць карэнныя эканамічныя інтарэсы вялікага соцыялістычнага будаўніцтва. Але, прадаўжаючы гэтую палітыку, мы не павінны ні на адну мінуту спускаць з вока, што карэнныя інтарэсы пануючых класаў у капіталістычных дзяржавах штурхаюць іх на вайну, таму мы па-

вінны быць гатовымі і на нашых заходніх граніцах да раптоўных паваротаў «мірнай» палітыкі нашых капіталістыфных суседзяў, і ў асабліваці мы павінны быць гатовымі да такіх раптоўных паваротаў у сувязі з той ваеннай абстаноўкай, якая ўсё больш згушчаецца зараз на Далёкім усходзе.

XVII з'езд партыі прашоў пад знакам мабілізацыі грамадскай думкі партыі і працоўных краіны к небяспецы магчымасцей і блізкай вайны на Далёкім усходзе з японскімі імперыялістамі. Японскія імперыялісты дзейнічаюць не адны. Іх узмоцнена штурхаюць на вайну з намі і ў апошні час амаль у адкрытых формах англійскія кансерватары. Урад Гітлера фактычна супрацоўнічае з японскім урадам у яго антысовецкіх планах на Далёкім усходзе і за апошні час з'яўляецца адным з галоўных пастаўшчыкоў зброі для японскай арміі. Зараз можна гаварыць аб існаванні, калі не афіцыяльнага, то ў кожным разе фактычнага ваеннага антысовецкага саюза імперыялістаў Англіі, Германіі і Японіі. У гэтым саюзе японскія імперыялісты заклікаены адыграць ролю застрэльшчыкаў. Трэба быць вельмі наіўным, каб думаць, што калі пачнуцца ваенныя дзеянні на Далёкім усходзе, то англійскія кансерватары і нямецкія фашысты не зробяць усяго ад іх залежнага, каб стварыць ваенныя ўскладненні для СССР на заходніх граніцах. Да гэтага трэба быць гатовымі. Няхай папрабуюць, скажам словамі т. Сталіна:

> «Але калі буржуазія абірае шлях вайны, то рабочы клас капіталістычных краін, даведзены да роспачы чатырохгадовыя крызісам і беспрацоўем, становіцца на шлях рэволюцыі... Ідэя штурму наспявае ў масах... і няхай не скардзяцца на нас паны буржуа, калі яны на другі дзень пасля такой вайны не далічацца некаторых блізкіх ім урадаў»...

Буржуазія робіць галоўную стаўку на вайну. Пролетарыят рыхтуецца да штурму. XIII пленум ВККІ ўстанавіў, «што ў сучасны момант свет ужо шчытна падыходзіць да новага туру рэволюцый і войн».

**Васільеў**

### Што чытаць:

1. **Сталін**—Справаздачны даклад XVII з'езду аб рабоце ЦК ВКП(б), раздзел І.

**Мануільскі**—Справаздачны даклад XVII з'езду ВКП(б) аб рабоце дэлегацыі ВКП(б) ВККІ, раздзелы І і ІІ.

**К. Варашылаў**—Прамова на XVII з'ездзе

**Блюхер**—Прамова на XVII з'ездзе.

**Варга**—«О современном этапе мирового экономического кризиса», «Большевик» № 3—4 за 1934 г.

Кальянаў З. Р.

# Разводзьце новыя кармавыя культуры

Далейшае развіццё жывёлагадоўлі патрабуе ад соўгасаў і калгасаў, МТС і зямельных органаў вялікай увагі ў адносінах кармавых культур. Побач з усямерным пашырэннем старых кармавых раслін і павышэннем іх ураджайнасці, нам неабходна павесці рашучую барацьбу за аўладанне і ўкараненне раду новых кармавых культур, каштоўнасць якіх не выклікае сумнення, а магчымасць культывавання ва ўмовах БССР даведзена доследамі Турскай сельска-гаспадарчай даследчай станцыі і іншымі навукова-даследчымі ўстановамі. На характарыстыцы гэтых раслін мы і спынімся, каб паказаць карысць развядзення іх у калгасах і соўгасах.

САРАДЭЛЯ—аднагадовая бабовая расліна. Мае высокую кармавую якасць. На працягу свайго развіцця да позняй восені амаль не дзервянее. Ва ўмовах БССР развіваецца добра. Самастойнага поля не патрабуе. Разводзіцца падсевам пад азімыя ці яравыя культуры. Можа служыць адной з найлепшых культур для ўшчыльнення севазварота. Ураджайнасць 150—200 цэнт. зялёнай масы з га. Можа ўжывацца на сена, сілос, зялёны корм, выпас і зялёнае ўгнаенне. Ахвотна паядаецца ўсімі відамі сельска-гаспадарчай жывёлы. Асабліва каштоўны корм для кароў і свіней. Галоўнае распаўсюджанне павінна знайсці ў Палессі і Прадпалессі.

КОНСКІЯ БАБЫ—аднагадовая расліна. Па ўраджайнасці зярна займае адно з першых месц сярод іншых бабовых культур. У вырашэнні бялковай праблемы ёй павінна належаць галоўная роля. У БССР развіваецца нармальна. У асноўным ужываецца на сілос і для культуры на зярно. Ураджайнасць зялёнай масы дасягае 200 цэнт., а зярна—20 цэнт. з га. Галоўнае распаўсюджанне павінна знайсці ў паўночнай зоне БССР.

ПЯЛЮШКА (шэры гарох)—бабовая аднагадовая расліна. Раней у БССР не культывавалася. Пялюшка менш патрабавальна, чым яравая віка, і таму з'яўляецца сур'ёзным яе канкурэнтам на ўсіх лёгкіх пясчаных і супясчаных глебах. Згодна 4-гадовым доследам Турскай даследчай станцыі, ураджайнасць пялюшкі 73,45 цэнт. сухой масы з га, вышэй чым яравой вікі—69,25 цнт. з га. Яна можа ўжывацца на сена, аднагадовы выпас і сілос. Ахвотна паядаецца ўсімі відамі жывёлы. Зярно пялюшкі з'яўляецца асноўным бялковым канцэнтратам. Пялюшка ў першую чаргу павінна ўводзіцца ў Палессі і Прадпалессі на ўсіх пясчаных і супясчаных глебах.

АЗІМАЯ ВІКА—як і яравая, належыць да групы бабовых раслін. У БССР раней зусім была невядома. У вырашэнні кармавой праблемы ёй належыць выключная роля. Справа ў тым, што азімая віка, пасеяная з восені, дае ранні веснавы корм і гэтым вырашае пытанне най-

больш ранніх веснавых зялёных падкормаў. Апрача гэтага азімая віка дазваляе атрымаць два нармальныя ўраджаі ў год. Звычайна пасля яе скарыстання вясной, на тым-жа самым месцы застаецца яшчэ даволі часу для пасеву бульбы, караньплодаў, траў і т. д. На Турскай даследчай станцыі ў 1931 г. азімая віка пры яе выпасным скарыстанні ўжо 28 мая дала 135 цэнт. зялёнай масы з га. Атаўнасць азімай вікі вельмі высокая. У тым-жа 1931 г. на Турскай даследчай станцыі азімая віка дала атавы 50 цэнт. сырой масы з га. Па ўтрыманню бялкоў і крухмальных эквівалентаў азімая віка знаходзіцца ў ліку першых бабовых раслін. Ужываецца яна на сена, выпас, сілос і зялёны корм. Паядаецца ўсімі відамі жывёлы. Палессе і Прадпалессе—найбольш спрыяючыя раёны для яе распаўсюджання.

БЕЛАЯ ГАРЧЫЦА—раней зусім не сеялася ў БССР. Передавая практыка калгасаў і Турскай даследчай станцыі паказалі, што гарчыца вельмі добра развіваецца ва ўмовах БССР. У зялёным выглядзе яна дае каштоўны корм для буйнай рагатай жывёлы. Вартасць гарчыцы як кармовай расліны абумоўліваецца тым, што яна развіваецца вельмі хутка і таму можа служыць для ўшчыльнення севазвароту. Напрыклад, у адным і тым-жа годзе, на адным і тым-жа месцы пасля скармлівання азімай вікі магчыма высеяць гарчыцу на корм, а пасля яе застаецца даволі часу для пасеву азімага хлеба. Белая гарчыца дае вельмі вялікі ўраджай. У 1932 г. на Турскай даследчай станцыі дала 252 цэнт. сырой масы на га. Апрача гэтага, насенне гарчыцы багата маслам і ўжываецца ў маргарынавай прамысловасці. Белая гарчыца можа разводзіцца па ўсёй БССР.

КАРМАВАЯ ТЫКВА—дае вельмі добры корм для свіней і буйнай рагатай жывёлы. На пясчаных палявых глебах Турскай сельска-гаспадарчай станцыі яе ўраджайнасць дасягае звыш 400 цэнт. сырой масы з га, а пры лепшай заправцы можа дасягаць 600—700 цэнт. з га. Па кармавой якасці не ўступае караньплодам. Насенне тыквы мае 40 проц. тлушчы і можа служыць крыніцай сыравіны для харчовай прамысловасці. Разводзіцца можа ў Палессі і Прадпалессі.

КАРМАВАЯ КАПУСТА—у БССР і СССР раней зусім не разводзілася. Доследы апошніх год у нас і за межамі паказалі, што кармавая капуста—вельмі каштоўная кармавая расліна для ўсіх відаў жывёлы. Яе ўраджайнасць дасягае 500—800 цэнт. зялёнай масы з га. Ужываецца на выпас, зялёны корм і сілос. У зялёным кармавым канвееры дае сакавіты корм самай позняй восенню перад надыходам зімы. З аднолькавым поспехам можа разводзіцца па ўсёй БССР.

ТАПІНАМБУР—вельмі каштоўная кармавая культура, невядомая нашаму насельніцтву. Ён дае высокі ўраджай батвы і клубняў. Батва і клубні з вялікай ахвотай паядаюцца ўсімі відамі жывёлы. Па кармавых якасцях клубні тапінамбура стаяць вышэй іншых караньплодаў. Сілос з батвы тапінамбура па якасці не ўступае сілосу кукурузы. Апрача гэтага, клубні тапінамбура могуць служыць прадуктам спажывання для чалавека, для мэт вінакурэння, здабывання з іх цукру і сінтэтычнага каўчука. Доследы Турскай сельска-гаспадарчай станцыі паказалі, што па сваёй ураджайнасці тапінамбур стаіць вышэй за бульбу і наогул у нас развіваецца вельмі добра БССР па сваіх глебакліматычных умовах з'яўляецца адным з найлепшых раёнаў для развіцця тапінамбура. Найбольшае распаўсюджанне павінен атрымаць ён у свінагадоўчых раёнах. Ураджайнасць батвы тапінамбура дасягае 250 цэнт., а клубняў—150 цэнт. з га.

# Ліст у рэдакцыю „Большэвік Беларусі“

*У часопісе «Большэвік Беларусі» № 17—18 за 1933 г. зьмешчана кансультацыя А. Буткевіча і А. Гарэлікава па захаваньню і вырошчваньню парасят, якая 4-II—34 г. прапрацоўвалася на нарадзе свінарoў свінафермы соўгаса «Самацэвічы», Касцюковіцкага раёна, дзе ў час прапрацоўкі і абгаварэньня парад аб правільным карменьні і доглядзе парасят, на 173 старонцы ў 4-6 калонках зьнізу запісана: «У месячным узросце парасяты пераводзяцца на зьнятае малако, але абавязкова паступова, на працягу 3-4 дзён». З гэтай парадай зоатэхнікі і свінаводы не згаджаюцца, гаворачы, што тут напэўна, ёсьць апячатка і замест 2-х месячнага ўзросту, надрукавана «у месячны», чаго, па іх думцы, не можа быць, бо ў месячны тэрмін парасяты толькі пачынаюць прывучацца есьці і што, па іх думцы, на зьнятае малако парасяты пераводзяцца не ў месячным узросце, а ў 2-х месячным узросце.*

*Астатнія парады ў гэтай кансультацыі вельмі каштоўныя.*

*А таму прашу рэдакцыю даць па гэтаму пытаньню яскравае тлумачэньне па адрасу: п/о Гайдукоўка, Касцюковіцкага раёна, с/г Самацэвічы, сакратару яч-кі КП(б)Б Усцілько Д.*

*З тав. прыв. Сакратар яч-кі КП(б)Б Усцілько.*

*5/II—34 г.*

## Ад рэдакцыі

У дапаўненьне і растлумачэньне ранейшай кансультацыі, зьмешчанай у № 17—18 «Б. Б.» паведамляем наступнае:

Усякія ненармальнасьці ў карменьні не толькі парасят, але і маткі моцна адбіваюцца не толькі на якасьці маладняка, але і яго захаваньні. Вось чаму пытаньне правільнай падкормкі, побач з іншымі фактарамі (выкананьне зоагігіенічных умоў утрыманьня, арганізацыя працы) заслугоўваюць вялікай увагі.

Для правільнага росту парасят неабходна, каб задаваемы корм па свайму хімічнаму складу адпавядаў запатрабаваньням фармуючагася і растучага арганізма, а іменна: бялкі, тлушчы, вутляводы, мінеральная падкормка і вітаміны. Адсутнасьць аднаго з асноўных пераліченых кармоў, выклікаючы частковае галаданьне арганізма, адбіваецца на правільнасьці яго росту.

Адна з важнейшых якасьцей цэльнага малака заключаецца ў тым, што яно багата вітамінам **А** (вітамін росту). Гэты від вітаміна ў зьнятым малаку амаль адсутнічае, у той-жа час ён з'яўляецца кармовым удзельнікам у фармаваньні маладога растучага арганізма.

Вось чаму ў зоаветэрынарных правілах на 1934 г. Наркамзем БССР рэкамендуе наступны парадак арганізацыі падкормкі парасят:

1) З 5-дзеннага ўзросту парасят трэба прывучаць да мінеральнай падкормкі (тоўчаная цэгла, попел, крэйда, касцяная мука і інш.);

2) К 2-тыднёваму ўзросту парасяты настолькі развіваюцца, што яны ўжо могуць есці раздробленае паджаранае зярно, з гэтага ўзросту іх неабходна прывучаць да яго.

3) Малочная падкормка павінна быць арганізавана так:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **1-ы месяц**—цэльнага малака | 3 | літры, | знятага | 0 |
| **2-і месяц**— » | » | 5 | » | » | 7 |
| **3-і месяц**— » | » | 0 | » | » | 5 |

Такім чынам, парасяці павінна быць забяспечана ў падсосны перыяд 8 літраў цэльнага малака і 12 літраў знятага. Прычым у другім месяцы знятае малако ў рацыён павінна ўводзіцца паступова.

Так і належала разумець тую параду, якая была змешчана ў № 17—18 «Б. Б.» па пытанню аб ускармліванні парасят. Там таксама сказана, што «парасят адымаюць не раней 2-месячнага ўзросту і паступова». (стар. 174).

Значыць, месца, выклікаўшае ў вас сумненне, мае на ўвазе толькі тое, што з месячнага ўзросту трэба пачынаць паступова пераводзіць парасят на знятае малако і канчаткова адымаць, як указана ў кансультацыі: з 2-х месячнага ўзросту.

Правільная арганізацыя падкормкі, догляду і ўтрымання парасят, пры актыўным удзеле ў данай справе шырокіх калгасных мас забяспечыць выкананне рашэнняў XVII партз'езда па аднаўленню свінапагалоўя.

---

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе рамонту трактароў

### Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

1. Пленум ЦК адзначае, што цяперашнія тэмпы рамонту трактароў, не забяспечваюць сканчэння рамонту ва ўстаноўленыя ЦК і СНК БССР тэрміны, г. зн. к 15 сакавіка.

Асабліва дрэнна працуе Оршанская і Віцебская МТМ. Оршанская МТМ (дырэктар т. Талапіла) план рамонту выканала толькі на 57 проц., а Віцебская (дырэктар т. Леўшын) толькі на 60 проц. Кепска працуе таксама рад МТС: Талачынская, выканаўшая свой план толькі на 15 проц. (дырэктар тав. Боеў), Дубровенская—27,5 проц. (дырэктар т. Барысевіч), Лёзненская—20 проц. (дырэктар т. Нартышблук), Барысаўская—39 проц. (дырэктар тав. Фоміч), Даманавіцкая—40 проц. (дырэктар тав. Кунцэвіч), Мсціслаўская—45 проц. (дырэктар т. Нікіфараў), Суражская—46 проц. (дырэктар т. Барадулін), Горацкая—48 проц. (дырэктар т. Фралоў), а па сістэме Наркамсоўгасаў Віцебскі трэст—42,7 проц. (дырэктар т. Юдзін), Менскі молтрэст—46,6 проц. (дырэктар т. Сцепанаў, Менскі свінаводтрэст—55,6 проц. (дырэктар т. Смірноў).

2. Пленум ЦК адзначае асабліва неспрыяючае становішча ў значнай частцы МТС па сярэдняму рамонту трактароў (Сіроцінская, Горацкая, Талачынская, Сенненская, Оршанская, Лагойская МТС). Такое становішча з'яўляецца тым больш нецярпімым, што сярэдні рамонт трактароў поўнасцю забяспечан неабходным рамонтным матар'ялам і запчасткамі.

3. Пленум ЦК устанаўляе наступны канчатковы календарны расклад выканання плана рамонту трактароў па МТМ: па Дзяржынскай МТМ да 5 сакавіка выпусціць 16 адзінак і да 10 сакавіка астатнія 15 адзінак, па Віцебскай МТС да 5 сакавіка 20 адзінак і да 10 сакавіка астатнія 25 адзінак, па Оршанскай МТМ да 5 сакавіка 25 адзінак, да 10 сакавіка 20 адзінак і да 15 сакавіка астатнія 20 адзінак; па Клімавіцкай МТМ да 5 сакавіка 15 матораў; па Горацкай да 5 сакавіка 15 матораў і да 10 сакавіка астатнія 14 матораў; па Даманавіцкай МТМ да 5 сакавіка 22 маторы і да 10 сакавіка астатнія 20 матораў. Па лініі Наркамсоўгасаў устанавіць наступныя календарныя тэрміны сканчэння рамонту трактароў: Боркавіцкая МТМ к 7 сакавіка, Банонь—5 сакавіка, Уваравічы—10 сакавіка, «Перамога соцыялізма»—10 сакавіка, Менская МТС—20 сакавіка, Несецкая—20 сакавіка і Канічы—к 10 сакавіка.

Ускласці персанальную адказнасць за сканчэнне рамонту трактароў ва ўстаноўленыя пленумам тэрміны на наступных таварышоў: па Дзяржынскай МТМ на тт. Чэпоніса, Кроля і Дамброўскага; па Віцебскай МТМ на т. Волкава, Леўшына і Жураўлёва; па Оршанскай МТМ на тт. Талапіла, Разумава і Соскіна; па Клімавіцкай МТМ на тт. Шэлюка, Маўшовіча і Байко; па Горацкай МТМ на тт. Геравенка,

Серафімава і Лабанава; па Лепельскай МТМ на тт. Ламачынската, Янаніса і Хіжынкова; па Даманавіцкай МТМ на тт. Іванова, Цыборава і Пінчука.

4. Абавязаць Наркамзем (персанальна тав. Валковіча) і Снабрамонт (персанальна т. Будніка), упаўнаважанага НКСоўгасаў т. Жолудава і Соўгасснаба т. Ладычука забяспечыць атрыманне ад саюзнага Наркамзема і Наркамсоўгасаў па выдзеленых нарадах неабходнай колькасці вострадэфіцытных запчастак (каленчатых валаў, блокаў, шатуноў, шатунных балтоў, падшыпнікаў) і хуткае іх прасоўванне ў МТМ і МТС.

5. Пленум ЦК адзначае, што выяўленыя пры праверцы шматлікія факты нядобраякаснага рамонту трактароў некаторых МТС і МТМ (напрыклад, па Віцебскай МТМ заліта 30 матораў нядобраякасным бабітам, па Оршанскай МТМ былі пастаўлены трэснутыя гільзы, балты з сарванай разьбой) сведчаць аб адсутнасці ўвагі з боку дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў да якасці рамонту трактароў. Пленум абавязвае Наркамзем і Ўпоўнаркамсоўгасаў узмацніць тэхнічны кантроль і праверку якасці рамонту з тым, каб трактары кожнай МТС былі праверaны спецыяльнымі брыгадамі з прыцягненнем у гэтыя брыгады лепшых механікаў з другіх МТС і МТМ.

6. Пленум ЦК прапануе Наркамзему і Ўпоўнаркамсоўгасаў, побач з праверкай якасці рамонту, праверыць сапраўднае правядзенне капітальнага і сярэдняга рамонту ў кожнай МТС на аснове дэфектных ведамасцей і актаў прыёмкі трактароў з рамонту, і ў адпаведнасці з гэтым унесці ў план рамонту ў кожнай МТС адпаведнае змяненне.

7. Адзначаючы абсалютна нездавальняючы ход выканання мясцовай прамысловасцю вырабу запчастак, які выражаецца ў зрыве планаў і ў надзвычай высокім браку запчастак, даходзячых на паасобных прадпрыемствах да 50 проц. і звыш, пленум ЦК абавязвае ніжэйнаступныя заводы выканаць свае заданні па наступных календарных тэрмінах:

па заводу імя Варашылава—да 10 сакавіка па поршнях,
па заводу «Чырвоны адраджэнец»—да 20 сакавіка па поршнях,
па заводу «Рухавік рэвалюцыі»—да 5 сакавіка па поршнях,
па заводу «Чырвоны барэц»—да 15 сакавіка па поршнях.

### Па поршневых пальцах

Завод «Чырвоны металіст»—да 10 сакавіка,
завод «Пралетарый»—да 15 сакавіка,
акулярная фабрыка—да 20 сакавіка.

Абавязаць сакратароў адпаведных райкомаў устанавіць штодзенны кантроль за ходам выканання заданняў па выpабу запчастак па вышэйуказаных заводах.

Даручыць т. Амбражунасу і тав. Левіну дабіцца забяспечання ўсіх заводаў, выpабляючых запчасткі для трактароў, а таксама і для другіх сельска-гаспадарчых машын, неабходным матар'ялам, даручыўшы Камітэту па перавозкам і ўпаўнаважанаму НКШЗ забяспечыць перавозку гэтых матар'ялаў.

Прапанаваць апалаваму камітэту поўнасцю забяспечыць нафтай заводы, выpабляючыя запчасткі для цэментацыі, а таксама і бензінам і газай для пракаткі адрамантаваных трактароў.

## Аб падрыхтоўцы насення да веснавой сяўбы

### Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

1. Зацвердзіць прынятыя рашэнні ЦК ад 25 лютага 1934 г. аб праверцы становішча насенных і страхавых фондаў для веснавой пасеўнай кампаніі 1934 г. і рашэнне бюро ЦК ад 27 лютага аб правядзенні ў жыццё дырэктывы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 25 лютага 1934 г.

2. Пленум ЦК лічыць зусім нездавальняючым ход унутрыкалгаснага абмену, а таксама і абмен гатунковага і таварна-гатунковага насення на радавое зярно з калгасамі і праверку якасці насення на ўсходжасць і чыстату; у раёнах Лоеўскім, Прапойскім, Чэрыкаўскім, Камарынскім да гэтага часу яшчэ не прыступлена да праверкі насення, што з'яўляецца зусім недапушчальным.

Пленум абавязвае асабіста сакратароў РК, нач. палітаддзелаў МТС і старшынь РВК у аднадзенны тэрмін забяспечыць адкрыццё лабараторый і фарсіраваць шляхам мабілізацыі ўсіх аграсіл раёна праверку якасці насення. Пракурору рэспублікі тав. Кузьміну прыцягнуць да адказнасці загадчыкаў райза названых раёнаў, вінаватых у неадкрыцці да гэтага часу кантрольна-насенных лабараторый і пунктаў.

3. Прапанаваць Наркамзему, усім РК КП(б)Б, РВК, дырэктарам і нач. палітаддзелаў МТС і соўгасаў і загадчыкам райза забяспечыць выкананне ў дакладна ўстаноўленыя тэрміны ўсіх указанняў ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ад 25 лютага г. г. і кожную пяціднеўку інфармаваць ЦК аб ходзе выканання гэтай дырэктывы.

4. Пленум ЦК лічыць зусім недапушчальнай зацяжку ў засыпцы насення ў радзе раёнаў: Чэрвеньскім, Смалявіцкім, Суражскім, Чашніцкім, Мсціслаўскім, Полацкім, Дрысенскім, Лепельскім, Асвейскім, Сіроцінскім і Бешанковіцкім і прапануе сакратарам РК, старшыням РВК, дырэктарам і начальнікам палітаддзелаў МТС і загадчыкам райза закончыць засыпку насення не пазней 10 сакавіка і аб выкананні паведаміць ЦК.

5. Улічваючы асаблівасці лета 1933 г. і неспрыяючыя ўмовы буртавання бульбы, пленум абавязвае Наркамзем, сакратароў РК, старшынь РВК, дырэктароў і нач. палітаддзелаў МТС і соўгасаў, загадчыкаў райза ўзяць пад асобны нагляд умовы хавання бульбы, прыняўшы меры да праверкі яе становішча і захавання ад псавання. Наркамзему даць па гэтаму пытанню ў трохдзенны тэрмін практычныя ўказанні месцам.

6. Забараніць расходванне для памолу ўсяго годнага для пасеву зярна не ніжэй 80 проц., усходжасці і прапанаваць Заготзярно забяспечыць яго поўную захаванасць. Сакратарам РК, старшыням РВК, дырэктарам і начальнікам палітаддзелаў МТС і загадчыкам райза, пад асабістую іх адказнасць, неадкладна прыступіць да абмену нягоднага для пасеву зярна на добраякаснае з Заготзярно і калгасамі,

маючымі дастатковую колькасць яравога зярна, у прыватнасці, аўса, якi ў радзе калгасаў расходуецца на корм.

7. Наркамзему паведаміць раёнам, у якіх не хапае насення паасобных культур, аб лішках гэтага насення ў другіх раёнах, з тым каб раёны, адчуваючыя патрэбу ў гэтым насенні, маглі-б правесці адпаведны абмен. Для ўнікнення лішніх перавозак па чыгунцы міжраённы абмен праводзіць праз апарат Заготзярно, шляхам прыёмкі ад калгасаў і выдачы ім зярна з бліжэйшых пунктаў, са складаў Заготзярна. Суседнія раёны абавязаны арганізаваць абмен непасрэдна паміж калгасамі, перакідваючы насенне гужам.

8. Гаркомам, гарсаветам і прафарганізацыямі у дэкадны тэрмін праверыць забяспечанасць насеннем каапгасаў і соўгасаў ОРС-аў і прыняць меры да забяспечання насеннем бульбы, агародніх культур і інш.

9. Адзначаючы зусім нездавальняючае выкананне плана куплі насення з боку БКС, Белплодагароднiны і Саюзнасеннавода, пленум ЦК катэгарычна прапануе гэтым арганізацыям, пад асабістую адказнасць кіраўнікоў гэтых арганізацый, забяспечыць выкананне плана куплі насення траў, лубіну і агародніх культур да 20-III—34 г., а РК і РВК устанавіць строгі кантроль за работай гэтых арганізацый і прыняць самыя суровыя меры супроць бяздзельнікаў у справе загатоўкі насення.

# Аб размеркаванні даходаў

## Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

*ад 1 сакавіка 1934 г.*

Адзначаючы наяўнасць фактаў у большасці раёнаў няскончанага размеркавання даходў па асобных калгасах і наяўнасць фактаў непрадстаўлення Наркамзему своечасова справаздачнасці па пытанню аб размеркаванні даходаў, пленум ЦК лічыць, што гэтыя факты сведчаць аб недаацэнцы з боку РК выключнай важнасці справы размеркавання даходаў па калгасах і ставяць пад прамую пагрозу як гаспадарчае становішча, так і асабліва становішча кожнага калгасніка, а таксама затрудняюць работу па аказанню правільнай харчовай дапамогі калгасам і спрыяюць далейшай дрэннай рабоце па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы данага калгаса. У сувязі з гэтым пленум прапануе пад асабістую адказнасць сакратароў РК КП(б)Б і начпалітаддзелаў да 10 сакавіка поўнасцю скончыць ва ўсіх калгасах работу па размеркаванню даходаў, з тым каб не пазней 13—14 сакавіка даныя па размеркаванню даходаў былі-б прадстаўлены Наркамзему і Палітсектару Наркамзема.

Даручыць Сельгасаддзелу ЦК на працягу бліжэйшай дэкады, сумесна з Палітсектарам Наркамзема арганізаваць выбарачную праверку па раёнах і паасобных МТС ходу выканання гэтай пастановы пленума ЦК. У выпадку невыканання да 10 сакавіка РК і палітаддзеламі гэтай пастановы, пытанне аб рабоце даных РК і палітаддзелаў абгаварыць асобна на Бюро ЦК, з прыняццем адпаведных мерапрыемстваў у адносінах гэтых РК і палітаддзелаў.

Пленум ЦК асоба адзначае дрэнную пастаноўку работы па размеркаванню даходаў у наступных раёнах: Ушацкім (23 проц.), Чавускім (22 проц.), Лагойскім (20 проц.), Клімавіцкім (17 проц.), Горацкім (53 проц.), Сенненскім (33 проц.), Талачынскім (39 проц.), Мсціслаўскім (19 проц.), Бягомельскім (41 проц.), Крычаўскім (32 проц.), Глускім (30 проц.), і па асобных зонах МТС—Дубровенскай: з 96 калгасаў размеркавана ў 33-х, Лагойскай са 109—у 22-х, Ушацкай з 73—19. Пленум таксама адзначае недапушчальнасць такіх фактаў, як непрадстаўленне вестак аб размеркаванні даходаў раёнамі: Крупскім, Чырвонапольскім, Камарынскім і Хойніцкім і даручае Сельгасаддзелу і Палітсектару НКЗ асобна праверыць работу ў гэтых раёнах і МТС.

# Аб вывазцы гною на палі

## Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

Выходзячы з таго, што зацверджаны план па вывазцы гною ў раённым разрэзе да ўстаноўленага тэрміну не выканан (у сучасны момант выканана ўсяго толькі на 16 проц.), што ставіць пад прамую пагрозу выкананне важнейшай задачы павышэння ўраджайнасці ў 1934 г., пленум ЦК партыі, разам з начальнікамі палітаддзелаў МТС і сакратарамі РК лічыць неабходным:

1) Сакратарам РК, начальнікам палітаддзелаў зараз-жа, па прыездзе на месцы, праверыць ход выканання вывазкі гною на палі па калгасах, соўгасах, а таксама па аднаасобнаму сектару (па лініі МТС праверыць начальнікам палітаддзелаў) з такім разлікам, каб у кожным калгасе, соўгасе (а па сельсоветах—па аднаасобнаму сектару) былі-б выдзелены адпаведныя таварышы, адказваючыя за гэту справу, з тым каб асабістай праверкай сакратаром РК, старшынёй РВК, начпалітаддзела, дырэктарам МТС і асноўным актывам як раёна, так і палітаддзела забяспечыць такі паварот у гэтай справе, каб безумоўна цалкам выканаць план да 20 сакавіка.

У апаратах як РК, так і палітаддзелаў павінна быць устаноўлена двухдзённая праверка ходу вывазкі гною на палі ў першую чаргу па важнейшых і рашаючых соўгасах, калгасах.

Устанавіць пяцідзнеўныя зводкі з такім разлікам, каб па гэтых пяцідзнеўных зводках у Наркамземе, а па лініі соўгасаў—у Наркамсоўгасаў прымаліся кожны раз адпаведныя канкрэтныя мерапрыемствы, забяспечваючыя падцягванне найбольш адстаючых у гэтай справе раёнаў са змяшчэннем гэтых зводак у газетах. Даручыць членам Бюро ЦК і членам ЦК, шляхам асабістай праверкі і выезду на месцы правяраць ход выканання гэтай дырэктывы.

---

# Аб ходзе лесазагатовак і лесавывазкі

## Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае недапушчальнае выкананне плана першага квартала па дрэвалесазагатоўках і лесавывазцы (на 20 лютага гг. загатоўлена будаўнічай—64,9 проц., вывезена 57 проц., загатоўлена дроў 51 проц., вывезена 51,9 проц.), што пагражае зрывам выканання квартальнага плана. Такое адставанне ў лесавывазцы тлумачыцца тым, што лясны апарат зверху да нізу (Упоўнаркамлес, трэст Лесбел, ЛПГ і лесаўчасткі) не змаглі па-сапраўднаму ўзяцца за выкананне рашэнняў XVII з'езда партыі, не змаглі бальшэвіцкім правядзеннем гэтых рашэнняў забяспечыць перамогу на лесазагатоўчым фронце. Адначасова большасць раённых партыйных і савецкіх арганізацый недаацанілі важнасці лесазагатоўкі і лесавывазкі і арганізацыйна не забяспечылі выкананне задання і прадаставілі справу лесазагатовак самацёку.

Пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. За непрыняцце мер па забяспечанню выканання задання абвясціць вымову сакратару Ельскага РК КП(б)Б т. Власенка, старшыні Ельскага РВК т. Нікіфаровічу.

2. Прыняць да ведама паведамленне т. Балціна, што за зрыў плана лесазагатовак і вывазкі зняты з работы і аддан пад суд дырэктар Ельскага ЛПГ т. Курылаў, вынесены суровыя вымовы дырэктарам Лельчыцкага ЛПГ т. Мухаеву, Крупскага ЛПГ—т. Кагану, дырэктару Суражскага ЛПГ т. Вольперу і папярэджаны дырэктары: Быхаўскага ЛПГ т. Кезік і Петрыкаўскага ЛПГ т. Булатоўскі.

3. Папярэдзіць сакратароў РК КП(б)Б і старшынь РВК раёнаў: Крупскага—тт. Штэйнгарта і Скарахода; Быхаўскага—тт. Рэзніка і Грынкевіча; Суражскага—тт. Гундзерава і Русака; Лельчыцкага—тт. Асінскага і Кушнера; Петрыкаўскага—тт. Арашчука, Града, а таксама сакратароў РК, старшынь РВК і дырэктароў ЛПГ Горацкага раёна тав. Вільчэка, Лабанава, Астроўскага; Клічаўскага—тт. Цішкевіча, Грыбаедава і Шэрмана; Лагойскага—тт. Цайлінгольда, Аноцкага і Бікмана; Нараўлянскага—тт. Казачонка, Элькіна і Навіцкага і Лепельскага—тт. Хіжынкова, Закоркіна і Піцельнага, што калі імі не будуць прыняты рэальныя меры па забяспечанню выканання плана 1-га квартала да 20-III—34 г., да іх будуць прыняты суровыя меры ўздзеяння як за зрыў важнейшых заданняў партыі і ўрада.

4. Абвясціць з 1-га па 20 сакавіка двухдэкаднік поўнага завяршэння плана 1-га квартала 1934 г. па лесазагатоўках і вывазцы лесу.

Абавязаць РК КП(б)Б, РВК і дырэктароў ЛПГ забяспечыць поўнае выкананне квартальнага плана не пазней 20/III—34 г.

5. Абавязаць дырэктароў ЛПГ і старшынь РВК арганізаваць штодзенны кантроль за выкананнем заключаных дагавароў, прымяняючы

да ўхіляючыхся ад выканання дагавароў і абавязацельстваў суровыя меры ўздзеяння, і даць рашучы адпор кулацкаму сабатажу на лесазагатоўках. Абавязаць дырэктароў ЛПГ поўнасцю выканаць свае абавязкі перад калгасамі і аднаасобнікамі, узятыя па дагаварах. Абавязаць тт. Розіна і Шапіра ў дэкадны тэрмін поўнасцю ліквідаваць усю старую запазычанасць.

Даручыць т. Кузьміну праводзіць праз раённую пракуратуру сістэматычны кантроль за выкананнем дагавароў як з боку ЛПГ, так і калгаснікаў і аднаасобнікаў.

6. Абавязаць дырэктароў леспрамгасаў, начальнікаў лясных участкаў на час дэкадніка перакінуць непасрэдна ў лес не менш 75 проц. адміністратыўна-тэхнічнага персанала, устанавіўшы штодзенны кантроль за работай кожнага лясного ўчастка і кожнай дзялянкі.

Ускласці персанальную адказнасць на дырэктароў леспрамгасаў і начальнікаў лясных участкаў за поўнае скарыстанне прадастаўленай у іх распараджэнне гужавой і рабочай сілы.

Абавязаць старшынь сельсаветаў і старшынь калгасаў пры адпраўцы калгаснікаў і аднаасобнікаў у лес на далёкую адлегласць, сачыць за тым, каб выяжджаючыя забяспечылі сваіх коняй сенам на ўвесь час прабывання іх у лесе, каб пазбегнуць адрыву фурманак для дастаўкі фуража.

Абавязаць старшынь калгасаў і сельсаветаў выяжджаць перыядычна ў лес, дзе занята іх рабочая сіла, і на месцы правяраць работу і растлумачваць важнасць выканання абавязацельстваў колькаснага і якаснага парадку.

7. Абавязаць РК КП(б)Б, РВК і ЛПГ безадкладна правесці арганізацыйна-масавую работу сярод калгасаў і аднаасобнікаў, выканаўшых свае абавязкі па дагаварах з леспрамгасамі і па самаабавязацельствах або блізкіх да выканання, аб узяцці імі на час двухдэкадніка дадатковых абавязацельстваў па загатоўцы і вывазцы.

Уся работа па правядзенню двухдэкадніка павінна праводзіцца на падставе соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж калгасамі, сельсаветамі, вёскамі і брыгадамі. Арганізаваць у калгасах, с.-с., лесаўчастках і раёнах чырвоныя дошкі ўдарнікаў лесазагатовак і вывазкі.

8. У дадатак да існуючых фондаў прэміявання ў леспрамгасах выдзеліць пры Ўпоўнаркамлесе фонд у размеры 100.000 руб. для прэміявання лепшых калгасаў, калгаснікаў, аднаасобнікаў, працаўнікоў сельсоветаў і раённых арганізацый па прадстаўленню РВК.

9. Прапанаваць РК КП(б)Б неадкладна па атрыманню гэтага рашэння мабілізаваць для работы па лесазагатоўках і вывазках не менш 50 проц. адказнага актыву (тыпу членаў бюро РК, прэзідыума РВК і загадчыкаў аддзеламі), даўшы кожнаму канкрэтнае заданне, усклаўшы поўную персанальную адказнасць на іх за выкананне даручэння на даным участку і абавязаўшы іх не абмяжоўвацца толькі прыездам у сельсовет і на вёску, а быць непасрэдна на месцы правядзення работы. Сакратарам РК КП(б)Б асабіста правяраць работу гэтых упаўнаважаных.

10. Для аказання дапамогі раённым арганізацыям і сельсоветам безадкладна накіраваць 14 адказных работнікаў цэнтральнага партактыва. Тэрмін выезду—1 сакавіка. Адначасова прапанаваць т. Розіну накіраваць у леспрамгасы і на ўчасткі дадаткова да раней прысланых па сістэме ўпоўнаркамлеса 10 адказных працаўнікоў.

Прапанаваць Гомельскаму ГК камандзіраваць з Гомеля 6 ч. адказных людзей па раёнах, уваходзячых у склад Гомельскага леспрам-

гаса (Тэрэхоўка, Ветка, Лоеў), паведаміўшы прамаддзелу ЦК іх прозвішчы не пазней 2/III—34 г.

Прапанаваць Віцебскаму ГК мабілізаваць 4 ч. адказных таварышоў тыпу членаў бюро ГК і прэзідыума РВК у Лёзненскі раён.

Прапанаваць Оршанскаму РК вылучыць 3 адказных таварышоў для барацьбы за выкананне плана па ўчастках Оршанскага леспрамгаса (Дубровенскі і Сенненскі раёны).

11. Устанавіць на час двухдэкадніка кругласутачнае дзяжурства ў СНК, Упоўнаркамлеса, Лесбела, РВК і ЛПГ для тэрміновага вырашэння пытанняў, якія ўзнімаюцца месцамі.

12. Даручыць рэдактару газеты «Звязда» т. Брагінскаму, а таксама рэдактарам раённых газет сістэматычна змяшчаць на старонках газеты трохдзенкі выканання плана, выдзяляючы асобна перадавыя і адстаючыя раёны.

# Аб мясазагатоўках і мясавывазках

## Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае прамую пагрозу зрыву выканання плана мясазагатовак 1-га квартала 1934 г. і адгрузкі мяса Ленінграду, стварыўшуюся ў выніку нездавальняючага становішча работы райкомаў у гэтай галіне.

Разам з тым пленум ЦК лічыць, што такое становішча справы з выкананнем мясазагатовак і адгрузкі мяса Ленінграду ставіць таксама пытанне аб кепскай рабоце кіраўніцтва Наркамснаба.

Выходзячы з гэтага, пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Абавязаць сакратароў ГК і РК КП(б)Б пад іх асабістую адказнасць, адазваўшы з 5/III—34 г. упаўнаважаных ЦК і Наркамснаба, безагаворачна выканаць план мясазагатовак першага квартала не пазней 15/III г. г.

2. Даручыць бюро ЦК КП(б)Б прыняць неабходныя меры да палепшання становішча работы НКСнаба.

3. Не пазней 1/IV—34 г. поўнасцю спагнаць нядоімкі па 15-месячнаму плану мясазагатовак у аб'ёме 75 проц. у 1-м квартале, прымяняючы да недаімшчыкаў прадугледжаныя законам меры ўздзеяння.

Прапанаваць Наркам'юсту т. Кузьміну арганізаваць нечарговы разгляд спраў злосных недаімшчыкаў і ў выпадку неабходнасці з выездам на месцы.

4. Лічачы зусім недапушчальным непрадстаўленне спісаў недаімшчыкаў раёнамі для спісання недаімак, згодна ўказанню СНК БССР, папярэдзіць, што пасля 5-га сакавіка ніякія спісы разглядацца не будуць.

5. Папярэдзіць сакратароў гаркомаў і райкомаў КП(б)Б, асоба адстаючых раёнаў (Саладухін, Кузьмін, Каўрыгін, Анісаў, Тарасевіч, Шафарэнка, Кайкоў, Кулікаў, Лапацін, Скараход, Кавалёў, Шокаль і інш.), што калі ў бліжэйшыя дні не будзе дасягнута рэзкага ўзмацнення загатовак, будуць зроблены адпаведныя вывады; 7-III—34 г. заслухаць даклады сакратароў РК у сельгасаддзеле ЦК.

6. Райкомам і гаркомам сумесна з Наркамснабам у пяцідзенны тэрмін пераглядзець увесь склад апарата райкантор Заготжывёлы, не адцягваючы яго ні на якія мабілізацыі да поўнага выканання плана мясазагатовак, і ўзмацніць кіруючы склад, у прыватнасці, наступных раёнаў: Прапойск, Клічаў, Лельчыцы, Расоны, Сянно.

7. Абавязаць Наркамснаб БССР поўнасцю выканаць план першага квартала па адгрузцы Ленінграду к 15/III—34 г.

Абавязаць камітэт па перавозках пры СНК БССР неадкладна забяспечыць падачу вагонаў пад пагрузку наяўнай жывёлы на прыстанцыйных пунктах і забяспечыць бесперабойную падачу вагонаў на

заяўках райкантор Заготжывёлы. Начальнікам палітаддзелаў участкаў прасачыць за ходам адгрузкі мясажывёлы Ленінграду.

8. Даручыць Наркамснабу апаратыўна прыняць усе меры да неадкладнай засыпкі фуражных рэсурсаў у месцах найбольшага скаплення жывёлы з тым, каб не дапусціць страты ў вазе і падзежу.

9. Даручыць Бюро ЦК на бліжэйшым паседжанні разгледзець пытанне і адносіны тых сакратароў РК КП(б)Б, якія, не паставіўшы ў раёне работу па мясазагатоўках і вывазцы, зрываюць план мясазагатовак.

10. У адносінах дырэктывы, данай т. Тышкевічам (сакратар Клічаўскага РК), даручыць бюро разгледзець гэту справу.

## Аб памольным зборы

### Пастанова пленума Ц КП(б)Б

1. Адзначыць, што да апошняга часу райарганізацыі не аддавалі належнай увагі рабоце прадпрыемстваў сельгасмукамолля і паступленню гарнца. Толькі за апошнія дзве дэкады пасля ўтрымання нявыкананай часткі гарнца з фондаў мясцовага снабжэння мясцовыя арганізацыі сталі займацца пытаннямі памольнага збору.

2. Ухваліць рашэнні бюро ЦК і СНК аб утрыманні з фондаў мясцовага снабжэння ўсёй нявыкананай часткі гарнца і даручыць бюро ЦК прадаўжаць і ў далейшым меры ўздзеяння па раёнах, забяспечваючыя выкананне агульнага плана памольнага збору.

3. Абавязаць гаркомы, райкомы КП(б)Б:

а) палепшыць склад гарнцавых кантралёраў, падабраўшы на гэту работу праверанных, энергічных работнікаў;

б) забяспечыць бесперабойную работу млыноў, прыняўшы ўжо цяпер меры папярэджання перабояў у дні паводкі;

в) арганізаваць вываз усяго гарнца з млыноў на заготпункты, не дапускаючы скаплення звыш нармальнай колькасці зярна на млынах.

4. Прапанаваць наркому і Упоўнаркамсоўгасаў узяць на ўчот млыны калгасаў і соўгасаў, арганізаваць кіраўніцтва імі і снабжэнне вытворча-тэхнічнымі таварамі.

5. Ухваліць намечаную рээрганізацыю Мельтрэста і даручыць Упоўкамзаг СНК па БССР паскорыць ажыццяўленне рээрганізацыі.

---

Галоўлітбел №А 2254.
Тыраж 8.470.
397.760 друк. зн. (7 1/4 арк.)
Здана ў набор 7-III—34 г.
Падпісана да друку 23-III—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *А. Жук*



Друкарня імя Сталіна. Зак. № 316.